# КРОПЕЛЬКА ЛІТВЫ

Інтэрнацыянальнае і нацыянальнае, магчымасці раскрыцця патэнцыялу савецкай дэмакратыі, рэгіянальны гасразлік — вось аб чым сёння ў нашым грамадстве ідуць самыя гарачыя дыскусіі.

Плата за адыход ад ленінскай пазіцыі ў разуменні наладжвання магутнай федэратыўнай дзяржавы — гэта не толькі Сумгаіт ці Фергана, «ніць надзеі» ад Вільнюса да Таліна 23 жніўня ці хвалі забастовак у Малдавіі. Трывога за сваё будучае і будучае дзяцей мільёнаў «мігрантаў», «дзедаўшчына па нацыянальнай адзнацы» ў арміі, падзел пакупнікоў у магазінах на «мясцовых» і «чужых» — гэта таксама расплата тых, хто жыве сёння, за няправедную справу тых, хто быў ля дзяржаўнага руля дзесяцігоддзі назад і нават яшчэ, здаецца, толькі ўчора.

Але якая ні вострая цяпер сітуацыя, тым не менш М. С. Гарбачоў у дакладзе «Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах» меў усе падставы заявіць: «У жыцці нашага грамадства пастаянна праяўляецца брацкая дапамога, супрацоўніцтва, прыналежнасць да спраў і клопатаў адзін аднаго. Хоць, як я ужо сказаў, сёння ў міжнацыянальных адносінах мы сутыкаемся з сур'ёзнымі канфліктамі і назбіранымі праблемамі». А гэта такія праблемы, з якімі кожны з нас у любых кутках дзяржавы, рэспублікі, вобласці сутыкаецца кожны дзень. Таму што яны не могуць не «праецыравацца» на кожны горад, вёску, хату...

Нядаўна ў «Беларусь» прыйшоў ліст:

«Паважаная рэдакцыя! У студзеньскім нумары вашага часопіса быў надрукаваны матэрыял «Кропелька Расіі». Вельмі цікава было даведацца, што ў Гомельскай вобласці ёсць вёскі, якія ўваходзяць у склад РСФСР. Між тым, у Воранаўскім раёне ёсць яшчэ адна такая ж «кропелька» — толькі належыць яна Літоўскай ССР. Раскажыце, калі ласка, і пра тыя мясціны. В. Пашук, Смаргонь».

Што ж, чаму б, сапраўды, не расказаць!

● Буяе пустазелле на месцы былой вёскі.

● Асцярожны лось выйшаў з літоўскага лесу паласавацца беларускай грэчкай.

● Надзея Якаўлеўна Занегіна ля дома ў Пагіраі.

Фота аўтара.





Шальчынінкай — гарадок дагледжаны, утульны. Над будынкам Дома Саветаў лунае нязвыклы пакуль што для свежага вока трохколерны нацыянальны флаг Літвы. Пасяджэнне за дзвярамі кабінета першага сакратара райкома партыі зацягвалася, але даводзілася чакаць, бо там знаходзіўся дырэктар саўгаса «Шальчынінкай» Войцех Антонавіч Шылко, з якім хацелася сустрэцца. Як удалося высветліць, «кропелька Літвы» належыць менавіта гэтай гаспадарцы.

Паступова з людзьмі, якія таксама некага чакалі ў прыёмнай, завязалася гутарка. Адразу ж размова пайшла аб перабудове, аб праблемах міжнацыянальных адносін. Адчувалася, што трывожна, неспакойна сёння многім у Літве. Напрыклад, паведамілі, што недзе каля васьмідзесяці працэнтаў насельніцтва раёна — палякі, а паўстала пытанне аб літоўскім грамадзянстве. Ці ж усе яны вытрымаюць строгі экзамен на веданне літоўскай мовы, як таго патрабуе «Саюдзіс»? Ці не пара ў сувязі з гэтым стварыць польскую аўтаномію ў межах рэспублікі? Дарэчы, ужо ў Мінску я даведаўся з газет, што сесія раённага Савета Шальчынінкайскага раёна выказалася за стварэнне ў сваім раёне менавіта такой аўтаноміі.

Пытанні, пытанні... Абмяркоўвалі мае субяседнікі і прапановы аб выхадзе Кампартыі Літвы са складу КПСС, аб літоўскім камсамоле, аб мітынгах, дэманстрацыях, шэсцях. З горыччу гаварылі аб выпадках, калі некаторыя з экстрэмістаў спальвалі дзяржаўныя флагі СССР... Шчыра зайздросцілі нам, беларусам: усё-ткі, напэўна, спакойна адчуваюць сёння ў нашай рэспубліцы людзі розных нацыянальнасцей.

Гадзіны праз тры (ох, ужо гэтыя пасяджэнні...) дзверы кабінета адчыніліся, але дырэктар саўгаса змог затрымацца не болей як паўхвіліны. Некуды вельмі спяшаўся. «Гаворыць з журналістам? Няма часу». Але параіў сустрэцца з сакратаром партыйнай арганізацыі гаспадаркі. Няхай. Да такіх сітуацый карэспандэнтаў трыццаць гадоў прывучваюць.

Люцыя Іванаўна Амбражук — беларуска па нацыянальнасці. Семнаццаць гадоў ужо жыве ў Шальчынінкаі.

Яна ахвотна згадзілася быць маім гідам. І перш-наперш прапанавала... з'ездзіць на тэрыторыю Літвы, што акружана землямі гаспадарак Воранаўскага раёна. Па прамой ад цэнтра саўгаса — дванаццаць кіламетраў.

Звычайная палявая дарога. Звычайныя вёскі ўзбоч яе. І калі б не тлумачэнні парторга, не адрозніў бы, якая з іх літоўская, якая — беларуская. Непадалёку калгас «Анжадава» Ашмянскага раёна, племянная база «Беняконі» і калгас імя Мічурына Воранаўскага раёна. Сувязі з імі — звычайныя, рабочыя, дапамагаюць адзін аднаму ў выпадку неабходнасці то насеннем, то запчасткамі.

Нарэшце праскочылі невялікі кавалачак поля, і машына спынілася на зялёным лужку пад вялікімі ліпамі. Вёска Пагірай стаяла тут, на ўзвышшы. Краявід — залюбуешся! А азірнешся навокал, дык усю «кропельку Літвы» можна агледзець амаль з аднаго месца.

Люцыя Іванаўна ахвотна паказвае мясціны, па якіх праходзіць «граніца», ахвотна, добразычліва дае падрабязныя тлумачэнні.

— Вунь лясок, праз паўкіламетра,— ужо беларускі. Лагчынка, што крыху лявей,— наша. Бярэзнічак таксама да Літвы адносіцца. І хутар унізе — бачыце? — дзе саўгаснае поле праходзіць. Сёлета вырошчваем тут жыта, ячмень. Частку поля адвялі пад соткі для бульбы. Зямля добрая, урадлівая. Пасеку вунь паставілі. Пчолы нашы, а мёд яны бяруць вунь з той грэчкі, яна ўжо належыць беларускаму калгасу імя Мічурына. Не крыўдуюць суседзі — наадварот — задаволены. Нам — мядок, ім — ураджай...

Цішынёй і спакоем дыхала навокал прырода. Сырасцю патыхала ад старога запушчанага яблыневага саду. Прыемна казытаў нос пахкі водар падсушанага сена... Увесь гэты зялёны астравок сярод поля, дзе была некалі вёска, здаваўся нейкім загадкавым, таямнічым і чамусьці нагадваў старую, закінутую панскую сядзібу. Дарэчы, амаль так яно і было, бо да вайны зямля належала нямецкаму барону.

Люцыя Іванаўна даўно ўжо сама зацікавілася гісторыяй з'яўлення гэтай тэрыторыі саўгаса на ўскраіне беларускага раёна. Пазнаёміла мяне з альбомам, у якім сабраны дакументы, успаміны:

— А барон жа тутэйшы гаспадарлівы быў надзвычайна, нават кніга была выпушчана ў свой час аб яго пошуках і эксперыментах. Ужо тады прымяняў навукова абгрунтаваныя поўныя севазвароты, уносіў у глебу комплекс патрэбных мінеральных угнаенняў. Развіваў і перапрацоўчую прамысловасць. Дзейнічалі свае сыраварні, малаказавод, спіртзавод...

Багаты гаспадар купіў кавалак лесу за дванаццаць кіламетраў ад свайго памесця. Раскарчаваў яго, зрабіў поле. Каб лепш было каму даглядаць тут зямлю, пабудаваў некалькі вялікіх дамоў, пасяліў сем'і сваіх рабочых... Былі тут у свой час і канюшня, і ферма, і склады, і сыраварня... Але пасля вядомага цяпер «пакта Молатава — Рыбентропа» давялося барону ўсё багацце сваё кінуць і ўцякаць у Германію. Забягаючы наперад, дадам, што Люцыя Іванаўна паведаміла, як некалькі гадоў назад прыязджаў з Канады яго сын, размаўляў са старымі людзьмі, якія памятаюць яго бацьку.

Спачатку зямля гэта была беларуская. Спецыяльнай пастановай СНК БССР і ЦК КП(б)Б № 902 ад 22 чэрвеня 1940 года тут быў арганізаваны саўгас «Вялікія Салечнікі», адносіўся ён да Воранаўскага раёна Баранавіцкай вобласці. У альбоме з гісторыяй саўгаса былі нават копіі дакументаў, у якіх пералічвалася ўся маёмасць, жыўнасць і плошчы той гаспадаркі. Аднак ужо праз месяц усё гэта стала належаць літоўскаму саўгасу. Вёскі вакол, дзе жылі беларусы, так і засталіся беларускімі, а вось людзі Вагнера выказалі жаданне, каб іх далучылі да Літвы. Урад у Маскве належным чынам аформіў дакументы.

Шчыра кажучы, сумна было бачыць запусценне былой вёскі. Пустазелле вышэй чалавечага росту расло на месцах былых двароў. Сёння ў Пагірai засталіся толькі тры пабудовы. Адна з іх зарасла бур'яном, нават сцежкі да дзвярэй няма. У другой, пад прагнілай страхою, артэзіянская свідравіна. Дарэчы, дзейнічае і зараз, а некалі ж — ішла адсюль вада да жывёлагадоўчых памяшканняў. У трэцім доме жывуць людзі. Двое. Надзея Якаўлеўна Занегіна і сын яе Віктар Міхайлавіч.



Чаму ж запусцела вёска? Саўгасны парторг Л. І. Амбражук лічыць, што ва ўсім вінавата палітыка «неперспектыўных вёсак». Не надавалі ім у свой час увагі, перасялялі людзей у цэнтр. І вось вынік.

Амаль побач, на беларускім хутары, жыве Феліксс Браніслававіч Кіслоўскі.

— Спазніліся вы прыехаць сюды гадоў гэтак на... дваццаць,— сказаў ён пры сустрэчы.— Кіпела раней усё тут. Але ж суседцы маёй дык нават можна і пазайздросціць, электрычнасць падведзена. А пра нас ніхто і не паклапоціцца. Пяць хутароў нас тут ля вёскі Лушчыкі Канвялішкаўскага сельсавета, а святла нідзе няма. І газы ў апошні час не дакупішся. Сядзіш з лучынай. Не, што ні кажы, а новы флаг вывесіць ці лозунгі новыя — гэта адно, а тое, што жыццё ўсё горшае — гэта зусім іншае.

...Так, перспектывы ў «неперспектыўных вёсках» і сёння даволі цьмяныя. Пройдуць гады, і зраўняюцца з зямлёй былыя дамы. І тут, у гэтай «кропельцы Літвы», як у маленькай кропельцы расы, бачацца ўсе тыя праблемы, якімі жыве сёння наша краіна. Праблемы — складаныя, балючыя, неадкладныя. Але і вырашыць іх можна толькі ў дружнай сям'і, у згодзе.

**Пленум ЦК КПСС скрупулёзна разгледзеў усе аспекты ўзаемаадносін нацый на сучасным этапе і сваімі рашэннямі змацаваў падмурак раўнапраўнаму развіццю ўсіх народаў. Галоўнае тут, каб адзін народ з павагаю адносіўся да культуры, мовы, нацыянальных звычак і асаблівасцей другога. І не толькі павіжаў — дапамагаў людзям воляю лёсу тэрытарыяльна адарваным ад сваёй нацыі зберагчы яе дух, так сказаць, жыць і развівацца паўнацэнна, адрадзіць забытае, нацыянальную свядомасць і культуру.**

**Першыя крокі, магчыма, яшчэ сціплыя, нясмелыя, у гэтым напрамку ўжо зроблены і робяцца. Ствараюцца зямляцтвы, мацуецца нацыянальная еднасць: прыйшоў час не ўтойваць, як гэта часам рабілася, сваю нацыянальнасць, а ганарыцца належнасцю да яе. Вучыць забытую мову, пісаць і чытаць на ёй. У нас, на Беларусі, адкрываюцца беларускія, ды і не толькі беларускія, а і польскія, літоўскія і іншыя класы і школы. У той жа Літве — беларускія. Дзеці пакутнай Арменіі амаль паўсюдна, дзе б яны зараз ні жылі, атрымалі магчымасць, хоць і з вялікімі цяжкасцямі, працягваць вучыцца на роднай мове.**

**Акрыялі работнікі літаратуры і мастацтва. У нас створаны таварыства беларускай мовы, таварыства аматараў яўрэйскай культуры. І гэты рух шырыцца, расце. У Эстоніі, напрыклад, створана Асацыяцыя нацыянальна-культурных таварыстваў, першы форум якой прыняў заяву аб арганічным існаванні розных народаў у нацыянальнай рэспубліцы, аб дасягненні стабільнага стану грамадзянскага міру і грамадскага адзінства. Падкрэслівалася імкненне садзейнічаць дэмакратычным пераўтварэнням, абнаўленню грамадства.**

**У краіне паўсюдна ідзе перабудова. Яна закранула і набалелыя нацыянальныя пытанні. Пазначыла шляхі іх вырашэння. Трэба вітаць гэта. І кожнаму грамадзяніну СССР, якой бы нацыянальнасці ён ні быў,— садзейнічаць пленнаму наладжванню нашых нацыянальных адносін, мацаваць дружбу і ўзаемаразуменне. У гэтым залог культурных і эканамічных поспехаў.**

**Дзмітрый ЛУПАЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт**
**«Беларусі».**



# ЗАКОН, ПА ЯКІМ

**КАЛЯ СТА ЗАКОНАЎ НЕАБХОДНА ВЫПРАЦАВАЦЬ У БЛІЖЭЙШЫ ЧАС КАМІТЭТУ ПА ПЫТАННЯХ ЗАКАНАДАЎСТВА, ЗАКОННАСЦІ І ПРАВАПАРАДКУ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР, КАБ СТВАРЫЦЬ ПРАВАВУЮ СІСТЭМУ, ЯКАЯ Б АДПАВЯДАЛА СТАНДАРТАМ ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ. ШТО Ж ГЭТА ТАКОЕ — ПРАВАВАЯ ДЗЯРЖАВА? ЧАМУ РЭГУЛЯВАЦЬ ГРАМАДСКІЯ АДНОСІНЫ ПАВІНЕН ЗАКОН? І ЧАМУ ДА ГЭТАЙ ПРАБЛЕМЫ МЫ ЗВЯРНУЛІСЯ МЕНАВІТА ЦЯПЕР?**

*Ад рэдакцыі:*

*калі гэты артыкул рыхтаваўся да друку, мы атрымалі паведамленне, што Вярхоўны Савет БССР прызначыў В. Г. Ціхіню міністрам юстыцыі Беларусі.*

Прававая дзяржава — адна з вышэйшых сацыяльных каштоўнасцей, уласцівых цывілізаванаму грамадству.

Гісторыя сведчыць аб тым, што ідэя прававой дзяржавы актыўна выкарыстоўвалася прагрэсіўнымі мысліцелямі ў барацьбе супраць тыраніі, культу асобы, правадырызму.

У нашым друку нярэдка можна сустрэць меркаванне, што сацыялістычная прававая дзяржава склалася неўзабаве пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, але пазней культ асобы Сталіна нібыта ліквідаваў гэту дзяржаву. Такое сцвярджэнне памылковае. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, ва ўмовах вострай класавай барацьбы, калі, па словах У. І. Леніна, Савецкую ўладу «хапалі за горла», пастаноўка пытання аб сацыялістычнай прававой дзяржаве наўрад ці была б абгрунтаванай. Пазней, калі наша краіна распачала ажыццяўленне ленінскага плана будаўніцтва сацыялізму, як слушна зазначае вядомы савецкі вучоны-юрыст, народны дэпутат СССР С. С. Аляксееў, «магчыма, маглі б з'явіцца перадумовы для фарміравання прававой дзяржавы».

У гады культу асобы Сталіна ва ўмовах аўтарытарнай, каманднa-адміністрацыйнай сістэмы кіравання адбылася дэфармацыя савецкай прававой сістэмы. Распаўсюджаны характар набыло ў тыя гады грубае парушэнне правоў чалавека. Праз «жорны» сталінскіх рэпрэсій прайшлі мільёны савецкіх людзей. У 30—40-я гады савецкае права, на жаль, не стала шчытом, які б абараніў грамадзян ад самавольства, грубых парушэнняў законнасці. Па сутнасці, усе «шлюзы» для нястрымнага злоўжывання ўладай аказаліся адкрытымі.

Пасля XX з'езда КПСС па ініцыятыве М. С. Хрушчова ў нашай краіне былі зроблены важныя крокі, накіраваныя на аднаўленне ленінскіх прынцыпаў сацыялістычнай законнасці: ліквідаваны пазасудовыя карныя органы, пачалася рэабілітацыя неабгрунтавана рэпрэсіраваных людзей. Аднак меры па ўмацаванню законнасці не былі ажыццёўлены ў поўнай меры. У перыяд брэжнеўскага застою на «кропцы замярзання» апынуліся многія юрыдычныя інстытуты, накіраваныя на абарону правоў асобы. Нярэдка права фактычна падмянялася мэтазгоднасцю. Мы ж імкнёмся з дапамогай прававой дзяржавы зрабіць наша жыццё больш справядлівым, больш дэмакратычным.

Неабходна прызнаць, што сацыялістычная прававая дзяржава ў нашай краіне сёння толькі ствараецца. Ідэя стварэння такой дзяржавы афіцыйна абвешчана на XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі.

У Тэзісах ЦК КПСС да партканферэнцыі, апублікаваных у маі 1988 года, запісана, што нам неабходна **завяршыць** стварэнне сацыялістычнай прававой дзяржавы. На нашу думку, гэты тэзіс ёсць нішто іншае, як «забяганне наперад», імкненне выдаць жаданае за сапраўднае. У свой час мы паспяшаліся абвясціць тэзіс аб пабудове ў СССР развітога сацыялістычнага грамадства. Няўжо гэты сумны ўрок не пайшоў нам на карысць? Не трэба займацца лакіроўкай сацыяльнай рэчаіснасці. Наша дзяржава за ўсю гісторыю свайго існавання ніводнага дня не была прававой дзяржавай. Каб яе можна было лічыць такой, трэба яшчэ вельмі многае зрабіць. Зусім справядліва ў сувязі з гэтым у рэзалюцыі партканферэнцыі «Аб прававой рэформе» гаворыцца, што нам неабходна не **завяршыць**, а **стварыць** сацыялістычную прававую дзяржаву.

Канстытуцыя СССР 1977 года ўтрымлівае шэраг палажэнняў, якія адпавядаюць ідэі сацыялістычнай прававой дзяржавы: замацоўвае прынцып законнасці ў дзейнасці дзяржаўных органаў, службовых асоб; фіксуе асноўныя правы, свабоды і абавязкі грамадзян; замацоўвае раўнапраўе грамадзян, іх роўнасць перад законам і судом, дэмакратычныя прынцыпы правасуддзя; размяжоўвае паўнамоцтвы органаў улады і выканаўчых органаў і г. д.

Якія прыкметы павінны вызначаць сацыялістычную прававую дзяржаву? Чым яна адрозніваецца ад неправавой дзяржавы? У савецкай юрыдычнай літаратуры на гэтыя і іншыя пытанні няма аднaзначнага адказу. Таму сёння прынцыпова важна тэарэтычна абгрунтаваць канцэпцыю прававой дзяржавы і замацаваць яе на канстытуцыйным узроўні.

Прававая дзяржава — форма арганізацыі палітычнай улады пры сацыялізме. Яе фарміраванне ў сучасных умовах перш за ўсё мае на мэце кардынальную рэарганізацыю палітычнай сістэмы. Неабходна забяспечыць поўнаўладдзе Саветаў народных дэпутатаў як асновы сацыялістычнай дзяржаўнасці ў нашай краіне, знізіць узровень цэнтралізаванага дзяржаўнага кіравання. Прававая дзяржава мае на ўвазе і развіццё самакіравання ў жыцці грамадства. Важным элементам рэформы палітычнай сістэмы, неабходным для фарміравання прававой дзяржавы, з'яўляецца стварэнне Камітэта канстытуцыйнага нагляду СССР, які закліка765 сачыць за адпаведнасцю законаў і іншых прававых актаў Канстытуцыі СССР.

Сацыялістычная прававая дзяржава здольна папярэдзіць узурпацыю ўлады і злоўжыванне ёю, быць шчытом ад самавольства і беззаконнасці. У гэтай дзяржаве павінна быць дакладнае раздзяленне ўлад: павінна быць улада, якая абвяшчае законы (заканадаўчая ўлада), і ўлада, якая гэтыя законы выконвае (выканаўчая ўлада); урэшце, павінна быць судовая ўлада. Сур'ёзныя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены, але яшчэ больш трэба зрабіць у бліжэйшы час. Заканадаўчая ўлада павінна падрыхтоўваць праект законаў, абмяркоўваць і прымаць іх з захаваннем дэмакратычнай працэдуры. Выканаўчая ўлада павінна несці палітычную прававую і маральную адказнасць перад народам за невыкананне ўзятых на сябе абавязацельстваў.

У сацыялістычнай прававой дзяржаве павінна быць адказнасць не толькі грамадзяніна перад дзяржавай, але і дзяржава ў неабходных выпадках павінна несці адказнасць перад грамадзянінам. Гэта адзін з важных прынцыпаў дэмакратыі.

Іншы раз можна пачуць такія разважанні: кожная дзяржава з'яўляецца прававой ужо толькі таму, што яна мае законы. Мяркую, гэта вельмі павярхоўнае (калі не сказаць наіўнае) уяўленне аб прававой дзяржаве. Калі мы гаворым аб прававой дзяржаве, то маем на ўвазе не проста наяўнасць у гэтай дзяржаве законаў. У прававой дзяржаве існуе вяршэнства закона, і з гэтых пазіцый далёка не кожная дзяржава можа называцца прававой. Вяршэнства закона азначае, што ўсе зыходныя адносіны ў эканоміцы, палітыцы, сацыяльнай сферы рэгулююцца законам. Усе дзяржаўныя органы і грамадскія арганізацыі, службовыя асобы і грамадзяне павінны дзейнічаць на падставе і ў межах закона. Пры разыходжанні ведамасных актаў або рашэнняў дзяржаўных і партыйных органаў з законам павінен дзейнічаць закон. У прававой дзяржаве нікому (акрамя заканадаўцы) не дадзена права змяняць, адмяняць законы, якія зацверджаны воляй народа і служаць яго інтарэсам. Такім чынам, карэнная рыса сацыялістычнай прававой дзяржавы, як праўобраз, што нам бачыцца, гэта вяршэнства і трыумф закона, які выяўляе волю і інтарэсы народа.

У адпаведнасці з рашэннямі XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі першаступовая ўвага пры фарміраванні прававой дзяржавы павінна быць нададзена прававой абароне асобы. Прыярытэт атрымліваюць агульначалавечыя каштоўнасці. У імя чалавека праводзяцца пераўтварэнні ў эканоміцы, сацыяльнай сферы, палітычнай сістэме. Сёння назіраецца істотны зрух ад фармальна-дэкларатыўнага ўспрымання правоў і свабод грамадзян да іх рэальнай ацэнкі. На першы план выступае забяспечанасць адпаведнымі гарантыямі правоў асобы. Асоба павінна быць

ЖЫЦЬ

абаронена ад любога самадурства. У сувязі з гэтым важнейшая мэта будучай прававой рэформы — забяспечыць абарону свабоды гонару і годнасці савецкіх грамадзян. Кожны павінен быць упэўнены ў абароненасці сваіх правоў. На жаль, сёння гэтага яшчэ сказаць нельга. Вазьміце, да прыкладу, артыкул 136[1] Крымінальнага кодэкса БССР, які прадугледжвае крымінальную адказнасць у сувязі з праследаваннем грамадзян за крытыку. Такіх спраў у нас практычна няма, хоць расправа за крытыку — з'ява не такая і рэдкая. Судовая абарона павінна распаўсюджвацца на ўсе без выключэння канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян. А ў нас, напрыклад, пенсіённае права да гэтага часу пазбаўлена судовай абароны.

Сацыялістычная прававая дзяржава павінна ахоўваць права на іншадумства ў законных формах. Яна павінна дазваляць крытыкаваць сябе, свае інстытуты і службовых асоб. У савецкага грамадзяніна павінен быць «пад рукой» поўны набор юрыдычных сродкаў, з дапамогай якіх ён мог бы ў любы момант абараніць свае правы і законныя інтарэсы. Павінен быць створаны механізм абароны правоў чалавека.

У сацыялістычнай прававой дзяржаве дэмакратыя і законнасць цесна звязаны між сабой. Аднак лозунг перабудовы «Больш дэмакратыі!» не з'яўляецца заклікам да усёдазволенасці. Перабудова не мае нічога агульнага з безадказнасцю, самавольствам і разбэшчанасцю. Дэмакратыя па-за законам — гэта анархія. Не будзе законнасці — не будзе дэмакратыі, народаўладдзя.

Ва ўмовах развіцця дэмакратыі ў нас павінны быць устаноўлены правільныя суадносіны паміж правамі і абавязкамі грамадзян. Калі мы, як гэта цяпер здараецца нярэдка, будзем гаварыць толькі аб правах і свабодах і недаацэньваць пры гэтым абавязкі, то ў першую чаргу зробім замах (жадаем мы гэтага ці не) на правы і свабоды грамадзян. Няма правоў без абавязкаў, як няма і абавязкаў без правоў.

Выкарыстанне грамадзянамі правоў і свабод не павінна наносіць урон інтарэсам грамадства і дзяржавы. Хіба пакінутыя станкі і пустыя студэнцкія аўдыторыі — прыкмета дэмакратыі?! Прававая дзяржава з'яўляецца антыподам самавольства. Яна з'яўляецца асновай радыкальнага ўмацавання законнасці і правапарадку ў нашай краіне. Яна абвяшчае першынство права ў сацыялістычным грамадстве. У сувязі з гэтым намячаюцца радыкальныя змены ў рабоце пракуратуры, міліцыі, арбітражу, г. зн. ва ўсім праваахоўным механізме нашай дзяржавы. Тут нельга абысціся «касметычнымі» паўмерамі. Пракурорскі нагляд вызваляецца ад неўласцівых яму функцый. Адначасова галоўная функцыя пракуратуры — вышэйшы нагляд за законнасцю. Узрастае роль і значэнне адвакатуры ў сістэме сацыялістычнай дэмакратыі. Нам неабходна стварыць прававую сістэму, якая б адпавядала стандартам прававой дзяржавы.

У прававой дзяржаве суд з'яўляецца найбольш важным звяном у сістэме праваахоўных органаў. У цэнтры яго ўвагі павінны быць чалавек, яго правы і законныя інтарэсы. Трэба адзначыць, што многія грамадзяне глядзяць на суд галоўным чынам як на орган прымусу. Відаць, на гэта ёсць свае прычыны: доўгі час у рабоце нашых судоў назіраўся «абвінаваўчы ўхіл». Зараз адносіны да суда мяняюцца. Яго асноўнай функцыяй становіцца абарона правоў асобы. Каб выканаць гэту функцыю як належыць, неабходна ўзняць аўтарытэт суда, забяспечыць безумоўную незалежнасць суддзяў. Да апошняга часу патрабаванне незалежнасці суддзяў і падпарадкаванне іх толькі закону мела ў асноўным дэкларатыўны характар. У адпаведнасці з рашэннямі нечарговай дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета СССР адзінаццатага склікання народны суд як асноўнае звяно судовай сістэмы будзе фарміравацца на аснове двух прынцыпаў: суддзі будуць выбірацца на 10 гадоў вышэйстаячымі Саветамі народных дэпутатаў, народныя засядацелі — на 5 гадоў непасрэдна насельніцтвам па месцу іх работы або жыхарства. У прававой дзяржаве павінна існаваць моцная судовая ўлада.

Сёння без правядзення радыкальнай прававой рэформы нам нельга стварыць прававую дзяржаву. У канцэнтраваным выглядзе асноўныя яе напрамкі вызначаны ў рэзалюцыі XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі «Аб прававой рэформе». Сярод найбольш важных мерапрыемстваў, якія ахоплівае рэформа, на першае месца вынесена рэформа дзеючага заканадаўства. Шэраг законаў з'яўляюцца тормазам на шляху перабудовы савецкага грамадства. Тут неабходна зыходзіць з указанняў У. І. Леніна аб тым, што «калі закон перашкаджае развіццю рэвалюцыі, ён адмяняецца або выпраўляецца».

Па колькасці прынятых законаў і іншых нарматыўных актаў на душу насельніцтва наша краіна, відаць, займае адно з першых месц у свеце. Але мноства законаў яшчэ не паказчык законнасці. У сацыялістычнай прававой дзяржаве павінен быць мінімум законаў, але такіх, якія нельга было б тлумачыць, як кажуць, так і гэтак. І, вядома, законы павінны працаваць.

Сёння ў нас у краіне дзейнічае каля 30 тысяч агульнасаюзных нарматыўных актаў. Больш як палова з іх састарэлі і фактычна не прымяняюцца на практыцы. Ад гэтых «могілак мёртвых законаў» нам трэба як мага хутчэй пазбавіцца. Работа па расчыстцы дзеючага заканадаўства апошнім часам вядзецца вельмі інтэнсіўна. Дастаткова сказаць, што за апошнія гады адменена больш як 100 тысяч ведамасных актаў.

Але ці заўсёды нашы законы выказваюць волю народа? Будзем гаварыць шчыра: не, не заўсёды. Ёсць у нас законы, якія абараняюць інтарэсы толькі асобных міністэрстваў і ведамстваў. У сацыялістычнай прававой дзяржаве гэта недапушчальна.

Да апошняга часу наша заканадаўства разглядалася ў асноўным як сукупнасць забаронных нормаў. Зараз укараняецца новы прынцып: можна ўсё, што не забаронена законам. Гэты прынцып дзейнічае ў дачыненні да грамадзян і працоўных калектываў. Што ж датычыць службовых асоб дзяржаўнага апарату, то тут, на нашу думку, варта зыходзіць з прынцыпу: дазволена толькі тое, што вызначана законам.

У гады застою ў савецкай юрыдычнай навуцы атрымаў перавагу пункт гледжання, што закон павінен рэгуляваць грамадскія адносіны толькі ў самым агульным выглядзе. Да чаго гэта прывяло на практыцы? А да таго, што многія пытанні, не ўрэгуляваныя законам, былі аддадзены на водкуп ведамаснай нарматворчасці. Ведамасныя акты, па сутнасці, звялі на нішто дзеянне многіх законаў. Так здарылася, напрыклад, з Законам аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні). Пасля прыняцця гэтага закона міністэрствы і ведамствы так абклалі яго сваімі інструкцыямі, што многія гаспадарнікі цяпер слушна сцвярджаюць: закон не дзейнічае. Рыхтуючыся да гуманітарнай канферэнцыі 1991 года ў Маскве, нам трэба вывучыць асноўныя падыходы і пункты погляду на праблему фарміравання правоў чалавека ў іншых краінах.

Нам неабходна прывесці наша ўнутранае заканадаўства ў адпаведнасць з сусветнымі стандартамі, нормамі міжнароднага права, у прыватнасці, з выніковым венскім дакументам, хельсінскім заключным актам.

Наша заканадаўства павінна быць стабільным. Толькі такое заканадаўства выхоўвае ў грамадзян паважлівыя адносіны да законаў. Заканадаўства, якое дзейнічае цяпер, нельга назваць стабільным. Чатыры канстытуцыі за 70 гадоў Савецкай улады, гэта, відаць, многавата. У Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, прыняты некалькі гадоў таму назад, унесена ўжо больш як 100 змяненняў і дапаўненняў. Напалову заменены і Кодэкс законаў аб працы Беларускай ССР. На жаль, такіх прыкладаў можна прывесці нямала.

Роля права ў жыцці савецкага грамадства невымерна вырасла. Але ролю права гэтак жа нельга пераацэньваць, як і недаацэньваць. Некаторыя гаспадарчыя кіраўнікі лічаць, што для вырашэння той ці іншай вострай праблемы дастаткова выдаць адпаведны закон. Небяспечная памылка! Права не можа рэгуляваць усё, а вось падарваць аўтарытэт, прэстыж закона неабгрунтаванымі дзеяннямі можна лёгка і хутка.

Каб павысіць якасць законаў, якія прымаюцца, неабходна дэмакратызаваць сам заканадаўчы працэс. Нам неабходны закон аб законе, г. зн. нарматыўны акт, які б рэгламентаваў працэдуру заканатворчасці.

Сацыялістычная прававая дзяржава прадугледжвае высокую прававую культуру грамадзян. Прававая дзяржава і прававое бескультур'е паняцці несумяшчальныя.

Неабходна прызнаць, што сёння ў нас прававая культура грамадзян вельмі нізкая, шырокае распаўсюджанне атрымаў прававы нігілізм. Нярэдка да права адносяцца як да нечага фармальнага, неабавязковага, на што «ў імя вышэйшых інтарэсаў» можна і не звяртаць увагі. У пэўнай часткі насельніцтва назіраецца нявер'е ў сілу закона. Усё гэта, вядома, будзе стрымліваць фарміраванне прававой дзяржавы ў нашай краіне.

На XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі атрымала падтрымку ідэя арганізацыі юрыдычнага ўсенавуча «як адзінай агульнадзяржаўнай, агульнапартыйнай праграмы, якая ахоплівае ўсе пласты насельніцтва, усе кадры ў цэнтры і на месцах». Юрыдычны ўсенавуч павінен павысіць прававую культуру нашых грамадзян, ліквідаваць іх прававую непісьменнасць.

Для аператыўнай інфармацыі грамадзян аб новым заканадаўстве, тлумачэння прававых пытанняў, для азнаямлення з практыкай прымянення законаў карысна было б выдаваць таксама юрыдычную газету.

Савецкія законы павінны ведаць усе. Размова, вядома, ідзе не пра тое, каб усіх пагалоўна зрабіць юрыстамі. Гэта практычна немагчыма, і ў гэтым няма асаблівай патрэбы. Важна, каб нашы грамадзяне мелі пэўны мінімум ведаў аб праве, навучыліся культурна вяваць за свае правы. Сёння гэту задачу без юрыдычнага ўсенавуча нам не вырашыць.

Асобныя міністэрствы і ведамствы імкнуцца дзейнічаць, не лічачыся з патрабаваннямі закона. У шэрагу выпадкаў гутарка ідзе аб непавазе да закона. Практыка прымянення права сведчыць аб тым, што прымусіць паважаць закон намнога больш складана, чым ліквідаваць прававую непісьменнасць. Аднак зрабіць гэта неабходна. Прыклад павагі да закона павінны паказваць найперш партыйныя органы. Сёння нам неабходна адкрытая і дакладная інфармацыя аб стане законнасці ў нашай краіне. Судовая статыстыка павінна публікавацца перыядычна. Першыя крокі ў гэтым напрамку апошнім часам зроблены.

У сучасных умовах ідэя фарміравання сацыялістычнай прававой дзяржавы з'яўляецца арганічнай часткай нашага светапогляду, адлюстроўвае маральна-гуманную сутнасць сацыялізму, яго чалавечыя каштоўнасці і ідэалы.

Шлях да прававой дзяржавы нялёгкі. Беспраблемнай будучыні ў нас няма. Але сёння ў нашай краіне ствараюцца неабходныя палітычныя, сацыяльныя і эканамічныя ўмовы для таго, каб ідэя сацыялістычнай прававой дзяржавы была ажыццёўлена.

**Валерый ЦІХІНЯ,**
**доктар юрыдычных навук,**
**намеснік старшыні**
**Саюза юрыстаў СССР.**



**АРТЫЯ СТРАЧВАЕ СВОЙ** уплыў у народных масах. Партыя пад масіраванай атакай крытыкі. Ці зможа яна і надалей весці народ па нязведаных шляхах перабудовы? Ці вытрымае канкурэнцыю, калі з'явяцца новыя альтэрнатыўныя палітычныя згуртаванні? Ці не чакае КПСС такі ж лёс, які напаткаў Польскую аб'яднаную рабочую партыю...

Такі трывожны лейтматыў лістоў шматлікіх чытачоў, якіх хвалюе і перабудова, і аўтарытэт КПСС.

Трывожацца не без дай прычыны: усё часцей добраахвотна здаюць партыйныя білеты былыя афіцэры, інжынеры, урачы, навукоўцы... Але больш за ўсё — рабочыя. У чым справа? Няўжо і праўда, расчараваліся. Маўляў, КПСС больш сямідзесяці гадоў гучным дзеясловам заклікала будаваць светлую будучыню, біла ў бубны дэмагогіі, услаўляючы самае перадавое грамадства, а прыйшлі... Ледзь не ўся краіна выстраілася патыліцай адзін да аднаго,— у чэргі... Па мыйныя сродкі, па адзенне, па харч... Дэфіцытам стала літаральна ўсё... І мараль, і норавы, і спагада, і рэчы першай неабходнасці...

— Партыя цяперака крытыкуе ўсё тое, чым надта гучна ганарылася ўчора,— так апраўдваўся адзін з тых, хто яшчэ паўгода таму быў камуністам, аднадушна галасаваў на сходах, а сёння... Якраз зручны момант, каб пад «шумок», угнуўшы галаву, схавацца ў натоўпе,— забірайце партбілет, не патрэбен!

Ігар Сяргеевіч перабірае свае паперы, нібы ў іх і ёсць адказ на такое простае, на першы погляд, але разам з тым і складанае пытанне.

— Прычыны розныя... І не толькі «мяшочныя», прабачце за такі выраз. Пэўная частка расчаравана перабудовай. Дэкларавалі адно, а на справе... Пагоршыліся і эканоміка, і маральны клімат грамадства. Не вераць, што нешта зменіцца, а таму не жадаюць несці адказ за няўдачы... «На духу» расказваюць такое, што спакой губляеш... Толькі просяць не называць прозвішчы, бо ўсялякае можа здарыцца. Усяго можна чакаць, бо ўсё ўжо было... Праўда, у большасці, як правіла, «капітулянты» некім пакрыўджаныя. Аднаму вось не далі пуцёўку ў прэстыжны дом адпачынку на поўдзень, а другога абышлі пры дзяльбе дэфіцытных прамтавараў... Неяк сорамна слухаць такое, не па-мужчынску гэта... Праўда, ёсць і іншыя. Прыходзіць да мяне інжынер машынабудаўнічага завода, кладзе заяву: выходжу з партыі. У чым справа? Пайшоў у кааператары. Хаця да поту працуе, але і добрую капейку бярэ, а ў партарганізацыі, дзе ён на ўліку, вуй як косяцца, рвачом і капіталістам абзываюць, вымову закацілі... Шкурнік, кажуць яму, у хаўрусе з жулікамі шчыруеш, таму і сам, канечне ж, жулік! На партсходзе косці «мылілі», дый камісія з райфо ў яговым кааператыве некалькі разоў шныпарыла, парушэнні шукала. Абрыдла да чорцікаў, рашыў: білет пакладу — спакайней будзе...

лічыце, апошнюю надзею адбіраем... Капітулюем!

Бачу, як нялёгка Івану Дзянісавічу гаварыць пра гэта, вельмі нялёгка. Да перабудовы такога не назіралася. Аднадушна ўсё было, у «ёлачку». Зверху планавалі, знізу хуценька рапартавалі: «Ёсць!».

Іван Дзянісавіч памаўчыць якую хвіліну і ўсё пра тое ж прыгадвае:

— Сядзеў адзін такі вось тут тыдзень таму. Хаваючы вочы, тлумачыў, па якой жа прычыне не жадае ўжо «состоять» у членах, як ён выказаўся. Прыгожыя словы шукаў. Расходзіцца яго «платформа» з той, якую партыя наменіла. Я ж цябе наскрозь бачу. Што ты мне ваду на калёсы ліеш. Глядзі мне ў вочы! Атрымаў усё, да чаго імкнуўся. Навошта пнуцца. Пажыць на пенсіі хочаш спакойна і бестурботна. У гэтага падпалкоўніка немалая пенсія, новую кватэру выбіў, дый якую! У самым цэнтры горада, у прэстыжным «генеральскім» доме, палепшанай планіроўкі. Ледзь не зубамі рваў, да камандуючага шмат разоў ездзіў,— давай кватэру! Бачыш, горлам браў: маўляў, я — камуніст, баявы афіцэр, маю права! Такія гарлапаны свайго не ўпусцяць... У акадэмію рашуча лез, бесцырымонна ўсіх расштурхоўваючы... Чакаў жа, ліхадзей, калі свае дзвесце пяцьдзесят пенсіі атрымае, дый ордэр на кватэру ў дадатак, тады ўжо можна і кінуць партбілет на сукно,— не патрэбен!

Не магу цалкам пагадзіцца з Іванам Дзянісавічам. Мо ёсць больш глыбокія прычыны. Цяпер ужо лёгка абвінаваціць усіх агу-

Вячаслаў ДУБІНКА

# КАМУНІСТ ЦІ ПРОСТА

Да старшыні партыйнай камісіі пры Бабруйскім гаркоме партыі Ігара Сяргеевіча Крычко зайшоў сярэдніх гадоў, падцягнуты, апрануты ў парадную афіцэрскую форму, вайсковец. Без пагонаў, але адчуваецца выпраўка. Памаўчаўшы, нібы ўсё яшчэ раздумваючы пра свой учынак, прагаварыў:

— Аддаю... Вяртаю тое, што мне не патрэбна... Ведаеце, доўга думаў, але рашыўся... Дый што тут мямліць. Не хачу і ўсё! Выбываю, значыцца,— з гэтымі словамі былы афіцэр паклаў на стол старшыні партыйнай камісіі свой партыйны білет і, не бавячыся, паспяшаўся да выхаду, каб хаця не даймалі роспытамі.

І праўда ж, была спроба задаць хаця б адно пытанне былому кадраваму вайскоўцу, што ж прымусіла яго на такі ўчынак. Але пачулася яго рашучае:

— Не жадаю! Нагаварыўся... Дэмагогіяй сыты па горла! Пяць гадоў толькі тое і робім, што балбочам, а мне сорамна суседзям прызнацца, што я быў членам...

Гаварыць па душах былы падпалкоўнік не пажадаў...

— Ігар Сяргеевіч,— звяртаюся да згаданага старшыні партыйнай камісіі,— ці многа за апошні час даводзілася мець справу з такімі вось «партыйнымі» дэзерцірамі? Чым яны тлумачаць свой учынак? Колькі гадоў ішоў у авангардзе, а цяпер у кусты...

— Дый не быў ён і ў авангардзе,— са скрухай прамовіў Ігар Сяргеевіч,— калі шчыра, дык капітулянтаў хапае... Пытаецеся пра прычыны?

А вось сакратар партыйнай арганізацыі пры домакіраўніцтве № 3 горада Бабруйска Іван Дзянісавіч Літвіненка і слухаць не хоча пра такія, з дазволу сказаць, ідэйна-палітычныя меркаванні капітулянтаў.

— Біся да апошняга патрона! Зубамі рві, калі рукі не могуць! На талерачцы ніхто нам не паднясе! Прывыклі спаць на хаду, дый у кабінетах утульных за народ вырашаць! А як народ кулаком па стале, дык і галоўкі пагнулі! А ты ідзі ў народ, як нампаліт на перадавой па акопах... Цыгарку дасмаліш, каб пальцы апякла, і ў бой... І не хавайся за спіны, а першым... І пампы памужчынску, калі лёсам наканавана... А тут зачырыкалі. Бачыце, нестандартная сітуацыя... Райкомам незапланаваная...

Гарачыцца Іван Дзянісавіч не без дай прычыны. У гады вайны — баявы лётчык, сотні разоў глядзеў смерці ў вочы, таму і не можа прымірыцца.

— Такая цікавая пара набегла. Народ вочы працірае, дапамагай яму плечы выпрастаць, чалавекам адчуць. Ага, дачакаешся!

Праз хвіліну ён ударыць рубам далоні па стале, выпаліўшы:

— Падпалкоўнікі кідаюць партбілеты. Камбаты, маць вашу! Ціхенька хоча адсездзецца. Навошта хадзіць на партсходы, выконваць даручэнні, трымаць справаздачу перад сваімі таварышамі... І больш таго, удумайцеся! Узносы плаціць не жадае! Лепш на пляшку гарэлкі патраціць! Перад простымі людзьмі мне сорамна! Мы ж у іх,

лам у шкурніцтве і мяшочніцкіх закідах. Працэс, які перажывае краіна, вельмі складаны, балючы. І не кожнаму хапае мужнасці, мудрасці, разважлівасці, грамадзянскай смеласці, каб паглядзець праўдзе ў вочы, дый пры партыйных камісіях варта больш уважліва адносіцца да кожнага «капітулянта». Ці не панёс ён на ўвесь «астатак жыцця» крыўду на партыю?.. У свой час не прыслухаліся, не пагаварылі «па душах».



**А ШТО ДУМАЕ НАКОНТ** такой трывожнай з'явы ў жыцці партыі кіраўнік Бабруйскага гаркома партыі?

— Прычын для панікі не бачу. Нарэшце мы дачакаліся такой пары, калі кожны камуніст павінен спытаць у сябе: «Хто ты і з кім?». Даволі ўсім выстройвацца ў безгалосую шарэнгу. Няхай сумняваюцца, расчароўваюцца. Гэта нармальны працэс. Значыцца, мы жывём, мы рухаемся, мы нешта слушнае робім... І не ў колькасці сіла партыі, а ў якасці... На жаль, вал не абмінуў і нас,— менавіта так пракаменціраваў першы сакратар Бабруйскага гаркома партыі Віктар Паўлавіч Алімбочкаў.— Калі быць шчырым, толькі цяпер мы вучымся змагацца, адстойваць сваю думку, а вучыцца заўсёды цяжка. Заўважу, аднак, што ў многіх камуністаў назіраецца спажывецкая хвароба. Дзе б ні даводзілася сустракацца, хай сабе з мясцовым партактывам, актывістамі-шыннікамі ці на станкабудаўнічым, усюды чуеш рашучае: «Дай кватэру! Дай машыну! Дай імпартныя анучы. Дай! Выдзелі! Забяспеч!». І патрабуюць не старыя, нягеглыя, выпрацаваныя за жыццё, а маладыя камуністы. Ён ужо атрымаў на гэта «права», найпершая адзнака якога — партбілет. Таварышы, ачомайцеся! Хіба вы не ведаеце пра тое, што ў Бабруйску вунь колькі інвалідаў-ветэранаў яшчэ не маюць сваіх кватэр, гаруюць у цесных падвалах, часовых, пасляваенный клёпкі, бараках. Надта вялікая чарга і тых, хто чакае кватэрны тэлефон. Катастрафічна не хапае сродкаў на новыя бальніцы, школы, дзіцячыя сады. А дзе ўзяць грошы на ўпарадкаванне разбітых ушчэнт вуліц. Чакаюць гаспадарлівай рукі скверы, паркі... Ніхто з гэтых «патрабавальнікаў» не паклапаціўся пра тое, каб прапанаваць арыгінальную ідэю ў грамадскую скарбонку: вазьміце ад мяне грошы на дзіцячы дом, папрацаваць жадаю і пайду туды, дзе цяжэй, дзе не хапае мазольных рук.

# ЧЛЕН ПАРТЫІ?

— Ці не замнога ўзяла на сябе партыя,— ціха пярэчу я сакратару гаркома,— яна, па сутнасці, падмяніла дзяржаву і яе органы. Чаму ж так мала чуваць голас гарвыканкома? Ці не адсюль сіндром няправільнага разумення партыйнага кіраўніцтва. Самі сабе паставілі бар'ер, які перашкодзіў КПСС, а разам з тым і грамадству развіваць свае сілы. Адсюль і расчараванне... Адной з прычын, як ні дзіўна, называлася капітулянтамі і гэта. Маўляў, нізавая партарганізацыя не патрэбна, яна не мае рэальнай сілы, ні на што не ўплывае, нічога не вырашае, паўтарае голыя дэкларацыі, спушчаныя зверху, як правіла ўхваляючы іх...

— Распусці на многіх прадпрыемствах нізавыя партарганізацыі і ніхто не заўважыць,— згаджаецца са мной Віктар Паўлавіч і дадае:

— Бачыце, колькі цікавай работы для ўсіх. Адно трэба варушыцца, працаваць трэба...

Яно і праўда, працаваць трэба ўсім. Ніхто на талерачцы не паднясе. Ні каўбасы дзесяці сартоў, ні дэфіцытных бэбахаў.

Аналізуючы статыстыку, як па прыёме ў партыю, так і па выхадзе з яе, заўважаеш, што зменшыўся лік кандыдатаў ад рабочага класа. І кладуць жа білет рабочыя...

Капітулянты па перакананнях? Якія гэта перакананні? Кажаце пра перабудову? Каб жа, каб жа...

З нявыказанай трывогай я кірую да аднаго з тых, хто нагадвае пра сябе: «Я жывы, я ёсць! Наш браняпоезд стаіць... на запасных пуцях».

— Ён не захоча з вамі гаварыць,— папярэдзілі мяне ў гаркоме.— А як даведаецца, што вы карэспандэнт са сталіцы, дык сабаку з ланцужка спусціць — трымайцеся! Гадоў колькі таму па дзецях страляў... Па ягады да яго наважыліся... Дзякуй богу, абышлося без ахвяр.

Ладны дамок бачны здалёку. Ашаляваны, пад шыферам. Шчыльная агароджа з калючым дротам у тры рады. Нешта насцярожанае, пагрозлівае адчувалася тут у гэтым завулку. На брамцы быў намаляваны сабака з пагрозлівай пысай, а за агароджай чуўся ягоны злосны брэх. Доўга я грукацеў ў акаваныя металічнымі палоскамі дубовыя дзверы. Нарэшце, азваўся гаспадар, прыадчыніў дзверы. Няголены твар, шэрыя вочы падазрона ўставіліся на мяне. У руках дзяцюк трымаў даволі адчувальную сукаватку. Не паспеў я і павітацца, растлумачыць, што і да чаго, як ён рашуча адрэзаў:

— На кватэру не бяру! Сала на продаж не маю, да халадоў яшчэ далёка. Кветкі прадаў, а новыя будуць праз тыдзень. Магу прапанаваць хіба мочаны яблычак... Пра самагон не пытайцеся, барані божа, цяпер з гэтым дзелам гамон!

Я крыху разгубіўся, не ведаючы, пра што з ім гаварыць.

— Дый у мяне такая справа,— пачаў я асцярожна, не адкрываць жа сваіх намераў,— параіцца з вамі хачу, добрыя людзі накіравалі да вас. У маіх бацькоў дом на Бахарава, хачу прадаць, а іх да сябе, у Мінск, забраць. Толькі не ведаю, як быць. Параілі да вас завітаць, у вас сувязі, набітае вока, вопыт. Хвалілі, што дужа гаспадарлівы, такіх пашукаць трэба. Гультаёў жа ў Бабруйску хапае. Курку і тую лянуюцца гадаваць. А ў вас і кабанчыкі ёсць, і авечкі...

— Дзесяць вепручкоў гадую,— задаволена паведаміў гаспадар, палагаднеўшы.— Заходзьце,— запрасіў ён,— я сваім мазалём буру, стараюся.

Па няўлоўнаму знаку гаспадара да яго ног кінуўся ваўкарэз чорна-бліскучага колеру. Гаспадар пагладзіў яго, і сабака паслухмяна лёг якраз каля ўвахода ў двор.

«Гэта ж ён мяне папярэдзіў, што бегчы назад няма куды,— гаспадар паклапаціўся,— менавіта так я зразумеў гэты манеўр,— абачлівы, бачыш».

Папярэджвалі мяне перад тым, як адпусціць да яго на гасціны:

— Сабака ў яго, што звер — асцярожна! У яго ж дом, што крэпасць. У склепе загатаваны дзесяткі бочак. І капусту засольвае, і яблычак, і часнок. Гадуе штогод больш як дванаццаць кабанчыкаў, суткамі на кірмашы сядзіць. Прадае і семачкі, і таматы, і кветкі, і сала,— гаспадарлівы. А з суседзямі не кантактуе, абложная вайна каторы год, баяцца яго...

Уладальнік гэтага маёнтка «за пяцьдзесят тысяч» некалькі месяцаў таму, надзеўшы вайсковую форму сяржанта ўнутраных войск, пераступіў парог кабінета сакратара райкома, кінуў білет на стол са словамі:

— Я за Сталіна гатовы хоць заўтра контрыкаў страляць! Мне б толькі аўтамат, а рука не задрыжыць, так і ведайце! Мала мы іх білі гэтых самых... Нефармалаў напладзілі! Франты прыбалтыйскія паадкрывалі... А дзе ж салдат з аўтаматам? Прапалі сацыялізм? Мы яго будавалі, крыві не шкадуючы, а вы?.. Паслухайце, што я вам скажу. Навошта партыя гнюсіць на вялікага Сталіна? Не жадаю быць у вашай партыі!..

— Ён быў начальнікам аховы канцэнтрацыйнага лагера ў Кемераўскай вобласці ў канцы пяцідзесятых, старшы сяржант. Пасля службы два сезоны іграў у футбольнай камандзе вышэйшай лігі «Беларусь», аматары футбола памятаюць гэтую каманду! Літасці і на футбольным полі не ведаў: біў па нагах — спартсмены доўга падняцца не маглі... Праўда, футбалісты не ведалі, з кім яны забівалі галы ў вароты сапернікаў, а як даведаліся, дык заявілі рашуча: «Ці гэты злыдзень, ці мы!». Злыдзень хуценька з'ехаў са сталіцы, асеў на перыферыі і, як бачым, урос надта капітальна.

Першае, што кінулася мне ў вочы, калі я пераступіў парог ягонага прасторнага дома, быў вялікі партрэт Сталіна. Ва ўвесь рост, са знакамітай трубкай у руках. Ён «дбайна», «прыязна» ўсміхаецца, а за спінай у «бацькі» Крэмль. А побач з партрэтам «правадыра» прымацавана фота куды меншых памераў. Зірніце, які арол у белым, ледзь не «генеральскім» паўкажушку, на грудзіне байца аўтамат. З боку выглядвае афіцэрская планшэтка. Пазірае ў аб'ектыў неяк з выклікам, дзёрзка.

— Хто гэты бравы прыгажун? — наўмысна пытаюся я, загадзя ведаючы, хто красуецца на размаляваным анілінам фотаздымку.

— Фотка, што трэба,— з асалодай прагаварыў гаспадар.— Масковец адзін рабіў, у былым фотакарэспандэнт, гудзеў гэтаксама па пяцьдзесят восьмай... Дзе мае дваццаць... І паўкажушак шылі, і боты, ублюдкі, ворагі народа. Ух, не ведалі яны ад мяне літасці. Партыя ведала, на каго можна абаперціся... Я годна нёс сваю службу. Народ выконваў сталінскія пяцігодкі, а ворагі былі пад надзейнай аховай...

Ён крыху памаўчаў, уважліва зірнуў на мяне і прапанаваў:

— Давай па наркомаўскай? Па кроплі... І я табе такое раскажу...

**ІШЛА ДРУГАЯ ГАДЗІНА** майго гасцявання. Гаспадар натхніў сябе каньяком «тры бульбачкі» — самагонкай і гаварыў, гаварыў... Пазбаў мяне, божа, ад такога натхняльнага апавядальніка. Ад тых «эпапей», у якіх ён браў удзел, мне не было спакою некалькі тыдняў пасля сустрэчы, няма і цяпер.

— Не, ты толькі слухай, я сёння добры! Я нікога не баюся! Чуеш? І іхняй перабудовы не баюся! І нічога ў іх не атрымаецца! Трэба ваеннае становішча аб'явіць, на лесапавал усіх гэтых нефармалаў... Крок сюды, крок туды — кулю ў лоб! Разгаворчыкі...

Я сцяўшыся слухаў, не верачы сваім вушам. Яму ж толькі было за дваццаць і такія «подзвігі». І столькі гадоў яны «натхнялі» яго, бачыш, як пахваляецца.

— Слухай яшчэ гісторыю і не перабівай,— ён хапаў мяне за кашулю і, пырскаю-

чы слінай, п'янавата ўсміхаўся, гаварыў:
— Контрыкі, басата, свалата варожая, чорнае дзела надумалі. Бунт, панімаеш! Паўстанне, уцёкі. Сабакі, паўгода рыхтавалі дзень чорны. Абармоты, каго абхітрыць хочаце? Наш чалавек — «стукач» данёс, усё да кропачкі расказаў, як, калі, колькі. А што надумалі, паслухай! Лес падпаляць. Той самы, дзелавы, які паўгода тралявалі. Кубоў тысяч дзесяць з гакам — цёмна ад таго лесу было вакол лагера. Ага, падрыхтуемся і мы... Свалата сваё, а мы — сваё. Падцягнулі падмацаванне, цяжкія танкавыя станкачы-кулямёты атрымалі, паставілі там, дзе трэба... Два тыдні чакалі... І дачакаліся. Дым, агонь да неба, добра гарэлі сухія бярвенні — люба глядзець. Свалата па рацэ і пайшла... Увесь лагер, пяць соцень. А мы іх кулямётным агнём сустрэлі! Папрацавалі добра, рака стала чырвонай ад крыві, амаль усіх ворагаў і палажылі... Не было каму і хаваць, так у рацэ і засталіся, рыбкам на ласунак... Праз тыдзень я новы атрад, па пяцьдзесят восьмай, прыгнаў з Кемерава... Выгрузілі з вагонаў і па марозе ў лагер... Ад камандзіра гадзіннік атрымаў за службу... І дваццаць банак тушонкі...

Мне стала горача. А ён працягваў расказваць. І пра сваіх кабаноў, і пра два набытыя легкавікі ў гаражы, і пра тое, як хмяліў гасцей на вяселлі дачкі... Каб жа ведалі людзі, як ён не цярпіць гэтых нефармалаў. Трэба тэрмінова аўтаматы выдаць усім надзейным людзям. Пара, нарэшце, канчаць з гэтай дэмакратыяй і галоснасцю, новага «бацьку» гукаць трэба. Усім гаварунам вяроўку на шыю накінуць — намітынгаваліся.

Бачыце, гэты адкрыта, не хаваючыся, выклаў сваю «платформу» і прычыны выхаду з партыі, хаця і гэты жэст растлумачыць цяжка. Няўжо верыць, што перабудова захліпнецца і ён першы пабяжыць за сваім кінутым партбілетам. Маўляў, я так пратэставаў супраць ненавіснай яму перабудовы...

Напярэдадні новага года я быў сведкам дзіўнай спрэчкі, якая ўзнікла паміж паважанымі ветэранамі. Адзін з іх уступіў у партыю недзе ў дваццатых, на два гады раней свайго таварыша, а гэта дало яму «права» браць па спецталонах дэфіцытны харч, розныя прамтавары. І было сорамна слухаць гэтыя «спрэчкі-папрокі» ветэранаў.

Ветэраны ўступалі ў партыю ў цяжкія для краіны гады, а вось свежы прыклад, з нашых дзён.

З непрыхаваным здзіўленнем я назіраў, як у багатым калгасе на Случчыне прымалі маладога механізатара ў партыю. Сакратар партарганізацыі сам пісаў за хлопца аўтабіяграфію, пытаючыся ў таго «анкету». Адказы кандыдата былі прымітыўныя, наіўныя дый малаадукаваныя. Няўжо гэты хлопец скончыў сярэднюю школу, правучыўся тры гады ў прафесійна-тэхнічным вучылішчы, жыў у вялікім горадзе?

— У мяне план па членах партыі,— растлумачыў сакратар парткома, нібыта вінаваціўся за такіх, з дазволу сказаць, камуністаў. Маўляў, не выканаю запланаваны райкомам «мінімум», дык атрымаю па карку. Ці не па гэтай прычыне многія члены партыі надта пасіўныя, абыякавыя, раўнадушныя да ўсяго, што адбываецца ў іх калектыве. Яны не ўмешваюцца ў справы, яны «аднагалосна» падымаюць рукі за ўсе прапановы як начальства, так і райкома. Члены партыі, набраныя «дзеля плана», не навучыліся быць прынцыповымі, чэснымі. Канешне ж, не чакай, што яны рашуча будуць змагацца супраць дэмагогіі, ляскату, якім суправаджаліся шмат якія кампаніі як па пяцігодках рашаючых, так і «вызначаючых». Чаго толькі не было: і «гады якасці», і «эканомнасці эканомнай», і «пераможнага шэсця камуністычнай працы», і...

Вось і гэты «планавы» камуніст папоўніць армію абыякавых, пасіўных. Ён не стане на бок таго няўрымслівага камуніста, свайго таварыша па партыі, які будзе весці няроўную барацьбу супраць дыктату адміністрацыі. «Хто каго пераможа?»,— вось і ўся цікавасць. А яго «пасіўны калега» з іншага прадпрыемства скажа на сходзе камуністаў:

— Не веру я ў вашу перабудову, хоць страляйце! Многа абяцалі, а мала далі... Стала яшчэ горш! Вось калі перабудова пераможа, дык і я папрашуся зноўку ў партыю.

Не пачырванеў, бачыце. Булачка спячэцца, дый хараша падсмажыцца, тады і мне скарыначку кіньце, каб пасмакаваць. А вось каб самому зярнятка сабраць, мазалёк натаміўшы,— не дачакаецеся.

На Івянецкай фабрыцы мастацкіх вырабаў рабочы фармовачнага цэха прынёс заяву ў райком партыі, напісаўшы ў ёй: «Прашу райком задаволіць маё жаданне: выкрасліць мяне са спіса камуністаў прадпрыемства. Пабыўшы ў партыі, я стаў верыць у бога».

У гутарцы са мной ён шчыра прызнаўся, праўда, папрасіў не называць яго прозвішча. Дарэчы, гэта чуласе паўсюдна: не называйце прозвішча! Сорамна за свой учынак? А мо баяцца помсты начальства, адміністрацыі? Чаму б адкрыта, прылюдна не сказаць пра гэта. Не жадаю быць у партыі па такой прычыне. А гэта патрабуе мужнасці, калі хочаце.

Дык што ж прымусіла былога камуніста з Івянца на такі ўчынак?

— Стаміўся я, і не ад жывой, цікавай работы, не! Надта стамілі розныя планавасумныя мерапрыемствы. І эканамічная вучоба, і тыдзень якасці, і сацыялістычнае спаборніцтва, і атэістычныя чытанні. Кажу парторгу, каб даручаў мне з вяскоўцамі музейчык стварыць, пра спадчыну пакалапаціцца, пра кніжкі цікавыя пагаварыць, а мне загадваюць спяшацца на нудотную палітвучобу. А мая ж цётка веруючая, дый так хараша пра жыццё гаварыла — заслухаешся. А паслухаеш гэтых ваяўнічых атэістаў, дык самота агорне... Не, хопіць з мяне! Не жадаю рабіць выгляд, што я дзелавы, заклапочаны. Навошта мне, даросламу чалавеку, гэтая дзіўная гульня. Мы ўсе робім выгляд, што займаемся сур'ёзнай справай. Я ж жыў ад Івянца аж за пятнаццаць кіламетраў. Скажаце, лёгка брысці пешаком у непагадзь, каб паслухаць лекцыю аб перавазе сацыялістычнай сістэмы над капіталістычнай. Гадзіну апавядаў, як гніе капіталізм і як бадзёра шпарыць сацыялізм, Леанідам Ільічом благаславёны. Агітак панапачапляна, дзе толькі можна. І ўсё пра клопат аб чалавеку, а вось на звычайны шурпаты гарбыль для зэдліка на аўтастанцыі грошай няма. А, братачкі мае, пасаромейцеся! У мяне вушы баляць слухаць пра нашы перавагі над іншымі. Няхай яшчэ перавага? Я забыўся на смак цукерак, пячэння, не магу торфабрыкету выпісаць у сельсавеце, цвікі вязу аж з Мінска, а шпалеры вымольваю ў сваячкі з Гомеля...

Ён сумна смяецца, прыгадваючы гэта.

— Вось цяпер, як пайшоў з партыі, дык торфабрыкет хуценька выпісваюць, нібы баяцца, што я яшчэ нешта выкіну...

Не гатовы многія партыйныя работнікі да нестандартных, калі можна так сказаць, сітуацый. На перадвыбарчых мітынгах, якія былі арганізаваны нефармаламі па вуліцах Голубева, Д. Сердзіча ў Мінску, да мікрафона «прарываліся» і работнікі ідэалагічнага фронту. Але ж па-сапраўднаму зацікавіць аўдыторыю не маглі. Ні работнік Мінскага абкома партыі, ні ідэалагічны сакратар райкома, ні гаркомаўскі важак моладзі. Яны доўгі час змагаліся на другім фронце, у нестамляючай цішы сваіх кабінетаў, гадамі чыталі з трыбуны звыклыя, да аскоміны заштампаваныя тэзісы, у якіх ні душы, ні сэрца, а вось з «твару ў твар», перад жывымі людзьмі гаварыць зусім не ўмеюць, бо не навучаны і вучыцца не жадаюць. Кажаце, партыйная годнасць не дазваляе...

— Ды на вас трэба!...— злосна прагаварыў адзін з работнікаў Мінскага гаркома ў час згаданага «нефармальнага» мітынгу.— Міліцыю трэба!

Разгубіўся партыец у такой вось сітуацыі. Што вы думаеце, ён будзе шукаць вінаватага, і пэўна знойдзе. Было і такое, рашыцца на адчайны крок — пакласці партыйны білет. І менавіта прыкладна пра такія вось выпадкі нагадала «Правда» ў артыкуле ад 24 красавіка. Пішуць лісты, поўныя «гневу» на нефармалаў, і ў «Звязду», і ў «Советскую Белоруссию» не толькі беспартыйныя, але і камуністы-ветэраны. Сэнс адзін: забараніць! Не дазваляць! Колькі ж можна і г. д. І амаль ніхто з іх не прапанаваў хаця б выслухаць моладзь, знайсці агульныя кропкі «сутыкнення», праблем жа ў нас набралася нямала. Махаць кулаком для запалохвання куды лягчэй, чым пайсці на разумны кампраміс.

— Вы бескультурныя, правільнай палітычнай арыенціроўкі не маеце! — такія абразлівыя словы кідаў на мітынгу ў шматтысячны натоўп адказны партыйны работнік. Вось «важкае» слова, якое ён знайшоў. Было сорамна слухаць такое. Ці запамятаў, колькі ж гадоў запар жылі пад цёмна-ружовым каўпаком брэжнеўскай усюдыіснай татальнай дэмагогіі, а сапраўднай дэмакратыі ўсім нам трэба вучыцца, не сароменючыся. Усім разам: і партыйным работнікам, і савецкім кіраўнікам, і простым людзям.

Дык па якой жа прычыне кладуць партыйныя білеты? Як высветлілася, радзей за ўсё па ідэалагічных меркаваннях. У харошым разуменні гэтага слова. Калі ты змагар — біся!

Калі ў камуніста ёсць характар, воля, дык ён не пабаіцца даць бой партыйным функцыянерам, дэмагогам, замаскіраваным кар'ерыстам...

Заўважана, што частка тых, хто ўступаў у рады членаў партыі, глядзелі на членства, як на своеасаблівы абрус, якім ужо загадзя заслана сцежка ў жыцці. Атрымаў кніжку і ідзі, не бойся! Упадзеш, дык паднімуць, не пакінуць у бядзе. Праваліш на адной пасадзе, перакінем на другую, не горшую. І што вы думаеце, перакідаюць, «сваіх» у бядзе не пакідаюць.

Вялікая тэма — партыя, камуніст, іх аўтарытэт сёння. І толькі прынцыповая пазіцыя, без гучных слоў і набіўшага аскоміну пафасу, дапамогуць расставіць кропкі над «і». Каб верылі людзі і слову Партыі і слову камуніста.

Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# ЗАПІС НА ПАКУТЫ, АБО АБ ЧЫМ МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ БССР НЕ ПАПЯРЭДЖВАЕ

## 1. БАЛЬ ДЛЯ ПАЦЫЕНТАЎ

Волатаўскім, зайздросным, дзівосным, несакрушальным, выдатным і тым больш па-д'ябальску моцным здароўем не могуць ужо пахваліцца нават куміры балельшчыкаў. Усё больш людзей са здароўем кволым, расстроеным, слабым, змарнелым і наогул — ніякім. Няма здароўя!

Між іншым, эпітэты ў дыялогах паміж урачамі і пацыентамі назусім забыты. Даўно існуюць толькі дзве — палярныя — ацэнкі свайго самаадчування:

— Добрае.

— Дрэннае.

Праўда, у касманаўтаў яно бывае яшчэ — «здавальняючае».

Чым больш стрэсаў, чым бруднейшае паветра, чым больш ядавітая ежа, чым вастрэйшы дэфіцыт лекаў — тым менш і менш тых, каму не патрэбны пуцёўка ў санаторый, наогул ніякія дактары.

Таму ад Масквы і да самых да ўскраін дзе «планамерна рэалізуюцца», а дзе і «няўхільна ўвасабляюцца ў жыццё» ўсялякія праграмы па барацьбе за здаровы адпачынак і быт, па паляпшэнню медыцынскага абслугоўвання насельніцтва.

На гэта затрачваюцца вялізныя (і ўсё роўна — мала!) сродкі.

«Але як эфектыўна яны затрачваюцца?» — вось пра што карысна даведацца.

Добра б, напрыклад, пацікавіцца, у якіх умовах сучасная свінарка і пастух, камбайнер і аграном папраўляюць здароўе, як часта наогул сустракаюцца з паняццем «прафілактыка захворванняў». І не дзе-небудзь паблізу ад усесаюзных здраўніц, гарадоў-курортаў або сталічных клінік! А менавіта — у глыбінцы. Калі глядзець з Мінска (тым больш — з Масквы, адкуль і «расцякаюцца» па краіне галоўныя медыцынскія «дэфіцыты»), лясы і вёскі ў радыусе каля 50 кіламетраў навокал Брэста цалкам прэтэндуюць на званне «самых ускраінных».

Тут аўтар трапіў у міжкалгасны санаторый «Бярэсце».

Скажу адразу і назаўсёды застануся пры гэтай сваёй думцы: пра «Бярэсце» не грэх напісаць захапляючы артыкул[1]. Сюды смела можна вазіць замежных гасцей, праводзіць «на базе санаторыя» семінары, канферэнцыі, сустрэчы спецыялістаў з удзелам «прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый». Не радавы санаторый!

Чыстае паветра, азёры, лясы і бліжэйшую вёску нават з даху 12-павярховага корпуса не ўбачыць.

У гэты райскі куток за год прыязджае 5 тысяч сялян і сельскай інтэлігенцыі. З усёй рэспублікі. Людзі ва ўзросце ад 30 да 80 гадоў.

Чаго яны чакаюць ад «Бярэсця» за свае 180 (простыя нумары) або 220 (за люксы на 24 дні) рублёў? Чакаюць, што будуць урачы і рэжым, цішыня і добрае харчаванне.

Але ўсіх «новенькіх» — хто прыязджае ўпершыню — міжкалгасная здраўніца шакіруе, як савецкага турыста заходні магазін:

— Чулі, але не ўяўлялі...

Спачатку госці санаторыя пераконваюцца ў майстэрстве архітэктараў, будаўнікоў, якія тут працавалі, затым — ва ўмельстве дызайнераў і кухараў, крыху пазней — у сапраўдным прафесіяналізме, добразычлівасці абслуговага персаналу, бібліятэкараў, экскурсаводаў, масажыстаў...

Але цудоўныя пакоі, мэбля, кухня, більярд або дыскатэка, грандыёзныя балі, паездкі ў домік Суворава або ў Белавежскую пушчу, рыбалка, лыжы — усё гэта яшчэ не «козыры» «Бярэсця». Людзі ж здароўе папраўляць сюды прыбылі. Вось што галоўнае.

А для папраўкі самаадчування, лячэння самых распаўсюджаных хвароб (бронхі, суставы, радыкуліты, сардэчна-сасудзістыя і нервовыя захворванні, карыес і г. д.) тут, высвятляецца, ёсць усе ўмовы. На самай справе ёсць!

Урач Мікалай Мікалаевіч Завацкі назваў мне толькі — яшчэ рэдкія для нашых гарадскіх, сельскіх паліклінік — асабліва папулярныя тут працэдуры:

— Ванны з мінеральнай вадой, лазератэрапія, іголкарэфлексатэрапія, гразелячэбніца... Усё ад шчодрасці навукі і прыроды!

Так, не бязглузда выкарыстаны вялікія сродкі. Я бачыў, што людзям тут добра: жартуюць, усміхаюцца... Дарэчы, да многіх шырокая ўсмешка вярнулася толькі тут: у «Бярэсці» атрымалі доўгачаканую магчымасць пазбавіцца ад карыесу, уставіць зубы. Усмешкі таму «новенькія» і вельмі стракатыя — сам сабе я адзначаў іх як «залатыя», «пад золата», «стальныя»...

Але ў адзін момант мне стала ніякавата, нават лёгкая «белая» зайздрасць да ўсмешлівых людзей назаўсёды знікла. Гэта калі я пачуў фразу:

— Усё ёсць. Няма галоўнага. Інструментаў і медыкаментаў не хапае. У зубапратэзіста нашага нават гіпс не заўсёды пад рукой. Таксама дэфіцыт.

І ўспомніліся (сустракаўся нядаўна) сцвярджэнні вядучых беларускіх спецыялістаў па артапедычнай стаматалогіі і СНІДу:

— Гіпсам пры зубапратэзаванні ўжо і ў Афрыцы не карыстаюцца. Для зняцця адбіткаў зубоў у свеце даўно ёсць спецыяльныя пасты. А гіпс — гэта самы, разумееце, старажытны матэрыял, да таго ж ён не стэрылізуецца.

І яшчэ:

— Гэта для развітых краін прастытуткі, наркаманы і гомасексуалісты — галоўныя разносчыкі новага віруса. СНІД у нашай краіне можа ўзяць у самыя надзейныя і шматлікія «саюзнікі»... урачоў. Такія факты ўжо ёсць. І калі СНІД сёння прыйдзе ў кабінеты нашых стаматолагаў — размову давядзецца весці не пра лакальныя (пакуль яшчэ) катастрофы, а пра катастрафічную эпідэмію. Стануць непатрэбнымі ўсе «класічныя» здраўніцы, курорты, санаторыі. Неадкладна трэба знайсці сродкі на самае зараз галоўнае: на аднаразовыя шпрыцы, капельніцы, аднаразовыя кантэйнеры для захоўвання крыві, стаматалагічныя боры, пульпаэкстрактары, абразіўныя матэрыялы (якія патрэбны аддзяленням артапедычнай стаматалогіі), увесь эндадантычны інструментарый... Інакш ужо ў пачатку будучага стагоддзя ў паняцці «здаровы» і «хворы» людзі будуць укладваць зусім пэўны сэнс: заражаны ці не заражаны смяротным вірусам чалавек.

Добра, што ў апошнія гады будуюцца прыгожыя аптэкі, клінікі і санаторыі. Іх гаспадары як быццам спаборнічаюць: дзе багацей, дзе лепшы дызайн? Цудоўна, што нашы людзі паступова звыкаюць да саун, басейнаў з мінеральнай вадой, выдатна абсталяваных і ўтульных палат. Аднак калі без мармуру і дываноў у лячэбных цэнтрах усё ж можна абысціся, то вось без лекаў, інструментаў...

Што тады там наогул рабіць і ўрачам, і — тым больш — пацыентам?

## II. «МЫ ВЫМУШАНЫ МУЧЫЦЬ ЛЮДЗЕЙ І РЫЗЫКАВАЦЬ ІХ ЗДАРОЎЕМ»

СНІД у рэспубліцы ёсць. У Беларусь вірус даставілі замежныя студэнты і спецыялісты-суайчыннікі, якія выконвалі свой братні абавязак у краінах свабодалюбівай Афрыкі. Цёмнаскурыя маладыя хлопцы і нашы былыя замежкамандзіраваныя, як правіла, зусім не аскеты... Няма сумненняў, што далёка не ўсе носьбіты небяспечнай інфекцыі (выпадковыя «сяброўкі» і да т. п.) ужо выяўлены.

Эпідэмія пакуль не ўспыхнула, як эфір, але яна ўжо нагадвае пажар на тарфяніку. Горача, страшна, дымна — але цярпець можна, панікі няма.

А патушыць — нельга.

Калі вы не наркаман, не гомасексуаліст і не знаёміцеся з дзяўчатамі на вакзалах і ля гасцініц — усё роўна няма гарантыі, што вашу сям'ю СНІД абыдзе. Бо зубы вы лечыце? А прытоны і кабінеты стаматолагаў у сэнсе небяспекі заражэння вірусам сёння стаяць у адным змрочным радзе. Чаму? Чаму... Пойдземце са мной у любое з самых лепшых — лепшых! — аддзяленняў нашай артапедычнай стаматалогіі (хоць бы ў аддзяленне пры сталічнай паліклініцы № 23) — даведаемся разам і, я думаю, здзівімся, жахнёмся, абурымся таксама разам, калі пераканаемся: лячыць зубы стала смяртэльна небяспечна. Мала таго, пацыенты вымушаны не толькі — фактычна — рызыкаваць жыццём, але і цярпець пакуты, ад якіх цывілізаванае чалавецтва ўжо даўно пазбаўлена.

Не будзем пры наведванні клінікі акцэнтаваць сваю ўвагу выключна на праблеме СНІДу. Мы паглядзім будні і «закулісны» бок работы аддзялення артапедычнай стаматалогіі, паспрабуем зразумець прычыны, па якіх любы зубны ўрач у любы момант можа стаць злачынцам.

...Паліклініка № 23 у Мінску. Раніца. І мы сярод тых наведвальнікаў, якія ідуць у напрамку: першы паверх, левае крыло.

Самая простая праблема, з якой звяртаюцца да стаматолага людзі, гэта, вядома:

---

[1] Уласна, спачатку аўтар і збіраўся зрабіць штосьці падобнае, але даволі хутка замест распрацоўкі сімпатычнай тэмы пачаў займацца вывучэннем толькі адной з дзесяткаў пільных праблем нашай медыцыны. А чаму атрымалася так — чытач зразумее.

— Выпала пломба.

Нашы пломбы «выпадаюць» вельмі часта таму, што... так і павінна быць. І вінаваціць у гэтым урачоў ніяк нельга. Па кваліфікацыі яны нічым не горшыя за тых заходніх дактароў, якія пламбіруюць зуб і даюць гарантыю на 20 гадоў.

— У нашых калег у развітых краінах — выдатныя аднакамплектныя пламбавальныя матэрыялы. А мы вымушаны выкарыстоўваць такія растворы, што, калі пломба стаіць больш як 6 месяцаў,— гэта ўжо вельмі добра,— сказала мне ўрач Галіна Аляксееўна Лясных.

Яна — з тых, каго называюць урачамі новай фармацыі. І тэрапіяй і хірургіяй валодае аднолькава выдатна.

Дыялог з Галінай Аляксееўнай атрымаўся такі:

— Вось вы даяце «гарантыю» пломбе толькі на паўгода. Значыць, праз некалькі месяцаў пацыент зноў ідзе ў ваш кабінет. Я зараз не кажу пра тое, што з-за неэфектыўнага лячэння ў нас пастаянныя чэргі да стаматолагаў. Сёння намнога горш іншае: чым часцей чалавек звяртаецца ў паліклініку «з зубамі», тым больш сур'ёзная для яго рызыка заразіцца СНІДам. Як, на вашу думку, такая небяспека зараз вельмі вялікая?

— Вядома, ёсць рызыка. Таму што існуе дэфіцыт нават самых вастранеабходных інструментаў. Не хапае бораў, дыскаў для абточвання зуба... Прыклад: на квартал урач атрымлівае толькі 5—6 дыскаў. Уяўляеце? На квартал! А для кожнага пацыента — у ідэале — патрэбны новы дыск. Нават калі б не было СНІДу! Бо дыскі хутка сточваюцца і для пятага, дзесятага, трыццатага хворага пачынаецца ўжо не лячэнне, а самае сапраўднае катаванне. Мы вымушаны прыносіць чалавеку пакуты, ні ў пацыента, ні ў маіх калег няма выбару... Больш дакладна, ён ёсць: можна наогул не лячыць. Вось такі «выбар». А цяпер пра самае галоўнае... Поўная стэрылізацыя дыскаў не дасягаецца! Што гэта значыць — тлумачыць трэба? Практычна ўвесь інструментарый зубнога ўрача павінен быць аднаразовага выкарыстання. На гэтым эканоміць сёння — злачынна.

— Але калі заўтра хтосьці з вашых пацыентаў будзе носьбітам віруса і вы міжволі (за адзін толькі рабочы дзень!) заразіце некалькі чалавек, то менавіта вы і пачуеце ў свой адрас грознае абвінавачванне ў злачынстве.

— Вядома. Інфекцыя перадалася — значыць, быў «брудны» інструмент. А ён павінен быць стэрыльны. Але поўная стэрылізацыя, як вы ведаеце, немагчымая. А не было поўнай стэрылізацыі — гэта злачынная халатнасць.

Пасля размовы з Галінай Аляксееўнай я зразумеў, што адны яе калегі сёння, відаць, спадзяюцца на адвечнае рускае «авось», а другія... вельмі любяць сваю прафесію, выразна бачаць, як якой цясніны мы стаім, і ўжо не ветліва нагадваюць, а настойліва даказваюць у самых розных кабінетах:

— Часу на тое, каб «паступова выправіць становішча» ў нашай стаматалогіі, больш няма.

Каб прапанаваць рэальны і ясны план дзеяння, паспрабаваць вызначыць выйсце з крытычнай сітуацыі — тут патрэбны яшчэ і глыбокія веды, ініцыятыўнасць, уменне аналізаваць замежны вопыт.

Яшчэ да сустрэчы з загадчыкам аддзялення Аляксандрам Майсеевічам Бацвіннікам я ведаў, што сярод зубных урачоў рэспублікі ён спецыяліст вельмі вядомы, што трапіць менавіта да яго на прыём (ужо не першае дзесяцігоддзе) імкнуцца ўсе, хто хоць аднойчы прыходзіў да яго з «талончыкам». А сярод яго пацыентаў былі і народныя артысты, і дыпламаты — людзі, для якіх прыгожая ўсмешка важна ледзьве не гэтак жа, як прыгожы голас — дыктару. Між іншым, дыктараў Бацвіннік таксама лячыў. Але гэта так, да слова. Зусім не пра «сакрэты майстэрства» хацеў я пачуць (і пачуў!) ад вядомага доктара.

## III. ЧАГО ЧАКАЕМ!

Сярод усіх апублікаваных (за апошнія месяцы) розных прагнозаў «вакол чумы XX стагоддзя» выдзелім зараз толькі тры:

— Чакаецца, што выдаткі адміністрацыі ЗША на мерапрыемствы па стрымліванню эпідэміі СНІДу да 1995 года перавысяць асігнаванні на ваенныя мэты і дасягнуць 350 мільярдаў долараў, а да 2000 года — трыльён долараў. Якімі ўяўляюцца выдаткі СССР? Пытанне пакуль «адкрытае».

— Тое, што ў шасцідзесятыя — сямідзесятыя гады называлася на Захадзе «сексуальнай рэвалюцыяй» можа (верагоднасць больш чым высокая) паўтарыцца ў нас у бліжэйшыя 5—10 гадоў. Прыметы нараджэння такой «рэвалюцыі» бачны ўжо не толькі спецыялістам у галінах права, статыстыкі, этыкі, сексалогіі, педагогікі.

— Пік эпідэміі СНІДу прыпадзе на пару юнацтва дзяцей, якія сёння ходзяць у дзіцячыя сады. Называюцца і дакладныя — аж да году — даты «піка». Дарэчы, такіх дат ужо названа некалькі. Якая з іх самая дакладная — гэта не так важна, як важны сам факт: «пік» ужо побач і мы да яго хутка набліжаемся.

Давайце будзем памятаць пра гэтыя тры прагнозы, і тады нам стануць больш зразумелымі пазіцыя і ідэі доктара Бацвінніка, пра якія я даведаўся ў доўгай гутарцы з ім. Вось аб чым ён расказаў:

— Нельга сказаць пра чалавека «здаровы!», калі ў яго дрэнныя зубы. Дарослых людзей з абсалютна здаровымі зубамі ў рэспубліцы амаль няма. Нават юнакі і дзяўчаты — пацыенты артапедаў-стаматолагаў. Калі браць сярэднестатыстычнага наведвальніка нашага аддзялення (а тут, галоўным чынам, ставяцца пратэзы, «масты» і «каронкі»), то ён з году ў год маладзее. Дзяўчына з устаўленымі зубамі ў дваццаць гадоў — гэта ўжо «нармальна», не рэдкі выпадак.

— У чым прычына? Мы чакаем «пік» СНІДу і спакойна назіраем (пры дэфіцыце інструментаў і лекаў) вельмі прыкметнае амаладжэнне чаргі да зубнога ўрача. А пры гэтым жа ведаем: якраз у юнацкім асяроддзі носьбітаў віруса будзе, відаць, з кожным годам усё больш. Самае жахлівае, што сумныя перспектывы бачым і...

— ...І вельмі мала робім для прафілактыкі як СНІДу, так і — захворванняў зубоў. Правільна чысціць зубы дзяцей не вучаць. Мае калегі нікому не могуць параіць, якой зубной пастай лепш карыстацца. Паст, можна сказаць, няма. У продажы няма. А наогул іх вынайдзена — толькі ў нашай краіне — некалькі дзесяткаў. Яны таму і распрацоўваліся вучонымі, што розным людзям падыходзяць розныя пасты, як людзям з хворымі вачамі — розныя акуляры.

— Што можна і неабходна рабіць неадкладна? Патрэбны розныя зубныя пасты. Што яшчэ?

— У нас не вельмі добрая пітная вада. Для прафілактыкі карыесу яе нельга не фтарыраваць. Затраты — капейкі, карысць — немагчыма падлічыць. Яна вялізная. Але вось, напрыклад, загадчык кафедры дзіцячай стаматалогіі Мінскага медыцынскага інстытута Эдуард Міхайлавіч Мельнічэнка ўжо шмат гадоў у самых розных інстанцыях даказвае важнасць менавіта для Беларусі вопыту прафілактыкі карыесу ў ГДР. Там ваду фтарыруюць, дзецям даюць таблеткі з фторам.

— А ў нас? Нейкія рашэнні ёсць?

— Нічога не змяняецца.

— Атрымліваецца, што ўсе беды з зубамі нават сённяшніх дзяцей як бы запланаваны. Спачатку — карыес, потым — дзве ці тры пломбы, праз некалькі гадоў — зуб выдаляецца. І на кожным этапе — пры кожным наведванні ўрача — маладога чалавека можа падсцерагаць СНІД.

— Вядома.

— Раскажыце пра самыя «балючыя месцы» стаматалогіі.

— Іх шмат.

— Вось мне гаварылі, што гіпс для зняцця адбіткаў зубоў не прымяняецца...

— ...Нідзе! Ніводная самая слабаразвітая краіна сёння яго не выкарыстоўвае ў артапедычнай стаматалогіі. Гіпс паступае заўсёды брудны. На ім пыл, экскрэменты мышэй і да т. п. І вось такі матэрыял — у рот пацыента. А якасць адбіткаў? Яна (пры карыстанні гіпсам) не можа быць вельмі высокай. І добрасумленна адпаліраваць пратэзы нельга: няма паліровачнага парашку.

— Мне незразумела, як у такіх умовах вы яшчэ працуеце і ўмудраецеся атрымліваць падзякі ад пацыентаў.

— А што лепшае наш чалавек бачыў? Нас за мяжой па зубах пазнаюць. Калі — што рэдка — таварыш без сумак і карабкоў, але з «жалезнай» або «залатой» усмешкай — тут усё зразумела. З СССР. У свеце «ставяць» зубы з фарфору або металакерамікі. Металічныя штампаваныя каронкі ніхто там не прапануе самаму апошняму з беспрацоўных.

Для металакерамікі патрэбна вельмі дакладнае ліццё. У нас свая «ліцейка» ўжо ёсць. Вядома, цэнтралізаваная. Задыхаецца ад заказаў. Умовы працы ў ёй такія, што санстанцыя ўжо прымала рашэнне:

— Закрыць!

Гарадскі аддзел аховы здароўя абяцаў яе расшырыць і зрабіць цывілізаванай. Але нават адпаведных дакументаў пакуль няма.

— Колькі ў нас каштуе зуб з металакерамікі? Што такое для ўрача гасразлік?

— На гэтыя два пытанні я магу адказваць дзве гадзіны.

— А коратка?

— А коратка трэба сказаць так: у нас засталіся — з 50-х гадоў — надзіва нізкія расцэнкі на ўсе віды артапедычнай работы. Пры гэтым цэны на матэрыялы ўзраслі сур'ёзна. Зарплата ўрача — ніжэй за сярэднюю па рэспубліцы. Спецыялісты ўцякаюць у кааператывы. За адну і тую ж работу ў паліклініцы ўрач атрымлівае 50 капеек, у кааператыве — 5 рублёў.

— Чым жа галеча «зубных» кабінетаў і іх гаспадароў тлумачыцца?

— Вытлумачыць усё — пры жаданні — не складае цяжкасці... Вось вы пытаецеся, колькі каштуе зуб з металакерамікі. Адказваю: ён каштуе не больш як 28 рублёў. У ЗША ён каштуе 450 долараў.

— Зараз на «чорным» рынку за долар даюць 7—10 рублёў. На такім фоне і залаты зуб уяўляецца «шырспажывам».

— Золата — дарагі, але неэстэтычны, недаўгавечны, мяккі матэрыял.

— Вы не адказалі, што такое для ўрача гасразлік?

— Гэта — сёння — не стымул працаваць якасна. У нас чарга на простае пратэзаванне каля 13 тысяч чалавек. Чым больш у мяне за дзень пацыентаў — тым мне лепш. Спяшаемся... А павінен жа быць час на кантакты, на падрыхтоўку пацыента... Вось сёння — вы бачылі — кампазітар і грамадскі дзеяч Ігар Лучанок быў тут. Не я яго лячыў. Ён апынуўся ў суседнім «крэсле». І першае, што гэты інтэлігентны чалавек сказаў урачу, не тычылася яго скаргаў і болю... Ён прапанаваў:

— Давайце пазнаёмімся, пагаворым...

Ён па выглядзе ўрача зразумеў: доктару патрэбна «разрадка», адпачынак на некалькі секунд.

— Колькі ўрач зарабіў на «Лучанку»?

— Як і на ўсіх іншых — капейкі. Наогул, ад зробленых сродкаў тут на зарплату ідзе 22—23 працэнты.

— Калі б заходняга стаматолага запрасіць сюды?

— Яго б хутка звольнілі. Ён бы не змог працаваць.

— На якім узроўні ідзе падрыхтоўка маладых стаматолагаў?

— Тэарэтычная падрыхтоўка — выдатная. Але ўвесь «стаматалагічны хлам» — гэта і ёсць іх «база».

— Уяўляю — не без страху — у мяне аднойчы зломіцца зуб. Што мне ў такім выпадку давядзецца вычэрпець?

— Вам давядзецца даведацца пра наступнае: нашы абязбольваючыя рэчывы не абязбольваюць як след і выдаленне каранёў вам запомніцца. Потым вы даведаецеся, што такое адзін урач-артапед на 10.000 чалавек. У чарзе за новым зубам давядзецца стаяць 2—3 гады.

— Думаю, што я буду пачынаць гэты нарыс з аповеду пра цудоўны санаторый з мясцовай мінеральнай вадой, лазератэрапіяй і культурнай праграмай. Там таксама лечаць зубы, вяртаюць чалавеку магчымасць раскрываць пры смеху вусны. Але і ў гэтым багатым міжкалгасным цэнтры здароўя няма самых «дробных», але важных прылад працы для ўрача. Ніхто не спрачаецца з тым, што гэта — дрэнна, агідна, злачынна. Аднак змен да лепшага не адбываецца. У чыноўніцтва зараз на ўсе пільныя пытанні ёсць універсальнае контрпытанне: «А валюту дзе ўзяць?».

— Дзе ўзяць, дзе ўзяць... Там, дзе яна ёсць, там і браць! Але не на пазыку.

— Лёгка сказаць, зрабіць — цяжка.

— Так, зрабіць — цяжка. Лягчэй, вядома, нічо-

га не рабіць, а сядзець і скардзіцца адзін аднаму і ўсяму свету на сваю ляноту і расхлябанасць. Вось — міжгаліновы навукова-тэхнічны комплекс «Мікрахірургія вока». Дзе доктар Святаслаў Мікалаевіч Фёдараў сродкі бярэ? Чаму ў яго медсёстры атрымліваюць больш за дырэктараў іншых заводаў?

— У чым феномен Фёдарава?

— Ён на сваёй адзінай назе хутчэй за ўсіх навучыўся своечасова пераскокваць праз падножкі і пасткі Сістэмы. Між іншым, «навучыўся» — не тое слова. Высока скакаць або лятаць у космас адначасова вучацца шмат людзей. А Брумель быў адзін, Гагарын быў адзін... Сістэму перамагчы не лягчэй, чым зямное прыцягненне. Але як Брумель і Гагарын не засталіся без паслядоўнікаў, так і за Фёдаравым — упэўнены — пойдуць Івановы, Пятровы, Сідаравы... І іх, вядома, будзе шмат больш, чым спартсменаў і касманаўтаў.

## IV. ЗУБ КАМЕРЦЫЙНАЙ МУДРАСЦІ

У грамадства пачынае прарэзвацца зуб камерцыйнай мудрасці. Таму Фёдараў — герой дня. Хоць ніводнаму сур'ёзнаму эканамісту ён не даў свежай ідэі, не зрабіў «адкрыцця». Ды ён і сам пра гэта нагадвае ў сваіх інтэрв'ю, калі яшчэ і яшчэ раз сцвярджае: толькі зрабіўшы чалавека цалкам гаспадаром, пайшчыкам, саўладальнікам прадпрыемства, можна стварыць такую сітуацыю, пры якой усе разам будуць клапаціцца пра канчатковы вынік, пра прыбытак.

Тое, што ўжо ёсць у МНТК «Мікрахірургія вока», для ўсіх нас — дзесьці ля гарызонта. Крочыць і крочыць...

А праблемы стаматалогіі (усё ж не будзем ухіляцца ад мэты размовы) ужо бяруць за горла пацыентаў зубных урачоў.

— Няма валюты...

Што ж, мы вельмі звыклі затрачваць апошнія нафтадолары на зерне, мыла, мяса, радыётэхніку і раскошныя аўтамабілі для супрацоўнікаў міністэрстваў.

Манбланы цяжкасцей у грамадства — значыць, няма працвітання і ў яго «ячэйках». Аднак любая сям'я спачатку клапоціцца пра лекі для сваіх хворых, а ўжо потым думае, як хутчэй назбіраць на відэа ці машыну. Карацей кажучы, дзеля пакупкі прэстыжнай рэчы нармальныя людзі на лячэнні не эканомяць. Нават валюту, у каго яна ёсць.

Ды і ці так ужо з-за дэфіцыту валютных сродкаў катастрафічна не хапае дыскаў для абточвання зубоў? Не! Дыскі — айчынная вытворчасці. Можам! Самі робім, але мала. Усё — як з мылам, зубной пастай або школьнымі сшыткамі.

— Прызнаваць сваю інфляцыю, гаварыць пра нізкую прадукцыйнасць працы ўжо не саромеемся. Гэта добра. Але вельмі дрэнна, што людзі як быццам пагадзіліся: так, маўляў, мы і гультаі, і п'яніцы, і наогул дурні,— сказаў мне А. М. Бацвіннік.— На самай справе ўсё больш складана... П'яніц і гультаёў — адзінкі. Дурняў таксама няшмат. Я вам зараз адну гісторыю раскажу, і вы зразумееце, чаму ўсе размовы пра валюту, пра тое, што нашаму чалавеку патрэбны дзесяцігоддзі вучыцца добра працаваць, я лічу поўнай лухтой. Прозвішча «галоўнай дзеючай асобы» называць не хачу: у яго сваякі ў Мінску. А імя гэтага былога зубнога тэхніка Эдуард...

А цяпер просьба аўтара: той, хто зараз чытае гэту публікацыю «Беларусі» за абедам або ў аўтобусе, няхай пакуль адкладзе часопіс убок. Каб лепш зразумець, пра што расказ урача Бацвінніка (а ён не пра медыцыну і тым больш не пра шчаслівы лёс калегі), трэба засяродзіцца і не спяшацца з высновамі.

Такім чынам, працаваў у аддзяленні артапедычнай стаматалогіі пры сталічнай паліклініцы № 23 малады зубны тэхнік Эдзік Ч.

Працаваў чалавек, працаваў і вось вырашыў звольніцца. Што ж, справа звычайная. Больш дакладна, яна была б звычайнай, калі б Эдуард проста пераходзіў у суседнюю паліклініку. У такім выпадку ўрач Бацвіннік без усялякіх эмоцый падпісаў бы заяву і пажадаў бы поспехаў на новым месцы. Таму што спецыялістам Эдзік Ч. быў не з лепшых. Нават, шчыра кажучы, вельмі пасрэдны.

Але зубны тэхнік мяняў не толькі месца работы... Ён ехаў далёка-далёка. У ЗША.

Што было ў калектыве ў сувязі з «праводзінамі» аднаго са сваіх «сціплых і непрыкметных» членаў, можна растлумачыць у трох словах: ішоў 1980 год.

Урач Бацвіннік прасіў былога падначаленага ніколі не нагадваць аб сабе і не падаў яму пры развітанні рукі.

Восем гадоў зубны тэхнік, сапраўды, не пісаў, не званіў і наогул пра яго ніхто нічога не ведаў.

Яго забылі.

А некалькі месяцаў назад у Маскву прыбыў Эдуард Ч.— прэзідэнт адной сур'ёзнай амерыканскай фірмы. Яго сустрэлі як дарагога госця: рэспектабельны бізнесмен з беларускім прозвішчам прапанаваў лепшыя стаматалагічныя матэрыялы, інструменты і самае сучаснае абсталяванне для зубных кабінетаў. Пры гэтым ён адразу аб'явіў, што яго не хвалююць валютныя магчымасці пакупнікоў.

Далейшыя дзеянні «эмігранта трэцяй хвалі» хутка паказалі, наколькі нашы «купцы-міжнароднікі» не заўсёды кажуць праўду, калі сцвярджаюць:

а) Захад рублі не цікавяць.

б) З усіх савецкіх тавараў у ЗША можна экспартаваць толькі гарэлку, ікру, матрошкі і сібірскіх собаляў.

Вядома, Эдуард Ч. не стаў філантропам і не страціў розуму ад багацця ўражанняў. Як і належыць капіталісту (які яшчэ не заняўся дабрачыннасцю), госць эліты савецкіх стаматолагаў «робіць бізнес». І справы ў яго ідуць выдатна.

Фірма разгортвае экспарт у СССР стаматалагічнага абсталявання і плануе адкрыць спецыяльныя курсы (у Маскве), каб вучыць савецкіх зубных урачоў усім гэтым абсталяваннем карыстацца. А яшчэ яны аснашчаюць (па сусветных стандартах) дзіцячую бальніцу ў горадзе Самарканд. Што, добра, але мала? Дык жа адна фірма, а не дзесяць!

Як Эдуард Ч. дабіваўся сустрэчы з урачом Бацвіннікам — асобная гісторыя.

Сустрэча была.

— Ну і якой яна атрымалася? — запытаўся я ў А. М. Бацвінніка.

— А такой... Нечаканая сустрэча. Але нічога нечаканага я не пачуў. Цудаў на свеце не бывае, і ўсё ў нашых сілах: і СНІД спыніць, і заводы ў выпуску медтэхнікі зацікавіць, і ваду пачаць фтарыраваць... Калі мы чагосьці хочам, дык трэба гэта і зрабіць. Па-гаспадарску разумна, з любоўю, з адказнасцю. А працаваць менавіта так прымусіць нельга. Ніхто не мог і не зможа прымусіць... Толькі сама эканоміка, толькі па-сапраўднаму разняволеная праца!

**Валерый ЛАПІН.**
**Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.**





# Стрэл у начным полі

Прачнуўшыся, Цішура з натугаю пачаў перабіраць у памяці ўчорашняе.

...Пасля нарада паехаў у горад. Там жыла яго сям'я. Дачка, праўда, вучылася ў Віцебску ў мед-інстытуце і прыязджала толькі на вакацыі ды зрэдчас — на святы. Нядаўна заявіла, што выходзіць замуж. Ні ён, ні жонка не запярэчылі, адно спыталі, што жадае ў падарунак, машыну ці кааператыўную кватэру. Яна, смеючыся, адказала: «І тое, і другое». Жартаўлівай нарадзілася, з маленства ўсіх пацяшае. Сын — хлопец сур'ёзны, вучыцца ў дзесятым класе, захапіўся электронікаю. Цяперашнім светам дык проста золата, а не дзеці.

Жонка загадвае раённай бібліятэкай; таксама не расчаравала за іх некароткае сумеснае жыццё. Не сказаць, што ва ўсім дагаджала яму, узносіла да нябёсаў, але — цуд! — лішне не лезла ў вочы. І тады, калі яго выбралі старшынёю калгаса, яна лёгка згадзілася з просьбаю не пераязджаць у вёску. Цяпер яны жывуць як бы паасобку. Праўда, ледзь не штодня ён бывае ў горадзе: то па службе, то самахоць, тады-сяды начуе дома.

У вёсцы ў яго таксама кватэра — два вялікія пакоі ў асабняку, у якім месяцца яшчэ тры сям'і. А яму што: уваход асобны, кухня, ванная. Жонка колькі разоў наведвалася — хваліла яго пенаты, нават летавала ў іх.

Дык вось, прыехаўшы ў горад, ён пабываў на кватэры, пагаманіў з сынам, а потым пазваніў жонцы: «Лена, прывітанне! Ну, гэта я...» — «Як ты там?» — «Нармалёва. Сумую».— «І ёсць жа ў цябе час сумаваць».— «Адзін. Вакол чужыя людзі».— «Дзіму бачыў?» — «Бачыў. Відэакасеты круціць».— «Людачка пісьмо прыслала. На кастрычніцкія распісвацца будуць».— «Гарыць у іх там, ці што?». Пасля размовы з жонкаю дзеянні яго былі рашучыя і ўпэўненыя. Узяў з халадзільніка пару слоікаў самаробнай дзіковай тушонкі, бляшанку афганскіх маслін і, канечне, тое, дзеля чаго ехаў,— прыпасы пораху і жаканаў.

Завярнуў на базар. Там была адзіная на райцэнтр крамка, у якой прадавалі гарэлку і віно. Чарга, як зазвычай, сабралася вялікая, людзі стаялі, сядзелі на лавах пад стрэхамі, проста на зямлі на мураўцы, у легкавіках і нават на калёсах. «На работу дык не хапае коней, а па гарэлку ехаць знаходзяцца»,— абурыўся Цішура. Ён вылез з «Нівы», задумаўся: не штурхацца ж яму тут, сярод людства. І часу шкада, і з начальства хто-небудзь скмеціць. Ён вехнуўся за крамку: «Белыя людзі бяруць з чорнага хода, а чорныя — з белага». Папрасіў азызлатварага знаёмага грузчыка Сямёна, каб клікнуў прадаўшчыцу. Ён добра ведаў яе з той пары, калі рабіў бухгалтарам у райпо. Яе звалі Раіса. Мажная, сінявокая, з белымі валасамі маладзіца. Яна падабалася яму, і ён прыходзіў да яе ў інтэрнат, дзе яна жыла да замуства. На мужа ёй не пашэнціла, бязбожна піў, і яна неўзабаве развялася, не захацеўшы мецьад яго дзяцей. Пазней нарадзіла дачку — па чутках, ад дырэктара музычнай школы, ужо ці не тройчы жанатага, але акуратнага, ветлівага, душэўнага мужчыны, на якога заглядвалася ўся жаночая палова райцэнтра. А-там хто ведае, можа, і яго, Цішуру, павінна называць дзяўчынка татам.

— Каму там? — пачуў Цішура незадаволены Раісін голас і хуценька заправіў пад рэмень сінюю кашулю-безрукаўку, уцягнуў жывот. З-за груды скрынь выйшла Раіса — у белым халаце, з высока начасанымі валасамі, яркашчокая, бы лялька.

— Гэта я.— Цішура ступіў ёй насустрач і, аблапіўшы за стан, юрліва зазірнуў у вочы.— Ненаглядная, дапамажы атаварыцца.— Ён, не зважаючы на Сямёна, прыгарнуў яе да сябе, бо ведаў: жанчыне палесціць, што ён, вядомы ў раёне чалавек, такі прыязны да яе, простай прадаўшчыцы.

— Чаго хочаш? Давай хутчэй, людзі сцяну праламаюць...— Яна ў знак таго, што саступае і што не забыла ранейшыя заляцанні, дазволіла сабе вольнасць з ім.

Ён купіў скрыню гарэлкі і, падагнаўшы «Ніву» пад самыя дзверы, паставіў у багажнік. Хацеў, але не паспеў цмокнуць Раісу ў расчырванелую, як жар, шчаку, бо тая бяжком пашыбавала да прылаўка. Але настрой яму гэта не сапсула. І з ёй, і з тою, на якую палажыў вока там, у вёсцы, усё яшчэ наперадзе. Падлівала ў сэрца радасці і паляванне. Дамовіліся з Антонам Храмянком паехаць на дзікоў. Дзіўна, што ён падсябрыўся да былога зэка. Другі, як кажуць, на гарматны выстрал не падпусціў бы, а ён, Цішура, захаўрусаваў з ім. Прыкінуць, дык нічога страшнага тут няма — навошта адрывацца ад народа. Падумаеш, чалавек аступіўся, з кім не бывае. Дый віны ў Храмянка вялікай няма — ячменю кузаў загнаў сваяку на самагонку.

Прыцемкамі ён заглянуў да Аксаны Пятрушы. Хат цяпер па вёсках пустуе дай божа, і калгас не пашкадаваў грошай, каб некалькі купіць. Для маладых спецыялістаў. У адной з такіх хат, наводшыбе, і жыла Аксана Пятруша, дырэктарка Дома культуры. Яе накіравалі сюды год назад. Дзяўчына нудзілася, ледзь трывала, каб не напісаць заяву і вярнуцца ў горад, дзе рэстараны, танцпляцоўкі, дыскатэкі. Тыя хлопцы, якія, адслужыўшы армію, засталіся ў калгасе, ёй не падабаліся. Яны былі грубыя, неахайныя і нахабныя. Зрэшты, яна не цнатлівая і не супраць нахабства, каб толькі было яно інтэлігентнае, тонкае, а не мядзведжае. Цішура трохі разбавіў яе сум, вярнуў ёй цікавасць да жыцця, усмешку, скрасіў ночы, пасеяў у душы радасць, няхай маленькую, але яе хапала, каб раніцаю ўставаць бадзёрай, з думкаю, што некаму патрэбна. А калі не ў гэтым жаночае шчасце, то ў чым тады?

Аксана сядзела за сталом у сваім цёмна-вішнёвым халаце.

— Чаму не зашчапляешся? — Не пытаючы дазволу, як гаспадар, ён дастаў з сакваяжа бутэльку, тушонку, масліны.

— Каму я тут патрэбна...— Яна ўсміхнулася са шчырай тужлівасцю.

**ЁН ПАДЫШОЎ ДА ЯЕ,** памкнуўся абняць, ды яна не далася, сціснула яго рукі ў сябе на грудзях. Не хацеў у соты раз гаварыць надакучлівае «мне». Яе, разумную дзяўчыну, урэшце гэты фальш мог раззлаваць. Так яны знерухомелі, можа, хвіліны на дзве, кожны думаў пра адно і тое ж, пра сваё месца ў заблытанай гульні, канца якой не было відаць. Яна рэзка ўстала, адвёўшы яго рукі праз галаву назад. Націснула клавішу магнітафона і пайшла на кухню. Цішура астаўся ў зале. Мікалай Гнацюк спяваў «Малінавы звон». Гэтая песня Цішуру падабалася, да шчымлівасці развярэджвала душу: уяўленне малявала расійскія прасторы, дарогу ў стэпе, конніка на ёй і чырвоны круг сонца на замгле-



ным рудаватым небасхіле... Аднаго разу ён сказаў пра свае адчуванні Аксане, і яна, ведаючы, што ён прыйдзе, мабыць, наўмысна спыніла стужку на гэтай песні. Чуллівасць захліснула яму грудзі. Здавалася, такога прыемнага моманту ў жыцці болей не будзе.

Адале яны сядзелі за сталом на кухні, маленькімі крышталёвымі кілішкамі пілі гарэлку; у правай руцэ ў Аксаны дымілася цыгарэта, двума пальцамі левай яна брала са сподка зеленаватыя бліскучыя масліны, засяроджана жавала, а прадаўгаватыя, як фасоліны, костачкі выплёўвала на жоўтае металічнае вечка слоіка.

Цішура ўважліва глядзеў на яе, прыгожую, маладую, адукаваную, і сэрца заходзілася ад шкадобы: ён упадае за ёю, а знаць, забірае ў яе шанц сустрэць хлопца, халасцяка, які мог бы ажаніцца з ёю. І сам ён, замест таго, каб дбаць пра калгас, думаць, як выйсці з прарыву, падняць ураджаі, траціць час на залёты, здраджвае жонцы, якая перажывае, што ён тут адзін, ненакормлены і неабагрэты.

Ён разумеў сваё незайздроснае становішча, але ўпэўненасць, што яго святасць і чысціня нікому не патрэбныя, нікім не будуць ацэнены, вельмі хутка адагнала ўсякія сумненні, і ён з лёгкасцю неймавернай, хлапчукоўскай нястрыманасцю хіліўся да Аксаны, дакранаўся вуснамі да яе гарачага, пакрытага пушком вуха... А праз нейкі час, збіўшыся з падліку выпітых кілішкаў, ён ужо не цяміў, якія словы шаптаў Аксане.

...Прыгадаўшы ўчорашняе, Цішура адчуў на душы цяжар — не дакóру, а нейкай зныблівай, прыкравата-халоднай тугі. Гэтага цяжару раней ён не адчуваў, выявіў яго ў сабе ўжо тут, у вёсцы, і не напачатку, а пасля таго, як зблізіўся з Аксанаю. Яму было хораша з ёю, і чым большую асалоду меў, тым мацней назаўтра ціснуў цяжар. Праца, старшынёўскія клопаты не дапамагалі яму пазбавіцца ад душэўнай няўтульнасці, і толькі на паляванні ён пра ўсё забываў. Яны і згаворваліся з Антонам Храмянком сёння ўначы ехаць на дзікоў, але запазніўся ў Аксаны, узяў добрую чарку — якое паляванне? Няхай даруе чалавек, зразумее, што ў старшыні мора народу, а не толькі ён адзін.

Цішура ўстаў з ложка, зачыніў фортачку, каб не прахапіў скразняк. Махнуў рукамі, прысеў, але закалола ў патыліцы, і ён, баючыся, каб чаго не прыключылася з галавою (нядаўна яго таварыша, зусім маладога, скасіў інсульт), не стаў рабіць зарадкі; падыбаў босы на кухню, паставіў на пліту ваду: кава на пахмелку лепш за бальзам.

Было зусім рана. Акно шарэла ад кропель расы. Сонца толькі-толькі паднялося, рассейвала нізкі белы туман яшчэ млявымі, халоднымі промнямі. У садзе за выганам трэнькаў драгучна, быццам пад прызбаю, незадаволена і злосна. Мабыць, яго сагналі з гнязда: у Саракавым ужо трэці дзень косяць канюшыну.

Увосень палётаў на «Ніве» сваёй па Саракавым. Храмянка за руль, а сам з акна ба-бэх па дзіку; у маі казулю загналі. Храмянок — жалезны мужык: «Звярну лыч, пушчу крывянку». Хоць і за начальніцкімі плячамі, але ўпэўненасці не адчувае. Чалавек не можа быць вольны, пакуль ёсць магчымасць расквітацца з ім. І ў другі раз годам не адбрыкнешся, поўную катушку наматаюць. Уздыхнуў неяк: «А не ўляціць нам, звярну лыч, пушчу крывянку, за тое, што людзі сеялі, а мы вытоптваем?» «Грэх на душу бяром, канешне, але не па жывому топчамся, адрасце»,— адказаў ён наўмысна бадзёрым голасам.

Кава падвесяліла яго. Перад тым, як ехаць у кантору, ён заглянуў да Антона Храмянка на склад. Той нярэдка і начаваў там: прымаку, яму іншы раз мяшкі з жытам здаваліся цяплейшымі і мякчэйшымі за жончын бок.

— Ты не крыўдуй, Антоне, што падвёў,— ляпнуў ён Храмянка па плячы.— Закруціўся. Сёння гайсанём на дзікоў.

Храмянок, з зарослым чорнай шчацінаю пляскатым тварам, у фуфайцы, белай ад мукі і павуціны, заморгаў вейкамі і, пакруціўшы доўгім носам, сказаў:

— Сянні ў Саракавым дакосяць канюшыну, звярну лыч, пушчу крывянку. На голае поле дзікі наўрад ці сунуцца...

Уладзіслаў
РУБАНАЎ



АПАВЯДАННЕ

«Хайлук хайлуком, а галава прафесарская! — падумаў сам сабе Цішура, гледзячы на Храмянка з грэблівасцю і захапленнем адначасна.— Трэба ж помніць такое. Я сам не ведаю, калі яе, тую канюшыну, убяруць...»

Яго так уразіла Храмянкова кемлівасць, што ён доўга дакараў сябе за бязглуздасць і за тое, што не мае такой патрэбнай кіраўніку празорлівасці. А можа, ён свядома не хацеў глядзець далей заўтрашняга дня? Ва ўсякім разе, яго папярэднікаў гэта не вельмі бянтэжыла, і яны, здаецца, няблага пражылі на малінаўскай зямлі блаславёныя начальствам гады. Што можа ў нашым супярэчлівым, перавернутым дагары нагамі свеце адзін чалавек, нават калі ён разумны, сумленны, самаадданы? Нічога. У гэтым Цішура быў пераканаsuccessfully яшчэ са студэнцтва, калі яго, выдатніка, накіравалі ў глыбінку, з якой ён і цяпер не можа выбрацца.

І пад час нарада, і тады, як застаўся ў кабінеце сам-насам, з галавы не ішла гэтая Храмянкова падказка: у Саракавым сёння дакосяць канюшыну. Ён не знаходзіў сабе месца і вельмі абрадаваўся, калі рыпнулі дзверы. «Зноў гасцявыя»,— так ён называў наведнікаў.

Прыйшла старая. Ён не ведаў яе прозвішча, але, праязджаючы па вуліцы, не раз бачыў на лавачцы каля цёмнай пахілай хаціны з дзвюма белымі фанернымі шыбкамі ў акне.

— Здрасце, старшынька! — павіталася старая.

— Праходзь, бабуля,— ветліва запрасіў Цішура.

— Я не буду вас доўгенька тлуміць... Ета ж карову шчэ трымаю... Мне ўжо восьмы дзесятак, але трымаю. Касіць ужо не магу... Сена я прыйшла... Можа б, выпісалі. Летась Васіль Апанасенка перабіраўся ў раён, дык прадаў мне сваё сянцо. А сёлета нямаш...— Старая, хоць і з прыдыханнем, гаварыла безупынку.

«Ці языкастая бабуленцыя, ці перажывае»,— падумаў, аналізуючы свае псіхалагічныя назіркі, Цішура. Канечне, шкода старую, уважыць трэба. Хто ж ёй дапаможа.

— А дзеці ёсць? — спытаў.

— Ёсцека. Сын. Ён далёка, у етым... як яго, еты горад? Забыла старая баба! — засмяялася.— Адзін толькі сынок у мяне. Як чалавек мой у вайну паў, так я ўжо і жыла адна.

— Трэба выручаць,— сказаў Цішура хутчэй свайму ўнутранаму «я», чым старой.

— Во-во, любы дзетка...

— Я буду пытанне вырашаць, а ты, бабуля, недзе праз месяц падыдзі сюды. Дабро?

— За сенам? — разгубілася старая.

— За паперай, бабуля!

— Дык ці я паперай етай кароўку накармлю? — развяла рукі старая.

— Якая ты някемлівая, бабуля! — паўшчуваў Цішура.— Там будзе напісана, каб брыгадзір адмераў табе трыццаць сотак атаўкі.

— Атаўкі, глытаўкі...— Старая, бы малітву шэпчучы, патупала да дзвярэй. Глянуўшы на яе са спіны, ён раптам успомніў сваю маці, таксама ўжо немаладую: лічы, забыў яе, рэдка наведвае; дзякуй богу, і бацька жыве, удваіх кеўляюць патроху.

**У КАБІНЕЦЕ ЯМУ НЕ СЯДЗЕЛАСЯ.** Нахапіў на галаву капялюш і пaруліў у Саракавое. Вялізная плаха канюшыннага поля была акаймавана дзвюма падковамі — лесу і балота. На ёй стракаталі дзве касілкі, каля іх марудна паўзлі трактары «Беларусь» з прычэпамі. Няскошанай заставалася паласа ад балота. Можа, метраў трыста-чатырыста шырыні.

Ён падкаціў да першай касілкі, вылез з машыны і, падняўшы руку, даў знак спыніцца. Другая касілка таксама спынілася. Не часта старшыня калгаса радуе трактарыстаў такою ўвагаю. Няйначай, штосьці здарылася.

— Як працуецца? — Ён павітаўся з кожным за руку, некаторым паціснуў локаць.

— Да абеду скосім,— сказаў высокі трактарыст з рыжымі брывамі і маленькімі чырвонымі, як журавіны, вочкамі.— Добры сілас будзе ўперамешку з лубінам. Праўда, дзікі панадзіліся... дый, мусібыць, каровы паклычылі.

— Ага,— пацвердзіў каранасты, з шырокімі шчокамі і тоўстымі, як у ляшча, губамі, дзяцюк.

У твар Цішура іх добра ведаў, а прозвішчы блытаў: Лагуцёнак, Тарасенка — хто з іх каторы?

— Малайцы! — пахваліў Цішура.— Стаўлю пяць і прашу вас пераязджаць на другое поле. Гэты лапік канюшыны няхай застаецца...— «Што тут сказаць?» — Для другіх патрэб.

Трактарысты пераглянуліся: начальства камандуе — яны выконваюць. А хто-колечы з іх нават абрадаваўся: пад маркаю пераезду можна скруціць паўдня, адскочыць па дровы ці ношку-другую сена на ўзлеску адкасіць. І Цішура, і трактарысты асталіся задаволеныя.

Ідучы да машыны, Цішура адчуваў, як стрыжакі канюшыны хрупаюць пад нагамі, і яму здавалася, быццам ён наступае на нешта жывое. Дзіўнае адчуванне ажно закалола ў мазгі, і ў ім прачнулася шкадаванне невядома каго і чаго. Няўжо вярнуўся ранішні цяжар тугі і зноў лёг на душу? Не, без палявання яму не абысціся.

Спаць ён уклаўся рана. Адвячорак толькі засінеў.

Яму прысніўся сон. Дзікі, ласі і ваўкі гоняцца за ім. Ён бяжыць па голым полі да лесу. Там яго выратаванне. Ён чуе ззаду звярыны роў, стук капытоў і клацанне іклаў. Яго ахінае халодны жах, але ён упэўнены, што дабяжыць да лесу і ўскочыць на дрэва. Ён чалавек, разумная істота, канечне ж, пераможа дурных звяроў. Так і ёсць. Ён дабягае да лесу, перад ім сукаватая тоўстая бяроза, і ён спрытна, бы кот, залятае на яе... і — о госпадзі! — бяроза пачынае хіліцца да зямлі, як травіна. Ён вар'яцее ад страху: «Яна такая тоўстая, няўжо не вытрымае?!». Унізе, б'ючы капытамі, шчэрачы іклы, бегаюць дзікі, ласі і ваўкі. Ён цаляе, каб скочыць на суседнюю сасну, і чуе, як трашчыць пад ім ствол бярозы... Ён разумее, што павінен разляпіць вочы, зараз жа, гэтую хвіліну. Інакшай амба: упадзе і яго пашматаюць звяры. Павекі свінцовыя, бы на іх паклалі па жакану, але вялікім намаганнем ён расплюшчвае вочы...

Колькі часу Цішура ляжаў нерухома, слухаючы, як грукоча ў грудзях сэрца, і трэск бухдзільніка на стале не можа заглушыць яго ўдараў. «Ну і сон, ліха яго! Так і да інфаркту недалёка... Можа, не валачыся на гэтае дурное паляванне?» — засумняваўся ён.

Як і ўсякі чалавек, якога бог не абдзяліў ласкаю, ён быў прымхлівы і баяўся смерці. Запаліў настольную лямпу, глянуў на гадзіннік: палова другой. У дзве за вёскаю, на раз'ездзе дарог, яго будзе чакаць Антон Храмянок. Зноў яго падводзіць?

Шыбы вокнаў адлівалі бэзавай густой сінявою. На двары плаваў морак: ноч была не вельмі цёмная, недзе высока ў небе зырчэлі зоркі. У галаве звінела. Дурнота — гэтае паляванне, злаваўся ён, пад'юджваючы сябе, падсцёбваючы паляўнічае самалюбства. Быццам у бясцямнасці, ён напяў штармоўку, абуў гумавыя боты і выйшаў у ноч. Сцюдзёны ветрык ласкава прытуліўся да яго твару.

Ехаў, не ўключаючы фар.

Храмянок стаяў на краі дарогі пад елкаю. У руках трымаў складзены цэлафан — вялікія мяшкі. На поясе цьмяна паблісквала сякера. Цішура адчыніў дзверцы. Храмянок сеў на пярэдняе сядзенне.

— Светла,— сказаў ён са шкадаваннем, зацята гледзячы ўперад.

— Можа, вернемся? — шчыра, усур'ёз прапанаваў Цішура: трывога як засела ў грудзях пасля страхотнага сну, так і халадзіла да гэтага часу.

— Рызыкнём, звярну лыч, пушчу крывянку! — ударыў па калене рукою Храмянок. Ён адным махам умеў адсекчы ў Цішуры ўсе сумненні, а тут не выпадала вяртацца з пустымі рукамі: дзічына ў хаце скончылася, і жонка пачала ўжо дапякаць яго, абзываць нахлебнікам. Гэта была каманда на папаўненне мясных прыпасаў. Горкая прымачая доля.— А вы, Сцяпанавіч, малайцом,— пахваліў Цішуру,— пераправілі трактарыстаў на другое поле.

Цішура не мог цярпець лісліваcці дробных, не вартых павагі людзей. Зусім іншае, калі лісліваць людзі, блізкія табе па рангу, не гаворачы ўжо пра тых, якія стаяць вышэй і пра ліслівасць якіх можна толькі марыць. Ён уздыхнуў, паддаў газу. Машына каціласся лёгка, амаль нячутна, як шар: механік, ведаючы, што шэф сам ездзіць, штодня правяраў машыну. Зрэшты, гэтыя дзікі сталі нахабныя, як людзі, так асмялелі, што падпускаюць да сябе зусім блізка тэхніку. Распавядалі трактарысты, якія працавалі ўначы.

**ЯНЫ ЎЗ'ЕХАЛІ НА ПОЛЕ** ў тым месцы, дзе стыкаюцца падковы — краі балота і лесу. Туды, віхляючы, вывела дарога. Вылезлі з машыны. Цішура трымаў у руках зачахлёную дубальтоўку. Вецер дзьмуў якраз з поля — дзікі не ўчуюць. У лесе здурнела галасіў пугач: «у-ху-ху!», «у-ху-ху!».

Храмянок пагробся на дубок — глянуць, у якім месцы пасвяцца на полі дзікі. Спрытна, як вуж, саслізнуў уніз.

— Ёсць! — узрадавана прашаптаў і пацёр рукі, ажно тыя зарыпелі, бы качаны капусты.

Цішура ўжо злажыў дубальтоўку і загнаў у абодва ствалы па жакану.

Над полем вісеў спакойны, строгі, як лязо, месяц. Скошаная паласа была светлая, бялелася, адсвечвала, як палатно, а тая, што засталася няскошанай, слалася чорнаю, бы асфальт, стужкаю, канца якой не было відаць, ён зліваўся з балотам.

— Садзіся за руль, паехалі! — скамандаваў Цішура і адчуў, што ад хвалявання зводзіць сківіцы. Ён адчыніў правыя дзверцы, уставіў у паз спецыяльную распорку,— каб не зачынялися.

Спачатку ехалі ціха, машына паўзла няўклюдна, як чарапаха, пускала белы дымок, які, абганяючы, плыў паўз акно.

— Давай! — зноў падаў каманду Цішура. Машына тарганулася, як бы ўдыхнуўшы ў сябе паветра, і палецела па полі туды, дзе чорнымі кучкамі віднеўся статак дзікоў. Цішура ведаў, пакуль дзікі ачухаюцца, разбяруцца, што да чаго, адкуль чакаць небяспекі і куды бегчы, яны параўняюцца з імі і можна будзе паліць дуплетам. Храмянок быў умелы вадзіцель, з вялікім вопытам язды па лясах і палях, і Цішура мог смела, не асцерагаючыся, сачыць за дзікамі.

Дзікі, пачуўшы машыну, заламалі да лесу, збіваючыся кучней. Мабыць, яны недаацанілі небяспеку ці не разлічвалі, што яна так хутка наблізіцца, бо калі машына параўнялася з імі, да іх было не больш як паўсотні метраў.

Цішура яшчэ загадзя намеціў сабе ахвяру — падсвінка, які, трохі адстаўшы, пароўся лычам у зямлі. І як толькі Храмянок прытармазіў — націснуў на абодва куркі, лічы, адначасна. Бліснула блакітнае, як доўгі шар, полымя — і вочы мяккаю лапаю закрыла чарната. У гэтае імгненне Цішуру здалося, што ён сам некуды знік, няма яго, засталася толькі думка, што быў такі на свеце чалавек — Цішура.

Дзікі шуганулі да лесу, за адну секунду выпалі з поля зроку, і Цішура, выскачыўшы з машыны, убачыў, што ў канюшыне б'еца і вішчыць на ўсё поле падсвінак. Храмянок першы дабег да яго і ўдарыў два разы абухом па галаве.

— Снайперскі выстрал, звярну лыч, пушчу крывянку! — захіхікаў Храмянок, калі падбег Цішура.— Акурат у пазванок... Але ж і крычаў, ажно ў вушах і цяпер звініць.

У Цішуры сэрца білася так, што здавалася, яго ўдары чуць навакольныя вёскі. Самы страх у яго заўсёды пачынаўся тады, калі дзічына мёртвая ляжала на зямлі: цяпер не дакажаш, што выпадкова апынуўся тут, у полі, што збіўся з дарогі, што сапсавалася машына. Яму ўспаміналася Аксана, да болю крыўдна было, што не нацешыўся ўволю яе маладым каханнем. То раптам станавілася шкода сябе, дзяцей, жонкі... Мала, што сам зняславіўся, дык і ім будзе ганьба, калі выкрыюцца ягоныя штучкі. Ён ведаў, што ўсё непрыстойнае, чорнае ў чалавеку рана ці позна вылазіць напаверх, але бралася аднекуль упэўненасць, што якраз з ім такога не здарыцца, бо заўтра ж раніцаю ён парве з усімі ганебнымі прывычкамі. І назаўтра ён сапраўды адчуваў у сабе шчырую цвёрдасць парваць. Але мінаў дзень, тыдзень, і ён не мог знайсці сабе месца, нябачны вораг, які сядзеў у падсвядомасці, уладна загадваў яму, прагнуў асалоды. І тады Цішура казаў сабе: «Ну, усё, д'ябал пабяры, сёння апошні раз!». Такіх «апошніх разоў» у яго набралася шмат, як на канторскіх лічыльніках костачак. Прадаеш сумленне толькі раз, а торг за яго вядзеш потым усё жыццё.

Падсвінак быў чорны, як і канюшына, толькі шчацінкі на хібе жоўта блісkалі, як саломіны. Храмянок, нахіліўшыся над ім, успорваў нажом шкуру, саладжава прыцмокваў:

— Тлусценькі япручок, звярну лыч, пушчу крывянку!..— тыцкаў пальцам у сцягняк.

Цішура не ведаў, куды прычаліць рукі, стаяў, думаючы, што яго самы лепшы ўдзел у свежаванні — не замінаць Храмянку, чыёй хваткасці ўжо не раз зайздросціў. Стоячы, ён першы і ўбачыў, што ў лесе, на той дарозе, па якой і яны ехалі, таямніча бліснулі агеньчыкі.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА



## Зіна ДУДЗЮК

### Пагоня

**К вечеру же одолел Ярослав, а Святополк бежал.**
«Аповесць мінулых часоў».

Ужо крумкачы
над Альцінскім полем кружылі,
садзілася сонца,
крывавы згасаў далягляд,
калі Святаполк
адступіў са сваёю дружынай
і за спіной ад пагоні
дрыжэла зямля.

Ці трызня, ці ява?
Дыханне гарачай пагоні.
Суровыя воі
ляцяць над высокай травой,
храпуць азвярэла
і пену распырскваюць коні
і б'юць капытамі
дарогі бясконцы сувой.

Прывідныя цені
забітых Барыса і Глеба,
маркотныя цені
яго паланёных сясцёр
з'яўляюцца з цемры,
і рушыцца здрадліва глеба,
і валіцца неба,
і ў горле рыданні — асцём.

«Ты помсціш мне, Кіеў?
Ці я паслужыў табе мала?
З вялікай любові змагаўся,
грахоў не лічыў...»
У Бярэсці і Польшчы
Айчына яго даганяла,
ад гэтай пагоні
нікому павек не ўцячы.

### Ты

Ты — песня,
якую складаю
і крэслю.

Не адагрэць
мне твой хорам рукамі,
ты — камень.

Зыходзіцца свет
на табе,
як на першапрычыне.

Ты — сонца,
наблізіць цябе
немагчыма.

Ты — песня,
з якою загінуць,
а, можа, уваскрэснуць.

Ты — камень,
халодны і дзікі,
сярод сутарэнняў.

Ламаю душу,
гэтак дрэвы
ламаюць карэнне.

### Шукайце бюракрата

Панёс народ цяжкія страты
Ці не ўрадзіла ярына,
Шукайце, кажуць, бюракрата,
Ва ўсім, ва ўсім яго віна.

Ён там, далёка і высока,
То ў рай-, то ў абл-, то ў гар-якім,
Ды толькі з ім адна марока,
Да шчасця перакрыў шляхі.

Рассеўся важна па канторах,
Ні скараціць яго, ні зняць.
А хто канкрэтна ён, каторы?
Таго ніхто не можа знаць.

Не варта хвалявацца дужа,
Не трэба ўдалячынь хадзіць,
Як бюракрат не ў вашых душах,
Тады на шыі ў вас сядзіць.

### Развітанне

Хавалі ў жніўні селяніна,
У хаце плакала радня.
Мужчыны з добрых успамінаў
Ужо закусвалі з паўдня.

Якраз камбайн далі вяскоўцам.
А справа справай. Што ж рабіць?
Камбайн спяшаў насустрач сонцу
Снапы ў дварах абмалаціць.

Спыняўся ля чарговых весніц,
Саломы копы пакідаў,
Ад спёкі, гулу ў вёсцы цесна...
А ў тым канцы была бяда.

З таго канца ў жалобе людзі
Ішлі няспешна за труной.
Нясцерпны боль душыў ім грудзі
І вочы засцілаў слязой.

І камбайнёр спыніў работу.
Было б жыццё, дык будзе дзень.
Камбайн прыціснуўся да плота,
Каб моўчкі прапусціць людзей.

Салома мякка шаргацела,
Ўсцілала пад нагамі шлях,
Сказаць жытнёва штосьці хацела
Таму, хто сеяў на палях,

Хто жаў, касіў, зграбаў салому
І не паспеў як след пажыць
За войнамі. Ішоў вось з дому
Навек за вёску адпачыць.

Глядзелі хаты ўслед з маркотай,
Смугой акрыўся далягляд.
І заставалася работа,
І заставалася зямля.

### Залежнасць

З маленства шукаю
мяжу небакраю,
бягу напрасткі,
у травах знікаю,
святлом абдымае
высокае неба,
поле —
перш з васільком,
пасля толькі з хлебам.

Над возерам Белым
кудлатыя хмары,
настылая хваля
бяжыць па слядах,
змывае былыя
надзеі і мары,
якія нябёсы —
такая вада.

Не так пражыла я
свой час найдарожшы,
нічога ў мінулым
цяпер не закрэсліць,
а новага веку
не купіш за грошы,
якое жыццё —
такія і песні.

## Юрка ГОЛУБ



### Балада Берштаўскай капэлы

Спявала капэла
Крынічна,
крыштальна і ясна.
І роўных не мела
У поўдзень — на полі,
У поўнач — ля прасніц.
Ды гэтага мала:
Ля зорак капэла спявала!
Гучала капэла...
Ды нечага сціхла заўчасна,
Ці помач тады не паспела,
Ці лёс у жанчын пакручасты?
І раптам капэлы не стала,
І чутка пра спеў не спявала.
А песень вясковая веліч
І зёлкі, і вочы расіла...
Азвіся, ТамараІлькевіч,
І дзе Вы, старэнькі Русілка?
Сумуем мы вельмі,
Мы вас папрасілі б...
Каб раптам рукою сухенькай,
Як колісь, высока ўзмахнулі!
Спявачкі ў жалобных сукенках....
І вы не ўзмахнулі — заснулі!..

І шлях той, што Вамі абраны:
Такія шляхі абарваны...
Дык дзе ж ты, капэла?
Хай радасцю сум твой засвеціць,
Дзе бэзам прастора кіпела.
Ды падаюць словы на вецер...
Маўчанне стаіць акапэльна.
Смяртэльна.

### Янка Брыль у Якушоўцы

На раскопе ўваскрэс археолаг,
Акулярамі ў сонцы ззяў.
Ад пяску не спяшаўся холад —
Сведка ўсіх далакопных з'яў.

Уздымаліся на паверхню
Знакі побыту і быцця.
Стуль высока сягнула вернасць,
Не сягае куды бацян.

І пячатка з былой абсады
Пазбірала цяпло ад рук,
А жаўрук хвалявання падаў
Аж на віленскі сцюжны брук.

Мастаўлянскае сцежкі ручайка
Вытыкалася ў той сувой,
Што з крывёю мог заручацца,
Сцягам збыцца над галавой.

Якушоўскі працяг узгор'і
На зялёных вятрах гайдаў.
Помста тут вырастала з гора,
І з касою на шлях — гайда.

Дзесь пад самым пушчанскім
сэрцам
Касінерскі ланцуг застыг.
Наш пачатак ад тое смерці,
Думкі нашы паходзяць з тых.

...Ператомлены, як раскольнік,
Думны воблак пад небам брыў.
На бунтоўным стаяў раскопе
З ціхай мудрасцю Янка Брыль.

### Снежаньская балада

Завеі — шыр займаць,
З гаямі йсці на згоду.
Засведчыла зіма,
Што снежань — ночка году.

Ад снегавых палос,
Як пісягоў маланкі,
Падобна ў белы плёс
Загорнута палянка.

У прыцемку — абшар.
А свеціць таямніча,
Нібы дзявочы твар,
Адчайны воблік знічкі.

І лёс яе спазнаць
Не здольны той, хто падкі
З імпэтам адказаць,
Што зоры — бога спадкі.

Віхурным следам, бач,
Сплыве задумы пошта.
Дзесь лета дзьме ў гарлач —
А снежань множыць пошум.

І нам ужо карціць
Завею ўшчэнт разгойдаць,
Бо як ты ні круці,
А снежань — ночка году.

### Творчаму аб'яднанню «Белавежа» ў Беластоку

Без птушак лес пусты,
А з галасамі повен.
Рассохнецца, як човен,
Без птушак лес пусты.
Гарласты гурт любові
Сябе ў гаі пусціў.
Без птушак лес пусты,
А з галасамі повен.

### Трыялет песні

Спявала ўсё на галасы
У добрыя часы былыя —
У палявыя, баявыя
Спявала ўсё на галасы.
Дык дзе ж вы, песні балявыя,
Каб вочы прагнулі расы?
Спявала ўсё на галасы
У добрыя часы былыя.

### Трыялет прыпынку

Людзі асенняга ўзросту
Сталі на гулкім прыпынку.
Позірк павольны. Замінка.
Людзі асенняга ўзросту.
Побач шчабеча дзяўчынка,
Хлопец замоўчвае ростань.
Людзі асенняга ўзросту
Сталі на гулкім прыпынку.

### Трыялет лісця

Стомлена падае лісце,
Адштампаванае з медзі.

Трэба балконы агледзець...
Стомлена падае лісце.
Няўжо так ні разу не змеціў,
Што быў ты шчаслівы калісьці?
Стомлена падае лісце,
Адштампаванае з медзі.

### Трыялет чаромхі

Зімою расцвіла чаромха,
Празрыстай стала навылёт.
І не зважаючы на лёд,
Зімою расцвіла чаромха.
Каб сцюжы вытрымаць налёт,
Неспадзявана і чароўна
Зімою расцвіла чаромха,
Празрыстай стала навылёт.

АДРАСАВАНА У. І. ЛЕНІНУ

# ГЛЫБОКІЯ КАРАНІ

## ВЯЛІКАЯ РАДНЯ

У вёсак, як і ў людзей,— у кожнай свой лёс, сваё аблічча. Ёсць вёскі, нібы вялікія сем'і, характар якіх складваецца гадамі і дзесяцігоддзямі, калі малодшыя вырастаюць на вачах у старэйшых, і калі пакапацца ў радаслоўных, усе, хоць і далёкая, але радня. У такіх вёсках людзі жывуць звычайна, як кажуць, любячы і шкадуючы адзін аднаго.

Свіслач — вёска вялікая. Яе шматлікія вуліцы разлегліся-разбегліся ў розныя бакі роўна і прывольна. Тут таксама жыве шмат радні, сваякоў. Але за апошнія дзесяцігоддзі многія яе гадаванцы пакінулі свой родны кут, падаліся ў Асіповічы, Бабруйск, Магілёў, Мінск. Затое пабольшала перасяленцаў з навакольных вёсак і нават з далёкіх краёў. У гэтым дзівосным кутку зямлі пачалі віць свае гнёзды залётныя дачнікі з Мінска, Ленінграда, Масквы... Так што на вачах мяняецца і аблічча вёскі, і састаў яе насельнікаў.

Вядома, у кожнага паселішча не толькі свая біяграфія, але і свае падставы для гонару. Ёсць яны, безумоўна, і тут, у Свіслачы.

Пасля кароткага цёплага дажджу зямля парыцца, і кружаць галаву непаўторныя вясковыя пахі. Раскошна тут і для сонца, і для ветру, і для людзей.

Колькі дзён хаджу па незнаёмых вуліцах і вулачках, вывучаю жыццё-быццё тутэйшых людзей, прыглядаюся да іх, прыслухоўваюся да думак-разваг. І кожны дзень, кожная сустрэча адкрываюць штосьці новае, даюць падставу для роздуму.

На самым высокім месцы ў вёсцы, у пачатку яе галоўнай вуліцы, стаяць абеліскі. Тут брацкая магіла і месца захавання двух Герояў Савецкага Саюза — капітана Леўчанкі і старшага лейтэнанта Клімянкі, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны пры вызваленні тутэйшых мясцін ад фашысцкіх захопнікаў. Імем Кліменкі названа галоўная вуліца, ад якой разбегліся ў розныя бакі вуліцы Замкавая, Лясная, Санаторная, Бярэзінская, Маладзёжная, Рачная, Школьная... І кожная гэтая назва вельмі дакладна перадае галоўную сутнасць яе маленькай гісторыі.

Скажам, ёсць у вёсцы дом, нават комплекс дамоў, цэлы своеасаблівы гарадок, які добра ведаюць і з удзячнасцю ўспамінаюць тысячы людзей у нашай рэспубліцы. Сваёй архітэктурай ён выдзяляецца сярод сучасных пабудоў — гэта колішні палац памешчыка Каржанеўскага. Але цяпер тут іншыя гаспадары — ён належыць дзецям і называецца так: «Санаторны піянерскі лагер «Свіслач». Штогод па пуцёўках прафсаюза тут адпачываюць, умацоўваюць сваё здароўе, п'юць мясцовую хларыднанатрыевую мінеральную ваду амаль паўтары тысячы школьнікаў. Дык і вуліцу таму назвалі Санаторнай.

Вяскоўцы ганарацца мясцовай дзесяцігодкай. Стаіць яна ў маляўнічым месцы, патанаючы ў зяляніне клёнаў, ліп і рабін. Гэта старэйшая школа ў раёне. Сёлета ёй споўніцца 83 гады. Сённяшні дырэктар школы Аляксандр Ануфрыевіч Цімошчанка з вялікай павагай і гонарам паказвае і расказвае пра шматлікія фотаздымкі, запісаныя ўспаміны, выразкі з газет, сотні імён і лёсаў тых, хто ўсталёўваў тут Савецкую ўладу, хто абараняў яе ад ворагаў, хто наладжваў у вёсцы новае жыццё.

Памяць тых дзён незабыўная. Хоць і нямногія непасрэдныя ўдзельнікі падзей дажылі да сённяшняга дня, але ёсць яшчэ свіслачане, якія помняць першыя крокі нараджэння калектыўнай гаспадаркі. Успамінамі пра час непаўторнай сваёй маладосці ахвотна дзяліліся колішні калгасны брыгадзір, удзельнік ВДНГ у Маскве 1939 года Іван Кузьміч Казак, баявы партызан, калгасны ветэран Аляксандр Аляксандравіч Аліноўскі, былая калгасніца-паляводка Марыя Несцераўна Бурак, першая калгасная даярка Марыя Васільеўна Назаровіч...

...Сядзім у невялікім, утульным пакоі мінскай кватэры персанальнай пенсіянеркі Марыі Васільеўны Назаровіч. Яна дастае з шуфлядкі і паказвае нешматлікія, пажоўклыя ад часу фотаздымкі, пісьмы, даведкі, газетныя артыкулы.

...Доўгімі зімовымі вечарамі вясковая моладзь збіралася звычайна ў чыёй-небудзь хаце, ладзіла вячоркі. Але заўсёды, як бы ні весяліліся юнакі і дзяўчаты, галовы іх займалі думкі аб новым жыцці...

Дайшла чутка і да свіслачан, што дзесьці людзі аб'ядноўваюцца ў калгасы, каб разам працаваць на сваёй зямлі. Доўга ламаў галаву Міхась Назаровіч: як жыць далей? Меркаваў і так, і гэтак. Ведаў, што не проста людзям адмовіцца ад зямлі, аддаць у агульны гурт апошняга коніка ці кароўку. Зноў-такі не лягчэй і пераканаць людзей у тым, што так будзе лепш. Але і само гэтае лепшае жыццё не прыйдзе. Ды некаму ж трэба пачынаць?

І аднойчы адважыўся ён, прапанаваў сябрукам-аднагодкам аб'яднацца ў калгас. Першымі ў яго запісаліся Сцяпан і Вольга Яноўскія, Пётр і Аксіння Рудыя, Васіль і Таццяна Кашко, Ганна Рудая, Аляксандр Дайнека, Міхаіл і Марыя Назаровічы, Аляксандра Забаўская, Домна Сарока і іншыя. Бедна жылі іхнія сем'і, як кажуць, не было ні кала, ні двара. Тым не менш цяжка развіваўся кожны з уласнай, хоць і нямоглай гаспадаркай. Перш-наперш у калгасе з'явілася 12 кароў, 4 кані, некалькі плугоў, барон і іншы сельскагаспадарчы інвентар. А найбольш кемлівага і адукаванага Міхася Назаровіча абралі старшынёй.

І пачалі ладзіць новае жыццё. Да ночы сядзелі іншы раз пры цьмяным святле капцілкі, раячыся разам, як і што трэба рабіць, каб багацела калектыўная гаспадарка. А назву ёй сімвалічную далі — «Усход»: падкрэслівала не толькі само з'яўленне сонца, але і бок гарызонта, дзе яно нараджаецца.

Надзвычай старанна рыхтаваліся маладыя калгаснікі да першай сумеснай уборкі ўраджаю. На поле вывелі жняяркі і касілкі, дружна выйшлі людзі з сярпамі і косамі. А старшыня і запрасіў тады фатографа, які пакінуў нашчадкам памяць аб першых кроках станаўлення калгаса.

— Вось гляджу я сёння на гэты здымак, і самой ужо не верыцца, што мы пачыналі з прымітыўных конных жняярак, плужкоў, сярпоў і кос,— разважае Марыя Васільеўна і міжволі ўсклікае: — А цяпер жа ў калгасе столькі ўсялякай тэхнікі, машын, інвентару! А Міша ж мой, помню, яшчэ тады гаварыў нашым, што настане такое светлае і шчаслівае жыццё. І людзі верылі яго словам, сваёй шчырай працай стараліся яго наблізіць...

**РАДКІ З БІЯГРАФІІ. Назаровіч Міхаіл Васільевіч нарадзіўся ў 1895 годзе ў Свіслачы. Бацькі былі беднымі сялянамі. У сям'і расло 15 дзяцей, у тым ліку дзесяць хлопцаў. У час грамадзянскай вайны Міхаіл ваяваў дзесьці на Украіне. Пасля там жа застаўся працаваць. Член партыі з 1918 года. Калі памерла маці, ён прыехаў пахаваць яе і застаўся тут жыць. Спачатку працаваў у ваенным аддзеле райвыканкома, потым аб'ездчыкам у лясніцтве, нампалітам ляснічага і аднačасова вучыўся ў Мінску. У 1931 годзе яго перавялі ў мястэчка Камарын старшынёй райкалгассаюза. Затым у 1931—1937 гадах па накіраванню вучыўся ва універсітэце ў Маскве. Перавёз туды і жонку з дзецьмі, жылі ў інтэрнацкім пакойчыку. Пасля заканчэння вучобы быў накіраваны ў Голапрыстанскі раён Нікалаеўскай (а пазней — Херсонскай) вобласці на пасаду загадчыка каракульэкспарту. Але ў 1938 годзе быў арыштаваны і пасаджаны ў турму. Памёр пасля вайны ў турме ў Сыктыўкары.**

Цікавая гісторыя кожнага фотаздымка. Вось партрэты Марыі Васільеўны і Міхаіла Васільевіча. Маладыя, прыгожыя, яны сфатаграфаваліся ў Мінску неўзабаве пасля вяселля. А яно ў іх было асаблівае, бо яны не вянчаліся ў царкве, як тады завядзёнка была, а зарэгістравалі шлюб у райвыканкоме.

Разам ішлі па жыцці Марыя Васільеўна і Міхаіл Васільевіч Назаровічы. Ён увесь аддаваўся старшынёўскім справам, а яна даглядала калгасную жывёлу, сярпом жала жыта, сумленна выконвала любую даручаную работу на зямлі. Гадавала дзяцей. Кожнаму з іх шчаслівыя бацькі давалі імёны ў гонар вялікіх людзей і знамянальных падзей. Свайму першынцу далі дарагое імя Леніна — Уладзімір, другому сыну імя Фрунзе — Міхаіл, а дачок назвалі Акцябрынай і Маяй. На адным са здымкаў, зробленым у 1936 годзе, сфатаграфавана тагачасная сям'я Назаровічаў — бацькі і два сыны. А дзяўчаты нарадзіліся пазней.

Помню, як пад час нашай гаворкі Марыя Несцераўна Бурак сказала:

— Жыццё ў калгасе па-новаму пайшло. Дзякуй, вядома, нашай Савецкай уладзе, але найперш яму, старшыні нашаму Назаровічу... Сумленны і справядлівы ён быў чалавек. А колькі і сам, і сям'я яго на перажылі...

Вядома, найбольшыя выпрабаванні выпалі потым на долю жонкі.

Стрымліваючы слёзы, Марыя Васільеўна з горыччу апавядае, як намучылася яна з чатырма дзецьмі без галоўнага кармільца ў сям'і.

— Я была ўпэўнена, што Міша ніякі не «вораг», што гэта нейкая недарэчнасць або паклёп. Таму дабівалася, як магла, каб яго вызвалілі з турмы. Пісала і ездзіла ўсюды, хадайнічала. Але адказ быў адзін... Пакуль мне не параілі звярнуцца да жонкі Варашылава — Кацярыны Давыдаўны. Яна вучылася разам з Мішам ва універсітэце. Ды было ўжо позна. Але, напэўна, яна ўсё ж дапамагла, бо мне потым прызначылі персанальную пенсію за яго.

Чуйна лаўлю кожнае слоўца даверлівага расказу і бачу, як па яе жывым, але састарэлым ужо твары, як боб, коцяцца буйныя, чыстыя слёзы. Здаецца, колькі ўжо было выплакана іх за гэтыя шматлікія гады, а пры кожным успаміне яны па-ранейшаму затуманьваюць вочы. А сэрца агортвае скруха і боль. Бо колькі жыве чалавек, столькі шчыміць і смыліць незагойная рана...

Але ўсё ж недарма людзі гаравалі, аддавалі свае сілы і нават жыцці.

Пастунова наладзіліся, пайшлі справы ў калгасе, вырасла і ўмацавалася яго эканоміка. Далёка наперад рушыў за гэтыя гады калгас «Усход». Колькі гадоў запар гаспадарка атрымлівае мільённыя прыбыткі. Аднавілася, пахарашэла і сама Свіслач, іншыя навакольныя вёскі.

Заканчэнне. Пачатак у № 11.

Мікалай ЖЫЛІНСКІ



## РУПЛІЎЦЫ

Ранкам высока ў чыстым небе паміж сонцам і зямлёю павіс нябачны жаваранак, спрабуючы свае першыя вясновыя песні. Спачатку неяк зусім нясмела зазвінеў, а потым усё больш упэўнена і звонка. І вось ужо зусім рашуча і весела палілася з нябёс трапятліва-радасная жаўрукова песня: «Жыць! Жы-ы-іць! Жы-ы-іць! Жы-ы-іць!». І нельга не парадавацца яго гэтаму адмысловаму прыроднаму дару. А вясёлы пераліў званочкаў доўга яшчэ нёсся над наваколлем.

Іван Жук стаяў на ўскрайку поля і радаваўся. Радаваўся, што добра парыла зямля, што перад ім раскінулася шырокае роўнае поле, што шчодра свеціць сонца і трактар працуе ціха, зладжана, як гадзіннік. І нішто, здавалася, не магло сапсаваць яго вясёлага настрою.

Ён падышоў да бульбасаджалкі, у якую хуценька засыпалі насенне падвозчыкі. Але Іван спыніў іх. Агледзеў клубні і заглушыў матор.

— Ты чаго? — насцярожыўся адзін з іх.

— Не буду садзіць,— рэзка адказаў трактарыст.— Хіба гэта насенне? Гнілле! А я не хачу зямлю падманваць...

— Ды кінь ты,— узяў яго пад руку брыгадзір, які быў тут жа на полі.— Бульба як бульба... Заўсёды, лічы, такую садзілі...

— Што праўда, то праўда,— нібыта згадзіўся Іван.— Садзілі і такую, але што збіралі?.. Дык вось цяпер не будзем болей так садзіць! — І рашуча падышоў да падвозчыкаў: — Ану, хлопцы, хуценька адвязіце гэтыя клубні назад, а набярыце добрых, каб потым усім нам сорамна не было...

Шмат прыглядаўся я ў Свіслачы да людзей. І міжвольна заўважаў нейкае адметнае і непаўторнае хараство, замілаванасць позіркаў. Менавіта такім здаўся мне і вядомы калгасны звеннявы Іван Іванавіч Жук.

— Працавітасць — вось галоўная яго рыса,— сказаў намеснік старшыні калгаса, сакратар партарганізацыі Іван Міхайлавіч Пішчык.— Калі трэба ноччу на полі працаваць — слова супраць не скажа. На любую добрую справу адгукнецца. І іншых за сабою павядзе. Яго з паўслова людзі разумеюць. Нездарма ж падрадны калектыў сваім кіраўніком абраў. А калі да яго яшчэ падыход патрэбны знайсці, дык горы зверне...

Праўда, калектыў гэты яшчэ зусім малады, робіць толькі першыя крокі. Але ў калгасе ўжо ёсць пэўны вопыт работы вытворчых падраздзяленняў на арэндным падрадзе.

Здаецца, ужо даўнавата была тая першая наша сустрэча, а я помню яе, быццам размова адбывалася толькі ўчора.

Ён рашуча адчыніў дзверы і імкліва ўвайшоў у пакой. Высокі, мажны, але, нібы юнак, спрытны і рухавы, поўны маладой энергіі. Я гляджу на яго ладную, моцна збітую постаць і думаю: вось такія людзі трэба зямлі.

А Павел Карпавіч, нібыта адгадаўшы мае думкі, з усмешкай заначыў:

— Гэта я толькі з выгляду такі здаравяк, а ўсё ж здорава-такі знасіўся. Апошнім часам яшчэ хваробы ўсякія наваліліся...

Памаўчаўшы трошкі, а потым з нейкім затоеным сумам дадаў:

— Калі ты ўжо не малады, а за спінай куча хвароб, дык проста шкада траціць дарэмна нават адзін дзень. Зрэшты, не ўва мне справа, сам час патрабуе... Мне б скінуць з плячэй гадкоў дваццаць — дваццаць пяць. Во тады б я развярнуўся!

І вочы яго, здалося, загарэліся, твар паружавеў. Чалавек неяк адразу ажывіўся, загаварыў нетаропка, але ўзважана і ўдумліва, як пра добра вядомае, вынашанае ў думках і ў сэрцы.

**РАДКІ З БІЯГРАФІІ. Павел Карпавіч Кароль нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Амінавічы Асіповіцкага раёна. Бацька, Карп Сямёнавіч, і маці, Марфа Фларыянаўна,— патомныя хлебаробы, былыя камунары. Выхавалі шасцёра дзяцей — чатыры хлопцы і дзве дзяўчыны. І ўсе звязалі свой лёс з вёскай, з зямлёю. Павел у свой час закончыў Мар'інагорскі сельгастэхнікум, быў брыгадзірам у саўгасе «Асіповіцкі». Потым працаваў аграномам калгаса «Усход», а пасля два гады ўзначальваў гэтую ж гаспадарку. Затым яго выбіралі старшынёй сельсавета, быў галоўным аграномам калгаса. Апошнія восем гадоў працуе загадчыкам свінагадоўчай фермы.**

— Мяне тут часам «арандатарам» клічуць,— з усмешкай разважае далей Павел Карпавіч.— Слоў цяпер новых шмат з'явілася, але, шкада, недахопы застаюцца старыя... А кожны павінен за сваю справу адказ несці. Ды трэба ж, каб ён сапраўдным гаспадаром на зямлі быў. Тады і канчатковы вынік лепшы будзе.

Павел Карпавіч зноў загадкава ўсміхаецца і кажа:

— Вось мы тут пра Каржанеўскага ўспомнілі. Ён жа, нібыта, арандатарам быў. Але ж усім пасвойму распараджаўся, як лічыў патрэбным. Выходзіць жа гаспадаром быў. Вось што галоўнае! А які з мяне арандатар? Я ж ні на кармача, ні на свінарку ўправы не маю. Смешна, вядома, але які можа быць парадак на ферме?

У Паўла Карпавіча ёсць прычыны для скрухі. У свой час, калі ён толькі прыняў свінаферму, яна давала калгасу адны страты. Сабекошт вытворчасці аднаго цэнтнера свініны складаў больш як 300 рублёў.

Фермаўскія справы ён прымаў непасрэдна на месцы, гутарыў са свінаркамі, поварамі, прагна ўспрымаючы ўражанні. Якія яны былі? Людзі, здаецца, і нядрэнныя, але перспектыў не бачаць і не адчуваюць, жывуць адным днём. Таму і дысцыпліны не было. Але грошы неблагія атрымлівалі. Таму і трымаліся, хоць з жывёлы часам здзекаваліся. Бывала, не прыйдзе на работу свінарка ці повар, часам самому даводзілася варыць або раздаваць корм свінням. Былі і выпіўкі, і крадзеж, і ўсякая іншая распуста.

Прыглядаўся-прыслухоўваўся Кароль да ўсяго гэтага, а потым рашыўся — перавесці ферму на гаспадарчы разлік, на падрад. Ён ведаў, калі пераадолееш раўнадушша, дык і справы весялей пойдуць.

Доўга на тым памятным сходзе тлумачыў Павел Карпавіч новую сістэму арганізацыі і аплаты працы, прыводзіў прыклады. Людзі нібыта і пагаджаліся з яго прапановамі і меркаваннямі, але заўважалася, што да яго слоў ставіліся з недаверам. Не дапамагаў нават аўтарытэт кіраўнікоў гаспадаркі, якія запэўнівалі ў перавагах новага метаду.

З усіх бакоў сыпаліся рэплікі:

— Як заўсёды, падмануць і нічога не дадуць!..

Хто падмане? Каго? Чаму? Гэтыя

Заканчэнне на 32-й стар.

Працягваем знаёмства з творчасцю празаікаў, якія адметна заявілі пра сябе ў першае дзесяціголддзе Савецкай улады на Беларусі і палі ахвярамі сталіншчыны ў трыццатыя гады. Адным сярод іх быў і Адам Бабарэка — чалавек цікавага лёсу, шматгранных здольнасцей, высокіх духоўных пабуджэнняў, светлы і шчыры як у творчай працы, так і ў паводзінах. Такім ён быў у побыце, у сям'і, у службовых і сяброўскіх дачыненнях і ў спрыяльныя для выяўлення маральна-этычных якасцяў гады, такім жа застаўся і ў найскладанейшых абставінах духоўнага і фізічнага тэрору, што многіх унутрана скрышылі, змусілі ісці брата на брата, карміцца, пазбыўшыся чалавечага сумлення і пазычыўшы ў сабак вачэй, іудавым хлебам...

Ва ўласным жыццяпісе, змешчаным у зборніку аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў «Пра час і пра сябе», Адам Бабарэка апавядае: «Паходжу я з беззямельных сялян (па вясковай тэрміналогіі — «бруковых») вёскі Слабада-Кучынка, зараз Мінскай акругі, Капыльскага раёна. Нарадзіўся ў 1899 г. 15(2) кастрычніка».

Адамаваму бацьку, чалавеку кемліваму і спрытнаму на руку, каб пракарміць немалую сям'ю, даводзілася мяняць працу, пераходзіць з месца на месца ў пошуках надзейнага кавалка хлеба. Але выгадаваць і паставіць дзяцей на ногі яму не было наканавана — адно за адным згаслі ад шкарлятыны і сухотаў, а потым ён і сам памёр, пакінуўшы сіротамі Адама з братам.

Спачатку будучы пісьменнік вучыўся ў вясковай школцы, потым у Слуцкай бурсе. Каб працягваць вучобу далей, адных здольнасцяў было мала, патрэбны былі яшчэ і грошы. Адзінай установай, дзе можна было набыць адукацыю задарма, была рэлігійная вучэльня. Такім чынам Адам Бабарэка ў 1913 годзе апынуўся ў сценах Мінскай духоўнай семінарыі, якую паспяхова закончыў у 1917 годзе.

Падзеі, якія тады адбываліся на абшарах Расійскай імперыі, не маглі не паўплываць на погляды і пачуцці глыбока веруючага, уражлівага юнака. Ад тэалогіі пачынаецца досыць круты паварот да знаёмства з марксізмам, і замест таго, каб ехаць па прызначэнню на працу святаром у адну з праваслаўных цэркваў, Адам пачынае настаўнічаць у савецкай школе.

А Беларусь бурліла, на змену адной акупацыі прыходзіла другая, абвяшчалі сябе поўнаўладнымі ўладарамі супрацьлеглыя па стаўленню да лёсу народа і краіны ўрады. Здратаваная ў першую сусветную вайну беларуская зямля працягвала стагнаць над нагамі і капытамі чужацкай навалы.

Адам Бабарэка апынаецца ў шэрагах змагароў супроць белапалякаў на Случчыне, бярэ чынны ўдзел у арганізацыі ўзброенага паўстання. «Аднак,— сведчыць доктар філасофскіх навук, аўтар змястоўнай кнігі «Адам Бабарэка» У. М. Конан,— вясною 1920 г. у разгар падрыхтоўкі да паўстання ў Слуцку падпольную арганізацыю прабраўся правакатар і выдаў кіруючую групу. Пачаліся аблавы і масавыя арышты. Адама Бабарэку разам з дванаццаццю падпольшчыкамі кінулі ў астрог, страшэнна катавалі. З тых часоў на целе пісьменніка праз усё жыццё захаваўся жывы дакумент яго ўдзелу ў змаганні з акупантамі — рубцы ад іх бізуноў.

Восенню 1920 г. Адаму Бабарэку і некальнім яго таварышам удалося вырвацца з рук дэфензівы і далучыцца да партызан».

Згаданых звестак, бадай, дастаткова, каб упэўніцца, што перад намі тыповы прадстаўнік свайго часу, свайго пакалення, абуджаны і сфармаваны ў грамадзяніна ідэаламі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Такім, як Бабарэка, ці прыкладна такім шляхам ішла ад жыцця ў літаратуру большасць маладых беларускіх пісьменнікаў, якія крыху пазней згуртуюцца ў «Маладняку». Яны былі бязмежна адданыя рэвалюцыйным ідэалам і таму шчыра, з лёгкай душой паверылі, што Кастрычнік сапраўды прынёс духоўнае і палітычнае разняволенне, шчасце роднаму народу, што Беларусь пад уладай Саветаў будзе назаўжды свабоднай краінай. І яны ж, абуджаную ад доўгага сну, рэвалюцыйна абноўленую, спачатку абаранялі са зброяй у руках, а потым услаўлялі сваім часта нязграбным, пакуль што каструбаватым, але такім шчырым, узнёсла-палымяным словам...

Адам Бабарэка, як і амаль усе маладыя літаратары таго часу, пачынаў з вершаў. З такіх, як і ва ўсіх, напісаных пад уплывам «Кузніцы». У розных аўтараў творы атрымліваліся вельмі падобнымі, нібы ствараліся адным і тым жа чалавекам, а потым, як універсальным дэкламатарам, іх размяркоўвалі па ўсёй краіне канкрэтным асобам. І адзінае, што, скажам, адрознівала беларускую паэзію ад рускай гэтага кірунку,— дык гэта мова. Але ж адной мовы яшчэ недастаткова для духоўнай своеасаблівасці кожнага нацыянальнага мастацтва.

Аднак, кажучы вобразна, біў кувалдай ва ўсеагульны пралетарскі звон Адам Бабарэка нядоўга. Мабыць адчуў, а літаратурнае чуццё, як выявіцца, ён меў выдатнае, што паэзія — усё ж не яго стыхія. Ды як бы яно ні было, а фактам з'яўляецца тое, што малады аўтар у дваццацігадовым узросце пераключаецца з паэзіі на прозу, адмаўляецца ад так званага касмізму і пачынае пісаць пра сваё роднае, кроўнае, уласна перажытае.

Спадчына Бабарэкі-празаіка невялікая: пяць змешчаных у серыйнай Кніжніцы «Маладняку» апавяданняў ды ў дадатак яшчэ некалькі, надрукаваных у перыёдыцы. І ўсё ж гэты досыць сціплы па колькасці даробак, мяркую, заслугоўвае значна большай увагі, чым ён меў дасюль ад гісторыкаў нашай літаратуры.

Чытачы часопіса маюць цяпер магчымасць прачытаць два Бабарэкавы апавяданні, напісаныя, як і большасць іншых, на падставе перажытага.

У «Цёмнай ночцы» празаік малюе здарэнні з часоў белапольскай акупацыі. Гэта якраз і быў улюбёны матыў творчасці маладых празаікаў. Але тут голас Бабарэкі ўжо не губіцца сярод іншых, а досыць выразна гучыць, больш дакладна, вылучаецца ў агульным зладжаным маладнякоўскім хоры, што ўслаўляў змаганне з класавым ворагам і пеў асанну юнаму герою-змаганцу.

Вельмі няроўнай была наша літаратура ў пару яе станаўлення. Галоўнае, чаго ёй бракавала,—гэта, бадай, не толькі прафесійнай, але і элементарнай агульнай адукацыі, што не магло не адбіцца і на якасці мастацкіх твораў, і на вышыні духоўных запатрабаванняў аўтараў, іх маральна-этычных пазіцыях.

У адрозненне ад многіх сваіх аднагодкаў, што ішлі ў літаратуру ад зямлі і рабочага варштата, Адам Бабарэка, як памятаем, набыў зусім някепскую для свайго часу адукацыю. Безумоўна, у семінарскім навучанні было шмат і схаластычнага, далёкага ад жыцця, але мёртвае, як сухое лісце з дрэва, пааблятала пад павевамі рэвалюцыйных вятроў, а ў душы застаўся, не мог не застацца той запас духоўнасці, чалавечнасці, міласэрнасці, любові да бліжняга, іншых бясспрэчных маральна-этычных вартасцяў, якія прапаведавала хрысціянскае вучэнне і дэфіцыт чаго так востра адчуваўся і ў рэвалюцыю, і ў першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе, а пасля, у гады 30-я, стаўся адной з важкіх прычын нечуванай трагедыі, што абрынулася на наш народ, той трагедыі, якую мы сёння так стараемся ўцісчуць у пракруставы рамкі культу асобы, дзейнасці Сталіна і яго блізкага атачэння...

Культ непавагі да чалавека, да народных традыцый, маралі і этыкі, да духоўнага ў чалавеку, культ разбурэння, услаўлення сляпой стыхіі цёмных разбуджаных сіл, якія, пагодзімся, ёсць у кожным грамадстве, а тым больш у тым, якое несла на сабе радзімыя плямы несправядлівага ладу жыцця, адчуваўся значна раней — і ў час, і адразу пасля рэвалюцыі. Сведчаннем гэтага можа быць і адзін з найцікавых твораў маладой беларускай літаратуры таго часу — «Босыя на вогнішчы» Міхася Чарота, дзе вельмі яскрава і выразна гучыць думка-заклік «хто не наш — даві!». Падобным пафасам, які, зразумела, браў вытокі з жыцця, былі прасякнуты і многія іншыя паэтычныя і празаічныя творы.

Спачатку заклікалі «давіць» прадстаўнікоў зрынутых эксплуататарскіх класаў, а потым, калі іх не засталося, перайшлі да сваіх, падводзячы іх пад статут «класавых ворагаў». Апафеозам такой палітыкі і такой практыкі сталіся, як на вядомай карціне рускага мастака Верашчагіна, горы чарапоў, тыя адшуканыя і безыменныя Курапаты, што трагічнымі помнікамі эпохі мёртва застылі па ўсёй велізарнай тэрыторыі дзяржавы ад Мінска да Салаўкоў, Калымы і Магадана...

З улікам таго, што тады сцвярджалася ў левааванградысцкай (а да такой з поўнай на тое падставай можна аднесці і значную частку маладнякоўскай) літаратуры, давайце, шаноўныя чытачы, учытаемся ў апавяданне «Цёмнай ночкай», прасочым, як яго малады герой-змаганец, застаючыся мужным і перакананым барацьбітом за новы лад, з цяплом і пяшчотай ставіцца да сваёй маткі. Здавалася б, натуральны чалавечы рух, звычайныя чалавечыя пачуцці, але вось якраз такой натуральнасці, такой чалавечнасці і бракавала многім маладнякоўцам, у творах якіх прадстаўнікі старэйшага пакалення часта абмалёўваліся цёмнымі, несвядомымі, амаль што людзьмі другога гатунку. І таму досыць часта маладыя «станоўчыя» героі з імі не цырымоніліся, глядзелі на сваіх бацькоў звысоку, са своеасаблівай «рэвалюцыйнай» пагардай, адчуваючы сваю перавагу трымальнікаў і ўвасабляльнікаў «высокіх» ідэалагічных ісцін.

Выразная палемічная скіраванасць адчуваецца і ў стаўленні Бабарэкі ўвогуле да канкрэтнага чалавека, няхай сабе і прадстаўніка зрынутага класа, і да матэрыяльных даброт, створаных мазолістымі рукамі працоўнага люду. Галоўны герой апавядання Якім, а ў ім выразна праглядваюцца аўтабіяграфічныя рысы самога пісьменніка, настойліва намаўляе сваіх паплечнікаў-партызанаў не паліць панскага маёнтка, а заадно і яго ўладальніка.

Сёння, з вышыні перажытага і ўвасобленага літаратурай, такія матывы могуць здацца звычайнымі, без асаблівай навізны адкрыцця. Але давайце згадаем, колькі на нашай шматпакутнай, здратаванай зямлі было без усякай патрэбы і здаровага сэнсу знішчана, разбурана палацаў і храмаў, колькі бязвінных людзей (а хіба віна чалавека, што ён нарадзіўся ў заможнай сям'і) загінула ад рук жорсткіх, ачмурэлых ад крыві і свайго дрымучага невуцтва мсціўцаў, і нам стане зразумела, як і літаратуры, і ўсяму нашаму грамадству не хапала вось такой чалавечай спагады, павагі, спачування, па-сялянску гаспадарлівага стаўлення да здабытага, збудованага і створанага, да матэрыяльных і эстэтычных каштоўнасцей.

Апавяданне «Мікіта Шпэндзік», дзе створаны каларытныя вобразы вясковых людзей, апрача ўсяго іншага, напрыклад, мовы, можа, мяркую, зацікавіць сучаснага чытача і сваёй міжвольнай праекцыяй на сённяшняе, калі мы вучымся дэмакратыі, збіраемся не проста кідаць, нават не заглянуўшы ў іх, свае «галасы» ў выбарчыя ўрны, а сапраўды выбіраць найболыш вартых сваіх прадстаўнікоў у органы народаўладдзя. Але здзяйсняць гэты дэклараваны прынцып у рэальных сітуацыях будзе няпроста, значна нават складаней, чым у першыя паслярэвалюцыйныя гады, калі, здавалася, было бачна, хто свой, а хто не, хто за працоўнага чалавека, а хто толькі падладжваецца, рознымі абяцанкамі і круцельствамі імкнецца заваёўваць яго сімпатыю, яго голас...

Дык як жа склаўся лёс Адама Бабарэкі? Вядома, трагічна, бо як яшчэ магло атрымацца ў дачыненні да чалавека, які ў тым крываваым віры, што завіраваў у краіне, пачынаючы з 1929 года,— годзе вялікага пералому, захоўваў вернасць чалавечнасці, нацыянальнай культуры, свайму народу. Тады, каб ўратавацца, мала было сядзець ціха і не высоўваць галавы, а на гэта Бабарэка таксама не быў здатны, а патрабавалася, аплачваючы права на ўласнае існаванне, бэсціць, ганьбіць, узводзіць паклёпы на іншых, штурхаючы нявінных людзей ад жыцця да небыцця. Але Адам Бабарэка ў паводзінах і творчасці вёў сябе высакародна і годна. Дык няхай лёс і справа гэтага светлага душой чалавека будзе маўклівым дакорам учарашнім, сённяшнім і будучым паклёпнікам і двурушнікам, усім тым, хто сваё маральнае падзенне імкнецца спісваць на аб'ектыўныя ўмовы, на прымус, няведанне, нібыта добрыя пабуджэнні і г. д....

У Бабарэкавай творчай спадчыне, якая пакуль што не сабрана і не выдадзена (а выступаў ён пераважна як крытык, тэарэтык і эстэтык новага мастацтва), апавяданні «Цёмнай ночкай» і «Мікіта Шпэндзік» — усяго толькі маленечкія абрысы створанага, але, дакранаючыся да іх, чытач тым чынам аддае своеасаблівую пашану і схіляецца перад памяццю рознабаковага адоранага чалавека, які быў арыштаваны ў трыццацігадовым узросце, пазбаўлены магчымасці пісаць і па стандартным абвінавачванні ў нацыяналізме пакараны ў 1938 годзе, напярэдадні свайго саракагоддзя.

Сёлета, у кастрычніку, споўнілася дзевяноста гадоў з дня нараджэння гэтага светлага Сына нашай зямлі.

**Яўген ЛЕЦКА.**

# МІКІТА ШПЭНДЗІК

Адам БАБАРЭКА

АПАВЯДАННІ

— Жыцьця няма!... Проста, тхнуць нельга ад іх,— скардзіўся Мікіта Шпэндзік свайму суседу Міколе.

— Хурманка трэба, да Мікіты загад, а як сенакосу, дык Мікіту і няма. Адно ім...

— Але! Ты кажаш, табе так, а мяне хіба ня гэтак папіхаюць? Мікола мае пару коняй, Мікола багаты, усюды Мікола.

— Няўжо ж. Нехта вінен, што яны бедныя. Гультаі ўсе. Вось хоць бы Пятрусь, толькі з вудаю і сядзіць на рэчцы.

Разжурыліся два суседы. Іх гора, іх бяда была аднакая. Чаму гэта іх, Мікіту і Міколу, «сталых» гаспадароў, дзедзічаў, цяпер усюды папіхаюць? Чаму да іх няма даўнейшае павагі? Чаму Пятрусі ня йдуць больш да іх на работу, а лепш з вудаю сядзяць на рэчцы? Чаму Пятрусям і зямля і сенакос, а ім нічога акром што тыдня ехаць у хурманкі? Многа крыўды.

— А ўсё затым,— трактуе Мікіта,— што мы папусьціліся ім. У сяле старшынёю — хто? А ў воласьці — таксама. Кажуць жа, Галетнік у камуністыя запісаўся, дык вось за іх цягне, каб з яго духі выцягнула...

І Мікіта пачынаў лаяць усіх.

Гэта-ж думаць, Мікіта меў дзьве валокі зямлі, даўней парабкоў трымаў, а цяпер у яго адня́лі палавіну зямлі і аддалі бруковым. Колькі раз хадзіў у воласьць,— нічога не памагло. Вось цяпер Мікіта і скардзіўся, ды ня то «скардзіўся», а нават гуртаваў каля сябе гэтакіх, як і сам.

— Трэба сталых гаспадароў выбіраць у воласьць,— казаў Мікіта.

— А то пасадзяць абадранцаў... Яны і гаспадаркі ня ведаюць і жыцьця нашага ня знаюць.

Калі Мікіта казаў пра «сталых» гаспадароў — вядома было, якіх. Іх — трох у вёсцы. Усе маюць па дзьве ды і больш валок зямлі — шмат коняй, гаўяды, трымаюць парабкоў. Гэткага жыцьця, праўда, ня зналі тыя, каго Мікіта зваў «абадранцамі». У іх ня было на чым гэтак гаспадарыць, ды і часу ня было, каб жыць палюдзку. Заўсёды ім трэ было то адрабляць, то зарабляць. Цяпер жа «абадранцы» пачалі «станавіцца на ногі», як казалі і самі Шпэндзікі, а гэта было не пад густ апошнім. Вось яны ўсякім чынам стараліся перашкаджаць, каб «абадранцы» не зрабіліся «дзедзічамі».

Давядзецца якія зборы рабіць, ці хурманкі адбываць, зараз Мікіта крычыць: «На дзесяціны разлажыць», «з двара адбываць». Гэтак мяркуе, каб увесь цяжар клаўся на бяднейшых. Давядзецца ж дастаць чаго з воласьці або павету — і тут Мікіта ня міне. Разьмяркоўваць на душы не згаджаецца, бо яму мала. У яго тры душы.

— Хто вам вінен, што ў вас многа душ,— казаў у гэткіх выпадках Мікіта.

Тут жа ён, як казаў пра яго Мікола, «уводзіў у вушы» пра падаткі, пра хурманкі,— што ўсё дзецца горш, як бывала.

Бывала ж яму было добра. У воласьці быў яго сябар, «сталы» гаспадар. З ім Мікіта заўсёды «меркаваўся».

Прашлі часы «меркаваньня», настаді часы змаганьня. У гэтым змаганьні «абадранцы» й «сталыя» ня могуць меркавацца, бо гэта сьмерць для першых. Толькі памяркуйся, а «сталы» з цябе й жылы выцягне.

Не ўсе гэта разумелі. Мікіта карыстаўся.

— Вось бачыце, як прыдзе Апанас — кожны дзень загадвае аддаваць масла, а не — дык судом страшыць.

Дзе толькі льга было, Мікіта шпіляў і шпіляў. У яго руку казала яшчэ некалькі заможных. Відаць было, што яны ненарокам узьнялі свой голас, а прагліся ўсе справы захапіць у свае рукі, каб абцяць задоўгія рукі «абадранцаў», як казаў Мікола Мікіту.

— Штосьці Мікіта разьезьдзіўся,— прыкмячаў Пятрусь.

І Мікіта езьдзіў. То па калёсы, то да сваякоў. Не глядзіць ні на пагоду, ні на час. Едзе й едзе.

А час падыходзіў да восені. Пачалі хадзіць чуткі пра перавыбары.

— Цяпер будзей йначай,— казаў Мікіта, як прыязджаў ад сваякоў.

Усюды падгаварваў і згаварваўся. Нават у руку «абадранцаў» пачынае трапляць. Нават старшыня чагосьці з воласьці да яго колькі раз заехаў.

— Крыху лягчэй стала жыць. Выедзеш на кірмаш у мэсцечка, усё ж і дастанеш чаго хочаш, нават таней, як у коопэратыве.

Альбо:

— Зайдзі і ў мяне вазьмі каня паараць, потым памяркуемся,— раздабрэў Мікіта.

А Мікола ўжо ўсюды і ўсякаму трубіць, што Мікіта разумны чалавек, што будзе добры парадак весьці: кожны па чарзе будзе ў хурманкі ехаць, з падаткам ня будзе налягаць. Адным словам — Мікіта самы лепшы чалавек.

## II

Здарылася так, як не павінна было здарыцца. Чалавек, дамагаючыся чаго аднаго, часамі не ўважае тых сетак, якія расстаўляюцца наўкола з тых бакоў, адкуль і не чакае. Так і тут.

Прыехаў каморнік абводзіць межы разьмяркованых — быўшых панскіх — фальваркаў. Кожнаму безьзямельніку й малазямельніку хацелася пэўнасьці, хацелася ведаць, дзе яго паласа, ці хутар, які даецца яму ў бястэрміновае карыстаньне. А чакалі гэтага каморніка аж да самае вясны. Прыехаў жа ён восеньню. Вось усе і ўзяліся каля зямлі. Той у камісіі, той упаўнаважаны ад беднякоў, а той проста рабочым ходзіць за каморнікам і дапамагае разьмерваць. Думкі ўсёй бедноты былі пакіраваны ў гэты бок. К гэтаму ж яшчэ далучылася і тое, што ні з воласьці, ні з павету ў гэты час ніхто не зазірнуў у Прынёмне.

— Хутка, кажуць, перавыбары будуць. Трэба ўважна аднесьціся да іх. Штось Мікіта Шпэндзік узварушыўся,— рупіўся Пятрусь.

— Трэба сваіх падтрымаць. Каб не праскочылі часам такія, што нам калы ў калёсы будуць устаўляць,— дакладваў Пятрусь.

— Эт, неяк і бяз нас абыйдзецца. Трэ' з зямлёю закончыць,— часта чуліся адказы.

Гэта ўсё было на руку Мікітам, Міколам і да іх падобным. Яны не драмалі.

— Вось тагды, брат, сваё вернем.

— Ня будуць гэтак нас драць.

— Мы пакажам ім смак,— гэтак казаў Мікіта Міколу, апавядаючы, што ўжо ўсе вёскі воласьці аб'ехаў і ўсюды пападгаворваў сваіх.

Выходзячы ж да сялян, ён зусім інакшым тонам да іх гаварыў.

— Думаеце, мне шкода, што зямлі ў мяне аднялі? Зусім не. З мяне хваціць. Няхай робяць. Але адно — трэба, каб быў парадак.

На парадак больш як на што налягаў Мікіта. Кажучы пра яго, трэба было ведаць, аб якім парадку йшла гутарка. Яго твар зіяў, як хто успамінаў са стараны, што даўней і заработкі былі, і грошы пра чорны дзень, адным словам, калі казалася пра «гожасьці» струхлеўшага часу.

— Ці ж бы я гэтак зрабіў з сенакосам? Аднаму па горла, будзе вось вясною прадаваць, а другому і нічога не далі. Калі даваць, дык усім — на каровы.

— Гэтак, гэтак!

— Прадаваць, кажаш, Мікіта,— чулася некалькі галасоў,— так... але так...

Гэта дапамагала Мікіту вяршыць.

— Чаго вы прыціхлі, чаго маўчыце, чаму даяце волю ім,— прасьцерагаў Пятрусь, але гэта прасьцярога ня мела належнага водгуку.

Толькі нарэшце схамянуліся, як Мікіта ўжо загадваў сабе хурманку, каб ехаць у воласьць.

— Другое ўлады нам ня трэба. Гэта — наша матка. А прыежджым мы ня вельмі дамо разгульваць,— з нейкай асанасьцю гаварыў ужо Мікіта.

Ён на перавыбарах увесь час гаварыў у руку воласьці, «бо гэтак жа трэ было», «інячай нельга», казаў ён потым Міколу за чаркаю самагонкі.

— Хэ, прыпёрся гэта ка мне Пятрусь, а я яму зразу — заплаці за заяву, а сам можаш за дзьверы.

— Так іх, так. Хай знаюць,— хваліў Мікола Мікіту.

Праўду казаў Мікіта раней. Парадак пашоў зусім іншы. Перш за ўсё Мікіта, як член валаснога комітэту, адабраў сваю зямлю і — аддаў у арэнду.

— Я служу, я маю права,— гэтак было ў Мікіты. Налёг Мікіта на парадак, што называецца.

— Аж тхнуць нельга,— ужо жаляцца бяднейшыя. А заможныя рады: «Мікіта — маладзец, усё зробіць».

Робіць, праўда, што робіць. Няма чаго сказаць! Сваёю няцікаўнасьцю, сваёй бязуважнасьцю наклікалі бяду бедняки на сябе.

Пачалі распаўсюджвацца ўсякія чуткі, усё роўна, як гадзюкі вылазячы з-пад карчоў з сваім гідкім сыканьнем, з сваімі падвойнымі языкамі. І нельга ніяк дазнацца праўды. Нельга ніяк праканацца, бо што ж, калі гэтак і ў воласьці казалі. Газэт жа нідзе й почуту ня было, калі ня лічыць паху ад цыгарак, якія дыміліся ў губах задраўшага галаву Міколы й яшчэ некалькіх «сталых».

Ды ўсё так рабілася, што Мікіта быў ня Мікіта.

— Што ж я? Я б усё зрабіў, але мне кажуць, дык мушу слухаць,— гэтак апраўдваў сябе Мікіта, калі хто-небудзь зьвяртаўся з якой-колечы просьбаю.

Але ня ўсім быў гэтакі адказ. Часта чулася ад Мікіты інакшае.

— А я знаю, гэта ты.

— Добра ўсё будзе зроблена.

Гэта было тады, калі Мікіту казала жонка:

— Прыходзіў Алесь, пуд мукі прынёс.

Мікіта ўжо ведаў, у чым справа. Але ляпей ён уважаў самагон.

— Гэта ажыўляе чалавека. З гэтым усё льга зрабіць,— казаў Мікіта таму, хто з гэткім прашэньнем зьвяртаўся да яго.

Дзівіліся толькі Пятрусі, чаму гэта сын Міколы ня ў войску, а дома; чаму гэта Трахім косіць дзве дзесяціны атавы, калі ў яго й свае прапасьць; чаму гэта ў воласьці больш бяруць за запісы ўсякія ды заявы, як у другіх валасьцёх. І шмат гэтакіх «чаму», як зданьні мінуўшчыны жудаснай, брадзілі між тых, што ў Мікіты былі «абадранцамі».

— Я казаў, ня слухалі мяне,— папракаў часта Пятрусь, як чуў гэтыя «чаму», а нарэшце дадаваў:

— Папраўляйма памылкі.

— Трэба папраўляць, чаго б гэта ні каштавала.

— Шкода толькі часу, што даводзіцца траціць на гэта, але трэба,— чуліся гэткія гутаркі ўсё мацней і мацней.

Забросьнена воласьць і чакала часу, каб змыць з сябе смурод.

— Узялі бо звах,— дапікаў часта Пятрусь,— няхай паслужыць, няхай пазнае гэтага смаку. Вось вам і смак.

— Нічога: пасолім, будзе смачней,— жартаваў другі.

Быў вечар. На дварэ цямнютка й ціхутка. Нішто нідзе, здаецца, і ня шасьне. У хаце ж Мікіты было якраз наадварот. Гарэла вялікая лямпа: сьвету хоць адбаўляй. Толькі шыбы вакон чорным сваім блескам нібы ўсьміхаліся з кампаніі, дзякуючы якой ня было ціха. Тут былі, бадай, усе сябры Мікіты і рабілі «важную справу». На стале чаго ня было, а важней усяго выглядала вялікая пляшка з нечым мутным у сярэдзіне.

Спраўляўся баль.

— Трэба аддзячыць. Я ня люблю так,— ледзьве выгаворваў Мікола.

— Эт, глупства, чаму не аслабаніць, калі льга,— з відам важнага чалавека гаварыў Мікіта.

Мікола быў звольнены ад платы падатку, як сям'я чырвонаармейца. Зроблена было шытакрыта. І козы сыты й сена цэла, здавалася ім.

Але раптам гэты баль быў стрывожаны. Вясельле кончылася не вясельлем.

Запыхаўшыся ўбег у хату стораж з воласьці і, як абухам, крануў галаву Мікіты, у якой усё ужо блыталася й блыталася.

— Нехта з павету прыехаў. Казаў, каб зараз жа вы прышлі туды.

— Гэ, якога там чорта прыгнала,— гукнуў Мікіта. Але рука ўжо мацала на сьцяне, мусіць, шапкі ці чаго іншага.

— Мала ім дня. Ноччу трывожаць.— Вышаў Мікіта з хаты.

Праз колькі дзён дзівіўся Мікола, чаго Мікіта засядзеўся ў павеце й ня едзе дамоў.

1922 г.

# ЦЁМНАЮ НОЧКАЙ

I

Атуліла хатку-порхаўку чорная цёмная ночка. Вось зараз, во-то-то, здаецца, расплюшчыцьпраглыне. А хата стаіць раскалмачаная. Звычайна пазірае сплюснутымі цёмна-бліскучымі вочкамі-вaконцамі, а куды й не разабраць. Толькі нешта ў іх паблісквае. Мітусіцца агоньчык. Нібы дурэе па лучыны, устаўленай у «дзеда».

У сярэдзіне хаткі нешта краталася-варушылася.

У надворнай-жа цемені плыла ціш, а па ёй хваляваўся бліскучы ручаёк-істужка вочак хаткі.

За хаткай перарыўна шапацела кучка хлапцоў. Ніто кагось наджыдалі, ніто пільнавалі-вартавалі порхаўку-хатку. Часамі па сьценах прабягаў зацісла жарцік-сьмех, але ўраз-жа абрываўся й хаваўся пад стрэху.

— Хутчэй бы ён выходзіў.

— І хутчэй бы пагрэцца ля вялікага кастравогнішча.

— Мудрэй, як па начлезе запалае.

— Ня трэба будзе сьцягваць і ламачча.

— Ды будзе чаму пылаць. Многа дроў там зложана. А яшчэ як прамочым газаю чырвоно!..

— А яго?.. Што з ім будзем рабіць?

— Што рабіць... Сасмажым на ражэнчыку. Смачная скварка будзе...

— А хто ж есьці будзе?

— Не бядуй: зямелька даўно прагаладалася.

Такі шорах чуўся за хаткай і раз-по-раз пошчакам па сьценах выбягаў зірнуць на вуліцу й абрываўся ў чорную ціш ночы.

А ў хатцы?

У хатцы ля лучынкі стаяў сын, а ўзапечку сядзела матка.

— І што ты сабе думаеш, у якую ты шкуру пусьціўся? Вой, вой! Што б гэта сказаў табе бацька? Думаеш, пагладзіў бы, пахваліў? Дому свайго цураешся. Маткі сваёй ня хочаш пашкадаваць на старасьць. Каб цябе, мой сыночак...

— Мама,— абарваў сын,— годзі ўжо мне ўпікаць. Досыць я чуў тваіх праклёнаў, але з дарогі, па якой я пайшоў, ня сыйду ўжо...

Падышоў да стала, адкрыў настольнік і адрэзаў скібку чорствага хлеба.

— Бач, як голас ужо ўзьнімаеш! Ня можна ўжо й слова табе сказаць. Што ж, хіба я табе ня матка?

Прытуліла хвартух да вачэй, і сама сабе ціха ўсхліпвала-прычытвала:

— Пакараў мяне бог. Колькі вас мела, мае вы дзетачкі, усе мяне пакінулі. Адзін ты астаўся... Хай бы ён лепш маленькі задушыўся... Сэрца маё разрываецца, а ён назнарок... Назнарок нарэзвае нарэзанае й без таго... Ці я цябе, мой сынок, ня любіла, ці я цябе, мой сынок, не даглядала... Колькі ночак над табою прастаяла. Думала прычакаць пацехі на старасьць... А ён...

Мацней прытуліла хвартух да вачэй.

А сын шмаргануў настольнік, і ўзрок яго супыніўся на лучынцы. Ня сьлёзы на вочы набягалі. Даўно ўжо высушыў ён іх. Іскры-воблеск ад патрэскваючай сіняй лучынкі мігаліся ў іх.

— Эх, гэтыя сьлёзы! Ці ж ня вы мяне штурханулі на няведаную мне дагэтуль дарогу? Вы — жала пчалінае,— нібы пра сябе шапталіся вусны.

— Я вырваць яго хачу,— прагучэла ад грудзей сына.

Схамянуўся, падышоў да маткі.

Адарваў хвартух ад вачэй і прысланіўся да матчынага твару.

— Пакінь, мамка, плакаць, на мяне наракаць і праклінаць. Досыць сьлёз пралілося і бяз гэтага... Няўжо ты думаеш, што мне ня шкода цябе, тваёй старасьці, тваіх сівых валасоў? Няўжо ты думаеш, што я твой непрыяцель, непрыяцель свайго дому? Няўжо ты думаеш, што ў мяне ня сэрца ў грудзёх? Мама, як ты плачаш,— шчыміць, ой, моцна шчыміць і маё сэрца. Але ж ня плакаць мне хочацца, а хочацца зьнішчыць твае сьлёзы-гора. А яно вялікае. І ня толькі над нашаю хаткай вісіць. Яно ва ўсіх шэранькіх, кудлатых, расьцярушаных... Душыць, гняце й упіваецца сьлязьмі матак, бацькоў, дзядоў, бабуль, сыноў-братоў і дочак-сёстраў. І гэтае гора, мамка, ад людзей, ад людзей, што многа маюць, самі не працуюць, а нас наймаюць.

Ты сама падумай. Ну, сядзеў бы я дома... Няўжо нас гора-бяда пакінула б? Няўжо з свайго агародчыку ды чужых недаедкаў шчасьце б у нас завітала? Няўжо ты па сабе ня ведаеш, што за цэлы век ня было ў цябе прасьветлай часіны?

Ты часта ўспамінаеш сваіх пакойных дачок. «Чаму ўсе яны паўміралі? Хай бы хоць адна была жыва, мо'і мне лягчэй было б на старасьці веку дажываць»,— часта кажаш ты. А як табе здаецца, чаму яны ня жывы? Ты ж іх даглядала, але... часта ў двор зарабляць трэба было хадзіць. І чаму гэта яны — паны такую гібель маюць, а мы... Мама, і мы людзі. Ці мы-б ня ўмелі палюдзку пажыць? Ці ня сумелі б мы весяліцца і радавацца на жыцьцё з нашаю любасьцю да працы, да зямелькі? Бацька наш век біўся, біўся і нарэшце змогся. Ня лічылі і вы самі, мусіць, сябе за людзей, калі мяне хацелі вывясьці ў людзі. Няўжо думаеш, я ня ведаю, колькі табе каштавала недаяданьняў, недасыпаньняў, непасільнае працы гэтае «ў людзі». Мамка, я знаю. Я вышаў у людзі, толькі адно шчыміць у мяне жаданьне, каб і ты, і суседзі нашы, гэтакія, як і мы, таксама вышлі ў людзі. Ды вось чаму, мамка, ня пілнуюся дому. Вось чаму, як ты кажаш, у сабачую шкуру пусьціўся. Паноў, мамка, трэба зьнішчыць, зямельку ад іх адабраць. Атрахнуцца ад дзядоўскіх сьлядоў. Страсянуць дзядоўскую веру трэба, мамка. На месца долі сьлязьлівай свой лёс трэба з розумам заручыць...

— Стук, стук, стук,— забарабаніла штось у мыцельнае вакно.

— Нехта быццам стукае. Глянь у вакно. Ды запалі другую лучыну, а то, бачыш, скора стухне,— нібы прабудзілася матка.

Прабудзіўся, апамятаўся і сын.

— Гэта ж я забыўся: мяне чакаюць там хлопцы. Я забег узяць хлеба. Яны ад раньня шчэ і крошкі ў роце ня мелі.

— Хто ж яны? Няхай бы ў хату зашлі,— адазвалася матчына сэрца матчыным голасам.

— Гэта хлопцы, што хаваюцца ад жандараў. У хаце небясьпечна. Дык я пайду. Ці ёсьць, мама, хлеб у нас.

— Ды вось толькі на стале.

— Ну, то хай, мы дастанем у Язэпа.

— То бяры, а я і так, з бульбаю перабуду,— гаварыла матчына сэрца.

І сын пасьпешна з кавалачкам хлеба вышаў з хаткі.

— Мамка, толькі ня плач і не праклінай мяне. Я вярнуся з новымі весткамі.

Апошнія словы.

І праглынула яго ціш і цемень задзвернае ночы.

А матка папраўіла лучыну і села за прасьніцу.

Сон ад яе адышоў. Ня плюшчыліся вочы. Думкі не давалі супакою і пад журчаньне вераценца кружыліся-снаваліся, як тая нітачка ад кудзелі.

«Пашоў, а куды? — і ня спытала. Ходзіць недзе і ходзіць. Дадому калі-ні-калі толькі паказваецца. Што гэта з усяго будзе? Шторaз ён мяне пацяшае сваімі размовамі, а што будзе, хто ведае. Нек ня зносіць мой розум яго гутарак. Але ж і шкода нек і злосьць часамі на яго. Навошта я яго сёньня ўпікнула. Хай робіць, што хоча, можа ён і лепш ведае. Ня буду больш нічога яму казаць. Але ж, і Гануля казала, што і яе вось гэтакі, як мой»...

Прамігнуліся прад ёю вобразы хлопцаў, тых, што цяпер хаваліся ад жандараў. Перадумалася ўсё, што хто калі казаў пра яе сына, як адны лаюць ды гавораць, што праз яго ласку ўсе беды на сяло.

— Каб калі ён у мае рукі папаўся, годзі б было яму тут людзей чмуціць.

Успомнілася, як адзін раз прад людзьмі крычаў Нічыпар; успомнілася, як заступаўся за яе сына Сымон і, міжвольна ў думках яна пакляла Нічыпара і сьветлаю думкаю апавіла Сымона.

І так з думкамі пасуквала і пасуквала кудзельку. Вераценца журчэла і ценьню доўгаю прабягала па доле.

Лучынка за лучынкаю згарала. На зямлі ўжо шмат нападала вугалёў. А матка не лажылася. Ужо і пеўні другія прапелі, а яе сон не бярэ.

Сын... адзін ён у яе на вуме.

І хвілінамі ёй страшна рабілася. Клала яна верацяно, і вочы яе ўзьнімаліся па покуць. А адтуль ласкава на яе пазіраў лік маткі з сынам на руках. Ёй хацелася і плакаць і маліцца... І вусны міжвольна шапталі: «багародзіца»...

Потым жадалася разагнаць усе думкі, і яна ўтульвала твар свой у хвартух, а сьлёзы — матчыны сьлёзы — каціліся на яго. То зноў яна бралася за верацяно і напявала сабе нудную песьню, хоць хвілінамі і жадалася вясёлай.

А за хаткай была ноч.

II

Здавалася, усюды было ціха. Але гэта толькі здавалася.

Лясны гушчар ня любіць цішы. І там, дзе калісь гулі й балі спраўляла ўсякая нечысьць, дзе лясун адчыняў свае харомы на ігрышча-гульбішча для лясных начных няхароў, там гудзела грамада дня. Яна, загнаная сюды ласкаю ўладароў дня, тут вяла бойкую нараду аб тым, каб зноў вярнуцца ка дню, каб бачыць прывятлівае сонейка, пад ласкі якога аздабляць-успрыгажаць палеткі свае — шырокія прасторы.

Тут былі ўсе, хто волі ўжо паспытаў. Тут быў і Якім, і Рыгор, і Зьмітрок, і Антось... Шмат іх было тут. Усе яны прагліся як найхутчэй пазбыць ненавісны ім налёт белапольскіх груганоў, якіх яны сабе выяўлялі, у першую чаргу, у васобе тутэйшага пана, што вярнуўся ў сваё гняздо і тхнуць не даваў сялянам. Пра яго гэта шапацела грамадка каля хаты Іваніхі. Пра яго і яго гняздо бурлілі і тут.

— Ды хадзем, і так шмат часу прабавілі дарэмна.

— Хадзем і спапелім усё.

— Хай памятае драбіны.

— Хай памятае атаву й каровы.

— Засьвіргочуць хай у вушшу яму бізуны, што спаласавалі маю сьпіну.

Кожны гарэў адным гневам, адной помстай. Усім жадалася зьнішчыць да тла панскую сялібу.

— Дык годзі, хлопцы, чухацца. А той й да дня таго прасядзімо і нічога ня зробім.

— Якім, што гэта ты некі задумны?

— Мо' раздумаў ужо. А памятаеш, што казаў, як толькі мы зьбіраліся яшчэ. Казаў: «сам уласнай рукой падпалю».

— А гэта, як забег дамоў, штось задуманы стаўся.

А й шмат перавярнулася ў Якіма.

Ён рэдка быў дома. То ў горадзе, то ў валасьці, а цяпер пры палякох таксама дома ня бывае. Але сёньня матчын папрок (хоць іх ён і часта чуў, як бываў дома)... а ўрэшце апошнія словы: «дык бяры, а я й так перабуду» у яго штось перавярнулі. Ён, ідучы да лесу, усё перадумаў, што казаў матцы, а матка яму. Але ў словах маткі ён не знайшоў нараканьня на паноў, а толькі на самога сябе. У той жа час адчуў, як ніколі, матчына каханьне да ўсіх такіх, як і сам. І вось у яго мігнулася думка старасьць маткі зрабіць радаснаю. Але ж чым і як? Тут яму набегла на вум, што чуў ён у павеце ад сяброў, як хадзіў да іх за парадаю, што хутка бальшавікі прыйдуць. А калі так, то наша будзе й гняздо, якое сёньня надумаліся спапяліць,— думалася Якіму.— І гэта гняздо льга будзе перарабіць на што іншае. Хоць гэта іншае і не выяўлялася яму вачавіста. Але думалася, што з ім ён магчыме адплаціць і сваёй матцы і ўсім маткам. І вось адпала ахвота ў яго паліць.

— Браткі, што карысьці будзе нам, як мы спалім.

— Глядзі пра што загаварыў? А тое, што ня будзе яму больш дзе прыстаць.

— Дык і самога ж разам з дваром.

— Паслухайце, браткі, мяне. Хутка прыдуць бальшавікі, і двор будзе наш. Дык нашто ж нам нішчыць сваё дабро.

— На чорта ён нам. Нам зямля трэба.

— Усё роўна нам ня жыць у іхніх палацах.

— Ня ўмеем мы ў гэткіх пакоях.

— Няхай лепш дымам пойдуць.

— Ня будзем жыць мы, дык нашы ж змогуць у іх жыць. Унь колькі ў нашай вёсцы хат адно-адно ліпіцъ. Дзьмухані мацней вецер і — рассыплюцца. А калі й ня жыць, няўжо яны нам ня згодзяцца?

— Дык што ж патвойму, заставіць яго?

— Мо скажаш заставіць пана?

— Не, не, браткі. З панам я, я сам спраўлюся. Хочаце, яго жывога сюды прывалаку. Я знаю ўсе выхады там і ўходы.

— Э, выхваляйся, чулі мы ўжо ад цябе й раней.

— Ну, вось будзеце бачыць, калі праз паўгадзіны пан ня будзе тут. Толькі хто са мною: яшчэ са двух. А тагды — пасьля расправы з панам на другую ноч на жандараў у валасьці зрабіць напад.

— Эт, хлопцы, ня слухайце яго. Хадзем.

— Чакай, калі і паліць, то чаго ж усёй грамадзе йсьці. Але калі ўжо так, то хай Якім з Рыгорам і Зьмітрам ідуць, а заўтра папробуем на валасьць.

— Дык хадзем, браткі, Рыгор і Зьмітрок.

— Хадзем.

Тры асобы зьніклі ў гушчы лясной. Толькі патрэсквала сучча пад нагамі. Праз колькі хвілін і трэск ня быў чуцён.

— Ну, што ж цяпер... Лажэмся-чакайма.

— А добра будзе пану так гэта пстрычак надаваць.

— Ну, я, брат, і куксаля не пашкадую.

І кожны ўжо меркаваў, як будзе помставаць, спаганяць злосьць на пану. А некаторыя ня верылі, што Якім прыцягне пана.

— Вось на валасьць. Во там, бадай, будзе цяжэй, як з панам.

— Заўтра я схаджу, ды так гэта крыху там разьнюхаю.

— А ў мяне там добра знаёмы пісец, вось хіба да яго даведацца.

Грамада гула ў цемры лясной. І, здавалася, не прашло й паўгадзіны, як непадалёку пачуўся знаёмы сьвіст Якіма. Грамада адазвалася і праз колькі хвілін распраўлялася з панам.

А праз дзень па вёсках пранеслася трывожнарадасная чутка, што хтось перабіў у валасьці ўсіх жандараў і чуць самой валасьці не спалілі, каб людзі не ўратавалі.

1922 г.




● Што прамінула — не вернеш...
Плакат. Папера. Гуаш.



● Рэспіратар зберажэ лёгкія.
Папера. Тэмпера.

# НА ШЛЯХУ ПОШУКАЎ

Творчасць маладых — гэта заўсёды пошук, новыя ідэі, новыя накірункі і, як абавязковая ўмова, эксперымент. Аднак кожны, нават самы смелы эксперымент, набывае творчую каштоўнасць толькі ў тым выпадку, калі грунтуецца на прафесіяналізме, агульнай мастацкай культуры аўтара. Цікавыя і прывабныя ў гэтых адносінах творы аднаго з прадстаўнікоў маладога пакалення беларускіх мастакоў Канстанціна Вашчанкі.

Мастак вырас у сям'і, дзе з дзяцінства перад ім быў разгорнуты складаны і невычэрпны ў сваёй разнастайнасці свет мастацтва.

Гэта акалічнасць, ды яшчэ, бадай, генетычна закладзеная здольнасць да мастацкага бачання свету, магчыма, і вызначылі скіраванасць яго прафесійных інтарэсаў. Прыкметнай з'явай у невялікай пакуль што творчай біяграфіі маладога мастака стала дыпломная праца — серыя плакатаў, прысвечаных беларускай нацыянальнай культуры, падрыхтаваная на аддзяленні графікі БДТМІ. Праўда, да мастацтва плаката ён звярнуўся значна раней, яшчэ на другім — трэцім курсах інстытута («Рэспіратар зберажэ лёгкія», «Адходы» і іншыя аркушы, сярод



● Дзея ў часе.
Літаграфія.



● Малюнак. Папера. Гуаш.




● Погляд на свет. Плакат. Папера. Гуаш.

## Наш вернісаж

якіх былі і эксперыментальныя).

У час заканчэння інстытута ў творчым актыве мастака быў ужо, напрыклад, удзел у міжнародным конкурсе плаката «Асвенцім перасцерагае» (1985), удзел у рэспубліканскай выстаўцы плаката «Мір — надзея планеты» (1985). Аднак менавіта ў працэсе працы над дыпломам крышталізуецца яго ўласнае разуменне творчых задач, праблем каларыту, кампазіцыі і г. д. Менавіта тут выразна праявілася імкненне аўтара выйсці за межы жанру, за рамкі звычайнага разумення плакатнасці. Адмовіўшыся ад прамалінейнасці, традыцыйных кантрастных прыёмаў і звыклай завостранасці парадоксаў, ён грунтуе вобраз на нюансах індывідуальнай інтанацыі. Тонкасць колеравай прапрацоўкі, культура лініі, агульная вытанчанасць выяўленчых рашэнняў — гэтыя асаблівасці, характэрныя для такіх, напрыклад, работ, як «Харраство, створанае народам» або «Гукі народнага меласу», і іншых, з'яўляюцца, бадай, грунтоўнымі ў творчасці маладога мастака. Прыгадаем яго рэкламны плакат «Мінск запрашае», дзе пры дапамозе выяўленчага параўнання аўтар перадае асаблівасці архітэктурнага аблічча гістарычнага кутка горада. Паказальна ў гэтым аркушы наступнае — простая па сутнасці ідэя ўзбагачаецца за кошт графічнага выканання, культуры і вытанчанасці малюнка, што ўносіць дадатковыя адценні ў фарміраванне вобраза. Дарэчы кажучы, такі падыход адкрывае адзін з перспектыўных накірункаў у рабоце над плакатам.

Прыкметнай рысай сучаснага плаката з'яўляецца значнае пашырэнне палітры пачуццяў, якая ўвасабляецца ў ім. Уласціва гэта і творам Канстанціна Вашчанкі. Так, напрыклад, мы бачым з'едлівую іронію ў плакаце «Погляд на свет», сарказм у аркушы «Міс Амерыка», шкадаванне па страчаных культурных каштоўнасцях у творы «Што прамінула — не вернеш» і інш. Зразумела, не ўсе работы маладога аўтара аднолькава ўдалыя, многія, і на яго ўласную думку, яшчэ далёкія ад завершанасці. Але агульная скіраванасць творчага пошуку на шырокі спектр асацыяцый, на тэматычную і інтанацыйную разнастайнасць даюць падставу для сур'ёзнай увагі да яго творчасці.

Угледзеўшыся ўважлівей у плакаты Канстанціна, мы пачынаем адчуваць у іх вобразным ладзе рысы станкавізму. І гэта далёка не выпадкова, бо ён шмат і ўпарта працуе ў галіне станковай графікі. Тут мастак дае поўную свабоду ўяўленню і фантазіі. Яго кампазіцыі ўспрымаюцца як своеасаблівыя графічныя імправізацыі, дзе аснова выразнасці — гульня ліній і плоскасцей. Часам гэта зусім абстрактныя кампазіцыі (своеасаблівыя эксперыменты ў галіне дэкаратыўнага формаўтварэння), спантаннасць якіх адчуваецца асабліва востра. Выдатны савецкі графік і тэарэтык мастацтва У. А. Фаворскі прызнаваў вялікае значэнне ў творчым працэсе кампазіцый такога роду. Імкненне да самавыяўлення — вось, бадай, галоўная асаблівасць, якая вылучае графічныя аркушы Канстанціна Вашчанкі. Аддаючы перавагу ўскладненым выяўленчым формам, ён дасягае арганічных суадносін чорнага і белага, ператварае фон у актыўны элемент мастацкага ўздзеяння. Мастак тонка адчувае прыгажосць лініі і імкнецца перадаць уласцівае ёй самакаштоўнае выяўленне. Лінія ў яго творах то выступае рэзка і выразна, то знікае ў калейдаскопе фарбаў.

Аналіз творчасці таго ці іншага аўтара патрабуе значнай увагі да спецыфічна выяўленчых сродкаў у яго творах, спосабу і ўзроўню іх ужывання. Што датычыць работ Канстанціна Вашчанкі, тут варта адзначыць, што арганічна ўласцівае яму разуменне асноў графікі ў спалучэнні з мастацкай інтуіцыяй і добрым густам — усё гэта, такое неабходнае кожнаму мастаку, адкрывае яму шлях да майстэрства, да сур'ёзнага дыялога з гледачом.

**Алена АТРАХОВІЧ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

# АРКАДЗЬ І ЗІНАІДА

У самым цэнтры Віцебска, непадалёк ад краязнаўчага музея, больш як трыццаць гадоў жыве Зінаіда Антонаўна Бачарова. Хутчэй за ўсё імя гэта вам невядома. Год назад, накіроўваючыся да яе ў Віцебск, я таксама ведала толькі адно — гэта родная сястра мастака Аркадзя Астаповіча, адзіны цяпер чалавек, які можа расказаць пра яго маладосць. «Бабуля — цудоўны чалавек, сама ў мінулым мастачка»,— гаварыла, праводзячы мяне ў дарогу, Лена Смірнова, мая сяброўка, унучка Зінаіды Антонаўны. Яркія нацюрморты, цудоўныя партрэты алоўкам, якія з любоўю захоўваюцца ў яе дома, пацвярджалі, што мяне чакае сустрэча з чалавекам незвычайным. І ўсё ж «бабуля» пакуль заставалася для мяне толькі сястрой Аркадзя Астаповіча, цудоўнага беларускага графіка 20—30 гадоў.

Зінаіда Антонаўна сустрэла мяне гасцінна. Запісваючы на магнітафонную стужку яе ўспаміны пра брата, я не магла адарваць вачэй ад жывапіснага партрэта прыгожай маладой жанчыны з даверлівым і дапытлівым позіркам, які стаяў перада мной на стале. Як высветлілася, гэта быў аўтапартрэт маёй субяседніцы, зроблены недзе ў дваццатых гадах. Цікаўнасць мая расла, і я папрасіла паказаць яшчэ некалькі работ. Сарамліва ўсміхнуўшыся, нібыта просячы ў мяне прабачэння, Зінаіда Антонаўна чамусьці падышла да старамоднай скураной канапы. За яе спінкай я і ўбачыла мноства работ — яны захоўваліся там гадамі.

Амаль дзве гадзіны, забыўшыся пра ўсё на свеце, я разглядала раскладзеныя на падлозе лісты. Перада мной прайшло доўгае чалавечае жыццё, усасобленае ў творчасці: ад пераймальных малюнкаў семнаццацігадовай дзяўчыны да апошніх замалёвак з акна старога чалавека, які рэдка выходзіць на вуліцу.

Не заставалася ніякага сумнення — перада мной быў Мастак.

Праз некаторы час у выніку плённай пошукавай работы мастацтвазнаўцаў у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрылася сумесная выстаўка Аркадзя і Зінаіды Астаповічаў. У такіх выпадках прынята пісаць крытычны артыкул з аналізам твораў і ацэнкай дзейнасці, якая вызначае месца мастака ў агульным страі. Такі артыкул, напэўна, з'явіцца. Мне ж хочацца напісаць пра іншае — пра лёс гэтых дваіх незвычайных людзей. Не, іх біяграфіі нічым асабліва не вылучаюцца. Іх лёсы не адрозніваліся б ад лёсаў тысяч іншых людзей, калі б не было ў іх «двайнога дна», яшчэ аднаго жыцця — жыцця ў мастацтве. У гэтым жыцці мне бачыцца прыхаваная драма. Праз нягоды і радасці, якія шчодра выпалі на іх долю, пачынаю лепш разумець лёс адышоўшага пакалення мастакоў. Зінаіда Астаповіч-Бачарова, магчыма, «апошняя з магікан»: ёй пайшоў 91 год.

Яны нарадзіліся ў Мінску ў канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Два гады розніцы ва ўзросце зрабілі іх сябрамі з маленства. Маляваць пачалі рана, прайшоўшы тыповы для многіх мастакоў шлях — ад капіравання часопісных рэпрадукцый да малюнкаў з натуры. Мастацкім схільнасцям дзяцей нямала садзейнічала і сямейнае выхаванне. Бацька, настаўнік, пазней інспектар школьных вучылішчаў, вельмі любіў спевы, цудоўна спяваў сам і нават кіраваў хорам. Маці таксама была жанчынай адоранай — чацвёра дзяцей не перашкаджалі яе захапленню тэатрам, літаратурай. У 1905 годзе сям'я пераехала ў Гродна. З гэтым горадам звязаны дзіцячыя ўспаміны брата і сястры. Цудам захаваліся альбомы Аркадзя-гімназіста з даволі ўпэўненымі малюнкамі старых гродзенскіх касцёлаў, брукаваных вулачак. Тут Аркадзь бліскуча, з залатым медалём скончыў гімназію. Тут сям'ю напаткала і першае гора: у 1914 годзе памёр бацька. Застаўшыся без падтрымкі, маці прымае рашэнне пераехаць да сваякоў у Пецярбург.

Зінаіда скончыла гімназію ўжо ў Пецярбургу ў 1915 годзе. Усё складвалася даволі ўдала. Аркадзь паступіў у Політэхнічны інстытут на караблебудаўнічае аддзяленне, удваіх яны пачалі наведваць класы малявання школы Таварыства заахвочвання мастакоў, якой кіраваў М. Рэрых. Пазней перайшлі на графічнае аддзяленне пад кіраўніцтвам І. Білібіна.

Мастацкае жыццё тагачаснага Пецярбурга было надзвычай насычанае, і ўсё ж выстаўкі аб'яднання «Свет мастацтва» вабілі маладых людзей асабліва. Абодвух адразу зачаравалі традыцыі мастакоў гэтай групы ў графіцы. «Свет мастацтва» прадвызначыў іх раннюю манеру на некалькі гадоў наперад. Гэта яму і яшчэ, вядома, Білібіну яны абавязаны пачуццём стылю, ліній, густам, любоўю да вытанчанага сілуэта.

«Светлы» перыяд, аднак, працягваўся нядоўга. У 1916 годзе Аркадзя прызываюць у армію. Скончыўшы паскораныя сапёрныя курсы, ён накіроўваецца на фронт. Зінаіда пасля школы ўладкоўваецца настаўніцай малявання на Абухаўскі завод. Зноў сустрэліся яны толькі праз сем гадоў у вёсцы Навасёлкі Мінскай губерні, на радзіме бацькі, дзе знайшла прытулак з малодшымі дзецьмі маці і куды з «галоднага і халоднага» Петраграда ў 1919 годзе пераехала і Зінаіда.

Навасёлкі адыгралі асаблівую ролю ў іх жыцці. Зінаіда прапрацавала тут у школе 3 гады, Аркадзь — 6. Тут яны ўпершыню адчулі сваю роднасць з беларускай зямлёй, у іх работах з'явіліся беларускія матывы. Асабліва плённа тут працавалася Аркадзю. Вымушаная ізаляцыя, насуперак усталяванаму меркаванню, дабратворна паўплывала на яго творчасць: дапамагла пазбавіцца ўплыву прадстаўнікоў «Свету мастацтва» і выпрацаваць уласную манеру. У Навасёлках Аркадзь упершыню адчуў сябе пейзажыстам: яго голас быў нягучны, але мяккі і сардэчны. Лірычны пейзаж цалкам адпавядаў тонкай натуры Астаповіча, яго схільнасці да «лёгкай журботы», захапленню паэзіяй. Большую частку свайго часу ён аддаваў графічным работам, адточваючы сваё майстэрства ў лінагравюры. Узіраю-



● З. Бачарова-Астаповіч. Лясная дарога.

● З. Бачарова-Астаповіч. Апошні прамень.

● З. Бачарова-Астаповіч. Аўтапартрэт.

чыся ў некаторыя з іх, міжволі прыгадваеш японскіх майстроў, іх лірыку. Тая ж лаканічнасць, той жа выбар дэталей — «паэзія з нічога».

Брат і сястра ішлі рознымі шляхамі. Зінаіда неўзабаве зноў пераехала ў Ленінград, працягвала навучанне ў Мастацкапрамысловым тэхнікуме, створаным на базе былой школы Таварыства заахвочвання мастакоў. З ціхіх Навасёлак яна зноў трапіла ў атмасферу бурлівага мастацкага жыцця.

Яе шчодрую натуру вабіла ўсё — партрэт, якім яна займаецца ўсур'ёз, агітацыйны плакат, кніжная ілюстрацыя. Адносіны слуцкіх паясоў і рэлігійных кніг часоў езуіта Скарыны» — гэта яшчэ самыя мяккія з аргументаў. Больш злавеснымі былі абвінавачванні ў фармалізме і буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіі, у імкненні «заглушыць творчую дзейнасць савецкіх мастацкіх кадраў, якія адкрыта арыентуюцца на пралетарскую Маскву».

Нормай і эталонам мастацтва стала «чарговая злоба чарговага дня». Стыль рэкамендаваўся адзін — зразумелы шырокім масам, ілюстрацыйна-апавядальны, «рэалістычны». Раўназначнасць стала пануючым прынцыпам.

ста. Рука арыгінальнага мастака, нягледзячы на «зададзенасць» тэмы, адчуваецца ў многіх «праграмных» творах, нават у тых жа «Заводах», якія выклікаюць у гледача адчуванне трывогі і безнадзейнасці. Штодзённая карпатлівая работа для выдавецтва (грошай у сям'і пастаянна не хапала), маляванне заставак і расфарбоўка карт, іншая выпадковая работа, якая адбірала шмат сіл і збядняла душу, вымагалі нейкай аддушыны. Нездарма 43-гадовы Астаповіч зноў перачытвае Чэхава і Талстога, стварае мноства надзвіва цёплых камерных работ. Але сапраўдных «астапові-

тацтву. З гэтай пары яна працуе прыхваткамі, выкарыстоўваючы кожную больш-менш вольную часіну. Надзвычай патрабавальная да сябе, сціплая да няўпэўненасці, яна рэдка выносіла свае работы на суд гледачоў. І толькі ажыўленая перапіска з братам, яго прыезды ў Ленінград, сумесныя паездкі на эцюды надавалі ўпэўненасці, адраджалі веру ў сябе, свае магчымасці.

Працавітасць, нязгасная жыццеўстойлівасць нават у самых складаных абставінах былі адметнай рысай усёй гэтай сям'і. Зінаіда працавала «ў стол», дакладней, «за канапу» ўсё жыццё, не разлічваючы на прызнанне. Як мастак яна «выпала» са свайго пакалення, засталася яму невядомай. У гэтым яе драма, але ў гэтым і яе шчасце. Ніякая кан'юнктура не мела над ёй улады. Цаной невядомасці яна, сама таго не ўсведамляючы, набыла свабоду творчасці.

Лепшыя парыванні юнацтва, дух незабыўных 20-х, вольны палёт мары — усё гэта ўвасобілася ў яе позніх работах 60-х гадоў, пасля пераезду ў Віцебск. Яе маляўнічыя гуашы — яркія, неверагодныя пейзажы-фантазіі (нездарма брат некалі ў пісьмах называў яе «матыльком з палымянымі крыламі»!), здзіўляюць разняволенасцю і святочнасцю. У гэтых надзіва «маладых» па духу работах адлюстраваўся непаўторны воблік мастачкі.









Ім абаім катастрафічна не хапала часу. Але як яны верылі ў сваю справу, як падтрымлівалі адно аднаго! Не магу без хвалявання чытаць радкі: «Цудоўны ты чалавек, Зінка! І я зраблю ўсё, што змагу, каб дапамагчы табе высока ўзляцець у сонечных промнях. Ні-колі не сумнявайся ўва мне. Калі б табе ўдалося дасягнуць таго, да чаго ты імкнешся, гэта было б 50 працэнтаў маёй жыццёвай праграмы...» (9.11. 24 г.).

«Узляцець» не давялося ні ёй, ні яму. Лёс наканаваў аднаму гібель у росквіце сіл, другой — гады невядомасці.

І ўсё ж час паставіў усё на свае месцы. Здзейснілася тое, пра што яны, напэўна, не маглі і марыць — сумесная выстаўка, сустрэча праз паўстагоддзя.

яе да мастацтва былі настолькі сур'ёзнымі, што нават пра маючае адбыцца замужжа яна піша брату з асцярогай: ці не перашкодзіць яно заняткам жывапісам.

У 1929 годзе Аркадзь Астаповіч з сям'ёй пераязджае ў Мінск і працягвае працаваць у школе. Ён прыехаў у Мінск у росквіце творчых сіл, яму было ўсяго 35 гадоў. Ці мог ён тады ведаць, што пачынае шлях па «лесвіцы, якая вядзе ўніз»? Дванаццаці гадоў жыцця, якія пакінуў яму няўмольны лёс, было б дастаткова, каб выявіць свой талент на поўную сілу. Але гэтага, на жаль, не здарылася. Астаповіч так і застаўся мастаком без творчай кульмінацыі.

Ён прыехаў у горад, ахоплены ліхаманкай барацьбы з «нацдэмамі». Як школьнага настаўніка яго гэта магло і не закрануць. Але як мастака не закрануць не магло. У чым толькі не абвінавачвалі «нацыяналістаў»! Правінцыяльная абмежаванасць і «пошукі нацыянальнага стылю ў арнаментыцы

«Бадзёрае і жыццярадаснае» мастацтва запаланіла выстаўкі. Лірычны пейзаж успрымаўся з падазрэннем: ці не імкнецца мастак адысці ад галоўнай тэмы сучаснасці — будаўніцтва сацыялізму? З лёгкай рукі вульгарызатараў пейзаж пачалі лічыць «пасіўным» жанрам, які «адлюстроўвае бязрадасны, змрочны і сумны ландшафт». Пачалося жыццё сярод лозунгаў. Даеш калгасную вёску! У графіцы Астаповіча з'яўляюцца трактары. Даеш індустрыялізацыю! У адказ — цэлая серыя заводаў. Няма сумнення ў шчырасці гэтых работ. Але бачыць, як сапраўдны мастак, ведаючы сваё прызначэнне, сілаю прымушае сябе рабіць тое, што няміла сэрцу. А ўсё для таго, каб быць «сучасным»! Прыроджаны пейзажыст, ён выстаўляе на V усебеларускай выстаўцы пяць жанравых работ, не ўласцівых яго манеры,— «На будоўлі», «Праца вучнёўскай брыгады ў калгасе» і г. д. Чысты голас Астаповіча загучаў фальшыва.

Але знішчыць талент няпро-

чаўскіх» пейзажаў з'яўляецца ўсё меней. У дадатак да ўсяго — арышт па лжываму даносу і абвінавачванне ў сваяцкіх сувязях з белагвардзейскім генералам. Чатыры месяцы пакут у магілёўскай турме і, як цуд,— вызваленне дзякуючы настойлівым клопатам жонкі. Ці ўсведамляў ён драму свайго пакалення, сваю ўласную, урэшце? Пра гэта мы не даведаемся ніколі.

У чэрвені 1941-га, правёўшы сям'ю з палаючага Мінска да мястэчка Каралёў Стан, Аркадзь Астаповіч пайшоў даганяць свой полк. Апошняе яго пісьмо, прасякнутае болем і трывогай за лёс жонкі і хворых дзяцей, якіх пакінуў пад Мінскам, Зінаіда Антонаўна атрымала ў лі-пені. А праз некалькі месяцаў прыйшла вестка аб яго гібелі. Аркадзь Астаповіч загінуў пад Арлом у канцы 1941-га.

Не менш драматычна склаўся і лёс Зінаіды. Актыўны перыяд яе творчасці перапыніла нараджэнне дачкі ў канцы 20-х гадоў. Пазней абавязкі перад сям'ёй, хвароба дачкі не дазвалялі ёй цалкам аддавацца мас-

**Надзея ВУСАВА,**
**мастацтвазнаўца.**

**Афармленне Алены ВАШЧАНКІ.**

● А. Астаповіч. Зіма ў вёсцы. 1929 г.
● А. Астаповіч. Зімовае змярканне. 1921.
● А. Астаповіч. Зіма ў лесе. 1921 г.
● А. Астаповіч. Заводскія карпусы. 1926 г. Фота Георгія ЛІХТАРОВІЧА.




# «РОДНАЯ МОВА Ў «БЕЛАРУСІ»

ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Вялікі вам дзякуй, што распачалі грунтоўную гаворку пра родную мову беларусаў, а, значыць, і пра культуру цэлага народа. Вельмі добра, што ўдзельнічаць у абмеркаванні набалелых пытанняў мовы запрасілі і нас, чытачоў.

Дазвольце і мне, пастаяннаму падпісчыку і чытачу паважанага мною часопіса, сказаць колькі слоў пра даўно набалелае.

Тут я маю на ўвазе некаторыя моўныя тэрміны, а дакладней — штучныя слоўцы і малапісьменныя выразы, якія не, не ды ўсё ж трапляюць у друк, часам становячыся нават «нормаю» мовы літаратурнай. Яны, як і іншыя прамашкі, недаробкі і недагляды ў нашай моўнай палітыцы і практыцы таксама перашкаджаюць грунтоўнаму станаўленню нашай мовы, нашаму заканамернаму двухмоўю — пісьмоваму і вуснаму.

Неўзабаве пасля вайны, яшчэ працуючы ў школе і ў тэхнікуме, я многа пісаў у газеты і нават у дзяржаўныя і навуковыя органы аб недахопах, якія заўважаў у друкаванай літаратурнай мове, але, на жаль, вынік быў маленькі. Адна толькі «Настаўніцкая газета» надрукавала некалі невялічкую заметку пад назвай "Пакрыўджаны прыназоўнік", дзе гаварылася, што зусім занядбалі ў нас прыназоўнік «к», чым збяднілі мову.

Ды што я, нейкі там «правінцыяльны чытачок». Масцітыя пісьменнікі неаднаразова выступалі за ачышчэнне літаратурнай мовы ад непатрэбшчыны і скажэнняў, за тое, каб мова была даступнай, зразумелай і па-сапраўднаму народнай! Але ж бывала раней і цяпер яшчэ ёсць, што і да іх слоў адносіліся і адносяцца без належнай увагі тыя, хто адказвае за друкаванае слова.

Вось толькі два прыклады, што прыйшлі на памяць. Вялікі знаўца нашай мовы пісьменнік Ян Скрыган, які многа зрабіў і робіць для станаўлення і ўзбагачэння нашай літаратурнай мовы, некалі ў адным з выступленняў, між іншым, заўважыў, што не абавязкова кожны раз пісаць **«атрымаў** зарплату», бо можна сказаць «палучыў» яе, бо і гэтае слова, як і «палучка», уваходзіць у лексічны запас народнай беларускай мовы. Аднак жа паспрабуй прачытаць у газеце або пачуць па радыё тое «палучыў» — не знойдзеш і не пачуеш!

Другі прыклад. Аб законнасці абодвух прыназоўнікаў «да» і «к» і іх функцыянальнай нагрузцы яшчэ гадоў з дзесяць назад моцна і вельмі трапна сказаў слаўны патрыярх нашай літаратуры Кандрат Крапіва,— акадэмік К. К. Атраховіч. З уласцівым яму гумарам ён прывёў такі доказ: калі пірагі «спячы да свята», то можна іх і з'есці да свята, а іх звычайна пякуць **к** святу, то гэтак і пісаць трэба, калі сказаць тое хочуць. Толькі ці прыслухаліся к словам акадэміка тыя, каму трэба было прыслухацца ў першую чаргу — нашы стылісты і рэдактары? Як тады, так і цяпер пішуць і па радыё гавораць: «заклікі да 1 Мая», а не «к 1 Мая», «выканаць заданне **да** канца месяца, года» і г. д., а не «**к** канцу, пачатку» і г. д. І не хочуць (а можа не ўмеюць?) улічыць, што прыназоўнік «к» проста незаменны для канкрэтнасці і дакладнасці і што яго, без урону для сэнсу, не заўсёды можна замяняць універсальным «да» (напрыклад: **да** вечара засталася цэлая гадзіна», «дарога вяла **к** лесу» — калі тут заменіць прыназоўнік адзін на другі, то не скажаш таго, што хацеў сказаць).

Дарэчы, і ў перакладах з рускага часцей за ўсё замяняюць «к» на «да», забываючы (ці не ведаючы), што і ў беларускай, як і ў рускай, мове ёсць свой уласны прыназоўнік «к». Гэта зусім зразумела, бо нашы мовы сёння самыя блізкія ва ўсходнім славянстве.

Пераклады-штампы, выдуманыя «калькі»-калекі замест жывога народнага слова, штучныя словатворы і няўклюдныя словазлучэнні, на вялікі жаль, яшчэ і цяпер не так ужо і рэдка сустракаюцца ў нас, асабліва ў перадачах па тэлебачанні і радыё і ў перыядычным друку.

Зноў жа некалькі прыкладаў. Па сто разоў на дзень слухаем і чытаем слова «менавіта». Ніякі не дыялект, не выпадковасць, а ў якасці нормы беларускай літаратурнай мовы! Яшчэ і ў спалучэнні з «так», «таму» і г. д.

А калі разабрацца, то і выдумана гэтае слоўца без ніякай на тое патрэбы (бо ёсць жа сваё беларускае «іменна», замест якога яго ўжываюць, ёсць і адценні — сінонімы, прытым — народныя, а не выдуманыя).

Ніколі не ўжывуцца ў народную мову ўсе тыя «калькі»-калекі і «словатворы»-кручкатворы, якія, насуперак ёй, сілком пхаюць у друкаваную літаратурную мову, робяць «нормамі», універсалізуюць, навадняючы як прыкрымі штампамі.

Узяць хоць бы такое словазлучэнне-штамп: «уладкавацца на працу» (відаць, скалькаванае з рускага «устроиться на работу»). Калі б разабраліся з ім як след, то не пісалі б усюды, або хоць менш пісалі, бо, па-першае, «уладкавацца» добра ў капе сена (яна з **ладак**-пярэбіркаў складзена), а на рабоце трэба рабіць, працаваць; акрамя таго, паняцце «праца» больш шырокае, чым «работа», мы ж тут маем справу толькі з канкрэтнай работай, то і называць рэчы лепш было б іх уласнымі імёнамі; па-другое, наогул, ці варта было «калькаваць», калі ёсць і беларускі амаль даслоўны аналаг, ды не адзін! У жывой мове па ўсёй рэспубліцы чуем: **паступіў на работу**, пайшоў (падаўся), стаў на работу і інш. То чаму б і не пісаць гэтак жа, як усе гаворым?

Або во яшчэ такі, нават са «стажам», універсал: «ён мае (меў) рацыю». Іншага выразу патрэбнай думкі і прыкладу з рускай «Он прав» не прачытаеш у друку і не пачуеш праз эфір! Між тым, слова «рацыя» ў сэнсе праваты ўзята аж з лацінскай. Цяпер мы гэтае слова найбольш звязваем з радыётэхнікай (рацыя — радыёперадатчык), а галоўнае, што ў беларускай мове заўсёды былі і цяпер ёсць свае ўласныя адпаведныя словы: **ён праў, яго праўда** і інш. Каму ж патрэбен недарэчны штамп замест жывога слова?

Вельмі цяжка ўсведамляць, што з беларускай літаратурнай мовы амаль выкраслілі беларускае слова «чэсць», замяніўшы яго на «гонар» (гэтае іншамоўнае слова таксама прыжылося ў нас, але яно мае свой асаблівы сэнс, часта іранічны). Чытаем усюды: «слова гонару», «ганаровая грамата», «гонар і слава», толькі не гаворым гэтак, бо душа не ляжыць. Можна падумаць, што хтосьці з «ганаровых» мовазнаўцаў баіцца, каб не абвінавацілі яго ў «русіфікатарстве», то і перайначвае ўсё, каб не гучала так, як па-руску (хоць сам часцяком і гаворыць, і нават думае па-руску, толькі «на працы» сам сябе перакладае па-беларуску).

Відаць, кіруючыся той жа «логікай» боязі сугучнасці ў нашым двухмоўі, выкраслілі з літаратурнай мовы і многа іншых чыста народных, дакладных беларускіх слоў і выразаў, замяніўшы іх выдуманымі або стандартнымі, к таму ж, не заўсёды дакладна адпаведнымі сэнсу. Адсюль маем: **«хатні** адрас, **хатняе** заданне» замест «дамашні, дамашняе»; «знаходжанне» замест «прабыванне», «прыгадаў» замест «прыпомніў, успомніў», «апрануў кашулю» (як той кажух!), каб не сказаць «адзеў кашулю, сарочку, рубашку»; «распрануўся і лёг у пасцель спаць» (у касцюме пад коўдру?) і г. д. Дапішуцца скора, што і гальштук нехта «апране», і папругу «распранаць» будзе. А ў выніку колькі выразных, яскравых слоў і сінонімаў выключаецца з моўнага ўжытку! Стандарты і канцылярызмы высушваюць мову, губяць жывое слова!

І яшчэ не магу не сказаць пра адну недарэчнасць, з якою ніяк нельга змірыцца. У нашай літаратурнай мове ёсць і такія «словатворы», якіх магло б не быць, калі б той, каму трэба, перш чым выдумляць новае слова, старанна пашукаў у народнай скарбонцы: а можа там ёсць адпаведны аналаг? Іменна гэта і рабілі Я. Колас, Я. Купала і ўсе нашы класікі! І яны, к прыкладу, паспяхова абыходзіліся без такога, прабачце, макрачубага выдуманага слоўца, як «маўляў» (так і просіцца рыфма: «губамі мыляў») у сэнсе рускага «дескать». Цяпер жа гэтае «маўляў» рэжа слых і мыліць губы ў кожнай газеце, у часопісах, па радыё і тэлебачанні...

Тут я, вядома, ніколечкі не прэтэндую на неаспрэчнасць. Наадварот, хацелася б пачуць і іншыя выказванні па закранутых пытаннях. І няхай у чэснай, дзелавой спрэчцы хутчэй і надзейней адкрышталізуецца ісціна!

**Міхась КУЛАКОЎСКІ,**
**ветэран вайны і працы.**

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Піша вам Куляшова Таццяна Міхайлаўна, выхавацелька яслаў № 529 Мінска. З цікавасцю чытаю ваш часопіс. Вельмі зацікавіла мяне старонка «Родная мова», і я вырашыла выказаць сваё меркаванні. Усё ж такі большая частка насельніцтва не ведае сваёй мовы. А чаму? Таму што выкаранілі нашу беларускую мову. Дзе яе можна пачуць, хоць бы і ў нас у Мінску? Толькі ў навучальных установах, нячаста па радыё і тэлебачанні.

Я лічу, што вярнуць беларускую мову трэба спачатку ў вярхах.

Усе справаводства, усе дакументы павінны весціся на беларускай мове. Можа я не зусім зразумела выказваюся. Растлумачу на асабістым прыкладзе. Вырасла я ў вёсцы, вучылася ў беларускай школе. Усе прадметы ў нас выкладаліся на беларускай мове. Рускую мову вывучалі з 2 класа. І вакол мяне ўсе размаўлялі толькі на беларускай мове. Скончыла 8 класаў і паехала паступаць у педагагічнае вучылішча. І вось тут я ўпершыню сутыкнулася з цяжкасцямі: матэматыку трэба здаваць на рускай мове. Мне за лета прыйшлося «перавучвацца». А чаго мне каштавала вучоба? Першы час я зусім не разумела выкладчыкаў (тэрміны гучаць па-новаму). І вось тады я падумала: «Для чаго беларуская мова?». І цяпер гавораць: беларускія сады, беларускія школы. Ды пры такім становішчы спраў я ніколі не аддам свайго дзіцяці ў беларускі дзіцячы сад. Не хачу, каб мая гісторыя паўтарылася і з ім.

Я працую з малымі 2—3 гадоў. Мы павінны іх знаёміць з творамі на беларускай мове. Яны нічога не разумеюць, калі я ім чытаю на беларускай мове. І зразумела. Родная мова — гэта мова маці. А ў кожнага з маіх малых маці размаўляе на рускай мове.

Я лічу — двухмоўя не павінна быць. Адно ці другое.

З павагай **КУЛЯШОВА Т. М.** г. Мінск.

ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ»!

На 1990 год я зноў падпісаўся на часопіс і хацеў бы на яго старонках прачытаць, у сувязі з пэўнымі датамі, пра нашых знакамітых суайчыннікаў, якія праславілі нашу беларускую нацыю, але былі забыты па пэўнай прычыне. Я мяркую, што гэта будзе цікава прачытаць не толькі мн[illegible]

Мы ведаем, што наша гісторыя доўгі час фальсіфікавалася і замоўчвалася.

Вось у нашай мясцовасці (Гродзенская вобл., Карэліцкі р-н) ёсць вёска В. Мядзвядка, дзе нарадзіўся і жыў знакаміты вучоны, наш зямляк, Дамейка. Ён вымушаны быў пакінуць радзіму і жыў у Чылі, быў прэзідэнтам Акадэміі навук краіны. Памяць яго ўшанавана там помнікам і ў назве горада — Дамейка.

Прыкладна 2 гады таму назад я чытаў у часопісе «Наука и жизнь», што продкі Льва Мікалаевіча Талстога — выхадцы з нашых мясцін. Да вайны ў нашай вёсцы жыў Тоўсты Мікалай, бежанец дзесьці з Брэсцкай вобласці. У Слуцкім раёне жывуць Чайкоўскія. Прозвішча Мусаргскі гэтаксама напамінае нашы. Вядома, што Беларусь дала многа знакамітых вучоных у розных галінах навукі, пісьменнікаў, мастакоў, але мы аб іх зусім не ведаем, а калі штосьці і ведаем, то вельмі мала.

Вядома, што выхадцы з Беларусі заснавалі ў Маскве тэатр, універсітэт. Сімяон Полацкі (настаўнік Пятра І) напісаў статут Маскоўскага універсітэта.

Цікава прачытаць і пра славутых нашых землякоў блізкага да нас часу, многія з якіх былі ашальмаваны і знішчаны. Добра было б прачытаць і гістарычныя аповесці, не вядомыя нам. Нядрэнна азнаёміцца і з музеямі (краязнаўчымі), у тым ліку і школьнымі. Такія публікацыі, мяркую, вельмі адпавядалі б часопісу з такой назвай, як «Беларусь». Яны будуць уваскрашаць нашу гістарычную памяць і тым самым будзіць у нашым народзе яго годнасць.

З павагай **Аляксандр ДОЎБІК.** п. Уша.



ЗЕМЛЯКІ

# ЛАГОЙСКІЯ МАДОННЫ

Даяркі — мадонны нашых вёсак. Вясёлыя і гаманкія, увішныя і спагадлівыя, грубаватыя і пяшчотныя адначасова... Руплівы і надзейны атрад у сельскай гаспадарцы. І калі называюць іх творцамі малочных рэк, дык гэта заслужана.

Нялёгка было мастаку ўгаварыць жанчын папазіраваць. Маляваць — не фатаграфаваць, няхуткая справа. А часу ж і так не стае. Усё іхняе жыццё — паміж дойкамі. Трэба паспяваць і ў печы паліць, і дзяцей гадаваць, і агароды засяваць, і самім прывабнымі заставацца.

Яшчэ пару гадзін назад яны насілі вёдрамі малако, раздавалі кармы, чысцілі стойлы, паілі цялят. Апранутыя ў грубыя халаты, у вялікіх гумовых ботах, былі падобныя, як салдаты. Але хто пазнае цяпер у гэтых пасвяточнаму апранутых жанчынах працаўніц фермы? Хіба што па руках беспамылкова іх пазнаеш. Яны нібы візітныя карткі. У каго яшчэ бываюць такія напрацаваныя, апухлыя, патрэсканыя далоні? Але яны хаваюць іх, імкнучыся і ў жыцці, і на палатне быць прыгожымі. Вось толькі подпіс на карціне няхай гаворыць, што Зінаіда Ястрэмская і Дзіма Маслоўская — даяркі.

Чаму Вячаслаў Бука выбраў менавіта іх? Мо таму, што жывуць у самым цэнтры «беларускай Швейцарыі», паблізу Хатыні, а мо таму, што першыя ў Лагойскім раёне чатырохтысячніцы.

Анатоль **КЛЯШЧУК**.
Фота аўтара.

# ЖЫВОЕ РОДНАЕ СЛОВА

За апошнія два з лішнім дзесяцігоддзі беларускімі мовазнаўцамі і аматарамі-збіральнікамі выпушчана ў свет звыш дваццаці дыялектных слоўнікаў і матэрыялаў да іх. Неверагодна, але факт, што амаль палавіну з іх складаюць слоўнікі, падрыхтаваныя і выдадзеныя адным чалавекам — вядомым беларускім публіцыстам, журналістам, пісьменнікам, мовазнаўцам і выдавецкім работнікам Георгіем Фёдаравічам Юрчанкам.

Больш чым 30 гадоў з вялікім стараннем збірае слоўныя багацці роднай мсціслаўскай гаворкі Г. Юрчанка. Першай лексікаграфічнай працай яго быў «Дыялектны слоўнік» (1966), у якім аўтарам растлумачана значэнне 2170 слоў, не лічачы варыянтаў і форм. У 1969 годзе Г. Юрчанка выдаў сінанімічны слоўнік па дыялектнай лексіцы пад назвай «Народная сінаніміка». У ім распрацавана 440 сінанімічных радоў. Гэта быў першы слоўнік па сінаніміцы дыялектнай лексікі.

У 1972 годзе ён выдае першую кнігу трохтомнага фразеалагічнага слоўніка на літары А — З пад назвай «І коціцца і валіцца». Другі том слоўніка на літары І — П пад назвай «І сячэ і паліць» выйшаў у 1974 годзе, а трэці (на літары Р — Я) пад назвай «Слова за слова» — у 1977 годзе. У агульную ўсіх трох кніг слоўніка вынесены жывыя мясцовыя ўстойлівыя выразы. У гэтай рабоце апрацавана 16 150 фразеалагічных выразаў і іх варыянтаў. У канцы кожнай з трох кніг фразеалагічнага даведніка падаецца слоўнік народных слоў, якія не ўвайшлі ў ранейшыя публікацыі аўтара, а таксама тыя, што сустракаюцца ў ілюстрацыях да фразеалагізмаў у апошнім слоўніку.

У 1981—1985 годзе Георгій Юрчанка выдаў трохтомную працу па дыялектнай лексіцы пад назвай «Народнае вытворнае слова». У трох кнігах апошняга слоўніка пададзена і растлумачана каля 16 200 лексічных адзінак і шырока паказана форма- і словаўтваральная сістэма лексікі ў гаворцы Мсціслаўшчыны,яе выключна багатая сінаніміка і эмацыянальна-вобразная афарбоўка.

Акрамя васьмі слоўнікаў, Г. Юрчанка апублікаваў таксама значную колькасць артыкулаў па дыялектнай лексіцы, прычым большасць з гэтых публікацый асаблівыя па зместу, бо раскрываюць, калі можна так сказаць, цяжкадаступныя і малавывучаныя лексічныя пласты народнай мовы.

Народная мова, нават кожная яе гаворка па сутнасці невычэрпная: пра гэта сведчыць і новы дыялектны слоўнік Георгія Юрчанкі, які нядаўна выйшаў з друку ў выдавецтве «Навука і тэхніка» пад назвай «Сучаснае народнае слова. З гаворкі Мсціслаўшчыны. Слоўнік».

Праца адкрываецца ўступным артыкулам «З глыбінь роднай гаворкі», напісаным рэдактарам гэтага слоўніка (як і ўсіх папярэдніх слоўнікаў Г. Юрчанкі) Аляксандрам Крывіцкім.

У слоўнік уключаны багаты лексічны матэрыял, каля 4000 слоў, сабраны аўтарам у апошнія дзесяцігоддзі на ўсходзе Беларусі, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак.

Слоўнікавыя артыкулы ў гэтай працы пабудаваны арыгінальна, гнездавым спосабам. У адным артыкуле аб'яднаны, напрыклад, дзеясловы закончанага і незакончанага трывання абшалу́шываць і абшалушы́ць, зваротныя дзеясловы абодвух трыванняў, утвораныя ад апошніх незваротных — абшалу́швацца і абшалушы́цца, дзеепрыметнікі — абшалу́шаный, абшалушо́ный і дзеепрыслоўе закончанага трывання абшалушо́мшы (абшалушыўшы). У артыкулах на назоўнікі і прыметнікі падаюцца памяншальныя формы: лабаві́к — лабавічо́к; ласкуці́на — ласкуці́нка, ласкуці́начка; сла́бый — сла́бенечкій, слабёсенькій, слабёсенечкій, слабю́сенькій, слабю́сенечкій.

Такое кампактнае размяшчэнне матэрыялу дазволіла сэканоміць месца для падачы большай колькасці слоў і вялікай колькасці ілюстрацый, а таксама паказаць словаўтваральнае багацце гаворкі.

Выключэнне складаюць толькі аддзеяслоўныя назоўнікі на *-нне*, якія афармлены асобным артыкулам.

Падаецца ў слоўніку пераважна традыцыйная лексіка. Пераважаюць прыставачныя дзеясловы і аддзеяслоўныя назоўнікі на -нне.

Таксама пададзена каля 100 аддзеяслоўных назоўнікаў на *-аннік, -яннік, -эннік*, якія называюць асоб мужчынскага полу — выканаўцаў якога-небудзь дзеяння: абганя́ннік, абпіра́ннік, абчо́сываннік, а́йканнік, вярша́ннік, дахваля́ннік, наруга́ннік, шмы́каннік і г. д. Амаль да кожнага з гэтых назоўнікаў мужчынскага роду пададзены ў слоўным гняздзе назоўнікі жаночага роду (абганя́нніца, дахваля́нніца, шмы́каннiца і г. д.). Такія словы-назоўнікі характэрны і іншым беларускім гаворкам, але збіральнікамі народнай лексікі ім не ўдзялялася дагэтуль належная ўвага.

Абсалютная большасць слоў, пададзеных у апошнім слоўніку Георгія Юрчанкі, адсутнічаюць у слоўніках літаратурнай мовы. Выключэнне зроблена толькі для некаторых агульнанародных слоў, напрыклад, для слоў авёс, армя́к, лес і некаторых іншых. І зроблена гэта для таго, каб паказаць народнае багацце вытворных ад іх слоў, што адсутнічаюць у слоўніках літаратурнай мовы: авясе́ц, аўсі́шча, аўсюга́н, армячэ́нка, армячо́нка, армячы́шча, лясюга, лесюга́н, лясі́шча.

Вельмі многа ў гэтым слоўніку арыгінальных, малавядомых мясцовых слоў. Многія з іх, відаць, нават упершыню выводзяцца Г. Юрчанкам на нашу агульнанацыянальную моўную арэну. Сярод іх варта назваць такія, напрыклад, словы, як: аба́да — навала, напасць; закаю́так — куток, зацішная мясціна; ік — голас, здольнасць гаварыць; кургу́зік — нізкарослы чалавек; мушка́рыць — муштраваць; на́рціцца — упарціцца; субы́тчывацца — збірацца; улыбля́цца — усміхацца; упо́рчывый, упо́рчыстый — упарты; хлепіста́ць — прагна піць; шабуцёж — шум, крык, галас і многія інш.

На старонках слоўніка сустракаем таксама многа слоў, шырока распаўсюджаных у паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках, але якія адсутнічаюць у слоўніках літаратурнай мовы: адбалмата́ць — спыніць павольную, невыразную балбатню; заква́ктываць — пачынаць квактаць; кулдыя́чыць — гаварыць неразборліва; ты́ханне — біццё сэрца; убо́істый — непаслухмяны, упарты; убухто́рывацца — налівацца; упацёмках — папацёмку; шма́цце — шмаццё і інш.

У слоўніку ёсць нямала слоў з агульнанародным беларускім коранем, але асаблівых сваім утварэннем, націскам, фанетычна, з іншым, чым у літаратурнай мове, граматычным родам і г. д., напрыклад: абсво́іцца — асвойтацца; абша́ра — абшар; абыча́йна — звычайна; высця́бываць — выбіваць сцябаннем; дага́дчыватый; дага́дчывый — здагадлівы; дака́з — доказ; дакто́ршая — доктарка; дарагато́ў, дарагато́ўля — дарагоўля; дармаві́зна — дармаўшчына; зацале́ць — уцалець; кро́мшы — акрамя; кружка́ — кружком; цвярды́нь — вялікая цвёрдасць і г. д.

Пры першым знаёмстве са слоўнікам адразу звяртаеш увагу на вялікую колькасць у гэтым слоўніку экспрэсіўных, ацэначных, жаргонных і іншых стылістычна афарбаваных слоў, слоў з метафарычнымі і пераноснымі значэннямі. Такія словы і іх значэнні, гавару з упэўненасцю, даступны толькі дасведчанаму збіральніку, які вельмі добра ведае мясцовую гаворку. Да такіх слоў у слоўніку адносяцца, напрыклад, наступныя: адбяле́ндзіць — набалбатацца, спыніць балбатню; адгвэ́здаць — моцна запэцкаць; артамо́ннічаць — быць развязакай; башкаві́на — галава; вачу́эць — рабіцца нелюдзімым; дабязу́ліць — лодарнічаючы, нашкодзіць сабе; дады́хаць — дажыць; даху́ркацца — дабурчацца; калбасі́ць — выкрунтасіць, вычвараць; кана́рхала — дакучлівая асоба; кісларо́тый — з мокрымі губамі; хармýзнік — згрубны чалавек; цярабі́ць — настойліва сцвярджаць сваё і г. д.

Шырока ў слоўніку прадстаўлена сінанімія і словаўтваральная варыянтнасць, напрыклад: адправі́цельная, адпраўна́я, адпра́вашная — адпраўка, развітальны вечар; апе́карка, апе́карша, апе́каршая — апякунка; апе́карстваваць, апе́карнічаць, апе́карыць — апекаваць; дахо́длівый, дахо́дный, дахо́жый — прабіўны; камса́ць, камсі́ць, ко́мсаць, кэ́мсаць — камячыць, мяць; лала́каць, лалала́каць, лалы́каць, лала́хаць, лала́кацца, лалала́кацца — балбатаць і г. д. Шырока падаюцца таксама памяншальныя формы слоў: краёк, краёчак, краюшо́к, краюшо́чак; махла́ценькій, махла́сценькій, махлава́сценькій; шкарлупа́шка, шкарлупа́шачка, шкарлупі́нка, шкарлупі́начка, шкарлу́пачка і мн. інш.

Укладальнік слоўніка ў залежнасці ад канкрэтных слоў карыстаецца рознымі відамі тлумачэння. У пераважнай большасці выпадкаў да слова даецца апісальнае тлумачэнне, напрыклад: абмякі́німваць — засмечваць мякінай; абпа́хываннік — той, хто акучвае бульбу; атла́дзіць — перастаць жыць у згодзе; зато́пішча — непралазная гразь; па́рня — памяшканне для запарвання корму жывёле; узды́ха́ннік — той, хто часта ўздыхае. Да дыялектных слоў прыводзіцца літаратурны адпаведнік, напрыклад: выхі́трыванне — хітраванне; галалёддзе — галалёдзіца; галацу́пік — гарэза; пасулі́ць — прапанаваць. Значэнне слова можа раскрывацца і некалькімі сінонімамі: аго́нь — імпэт, імклівасць, спрыт, энергічнасць; адбе́л — адбелка, адбельванне; адды́х — перапынак, адпачынак; матату́й — дурань, тупіца; убо́істый — непаслухмяны, упарты і інш.

Усе словы ў слоўніку забяспечаны неабходнымі граматычнымі паметамі, а экспрэсіўныя, ацэначныя і інш. стылістычна не нейтральныя словы — неабходнымі стылістычнымі паметамі (абразлівае, асуджальнае, гумарыстычнае, ласкальнае, зніжальнае, экспрэсіўнае і інш.).

У адрозненне ад усіх папярэдніх слоўнікаў Г. Юрчанкі апошні слоўнік мае фальклорны дадатак. Гэта тэксты мясцовых мсціслаўскіх прыказак, прымавак, прыгаворак, жартаў, выразаў-формул, зачынаў, клятваў і пажаданняў, праклёнаў і зламысных пажаданняў, дыялогаў, частушак, песень, замоў, анекдотаў, легенд, павер'яў, паданняў, апавяданняў. Іх спіс налічвае 676 назваў.

У заключэнне лічу мэтазгодным зрабіць некаторыя заўвагі па слоўніку. Загалоўныя словы ў слоўніку пададзены, на жаль, без націску, які можна знайсці толькі ў ілюстрацыйным слове, у прыкладзе і то не заўсёды. У такіх, напрыклад, словах, як вырушнасць, канархала, хлягі, націску няма і ў прыкладах.

Непатрэбным у слоўніку з'яўляецца клічнік (!) пры словах-выклічніках кызінь, пылінь. Параўн. такія ж выклічнікі мяк, нах-нах, шмык, пры якіх гэтага знака ў слоўніку няма.

Пры такіх словах, як вы́дудаліць, хлягі, патрэбна памета «экспрэсіўнае».

У большасці выпадкаў у слоўніку дзеясловы даюцца трывальнымі парамі, але да некаторых дзеясловаў (гл., напрыклад, дзеясловы абгарну́ць, абмасо́ліць, абтачы́цца, абтрылю́дзіць, адчыка́ніць, ацыхамі́рыць, закурбо́кываць) адпаведнікаў другога трывання (закончанага або незакончанага) няма, хоць у гэтых гаворках яны ўжываюцца.

У цэлым жа слоўнік саслужыць добрую службу майстрам мастацкага слова. Сам па сабе гэты слоўнік, як і ўсе папярэднія слоўнікі Г. Юрчанкі, з'яўляецца своеасаблівым помнікам роднай мсціслаўскай гаворцы і яе прадстаўнікам.

**Мікалай КРЫЎКО,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# ЛЫНТУПЫ

## ГЛЫБІНКА Ў ТУПІКУ

Журботна ў Лынтупах Пастаўскага раёна... Чаму? З якога часу?..

Вось калісьці раскошны палац пана Бушэўскага. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што гэтак пан спрабаваў задаволіць капрыз адной парыжскай прыгажуні. Вакол шматлікія гаспадарчыя пабудовы. На беразе сажалкі — быццам з казкі — спічастая вежа. Аказалася, што гэта проста «лядоўня» (дарчы, пустая), тое, што наш сучасны халадзільнік.

Местачковы каларыт давяршае маленькая станцыя Прыбалтыйскай чыгункі ды прыгажун касцёл у стылі неакласіцызму, які дамінуе над усімі іншымі пабудовамі.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ўсё гэтае харастAва, цяпер ужо былое, неўзабавеператворыцца ў тлен. Канечне, калі не прыняць тэрміновых мер. Праўда, гэта не пагражае касцёлу. Там ёсць рэальны гаспадар.

Ну, а пакуль — на ўсім адбітак забыцця і старасці. Разбураецца палац. Яўна не па сілах сярэдняй школе — цяперашняму яго гаспадару — спыніць гэты працэс. Радуе, вядома, што тут калісьці ўзяў верх прынцып «Усё лепшае — дзецям!». Але пад гэты добры пачатак трэба было падвесці і надзейны эканамічны фундамент. Зараз відавочна адно: дзятве патрэбна новая сучасная школа, а палацу — рэстаўрацыя.

Без болю ў сэрцы нельга глядзець на здзічэлы парк, які, аднак, яшчэ захаваў сваю веліч. Сістэма сажалак і каналаў, не без дапамогі спіртзавода і саўгаса, становіцца смуродным балотам.

Дык што ж, гаспадары ў Лынтупах кепскія? Можа, мясцовыя жахары канчаткова развучыліся пагаспадарску весці справы? Пытанняў шмат...

— Мы таксама шукаем адказы на іх. Нямала чакалі ад З'езда,— заўважыла ў гутарцы старшыня [п]ыканкома пасялковага Савета Валянціна Уладзіміраўна Кузьміч.— Ды дзе там! Не зразумела і цяпер, ці будзе рэальная ўлада ў Саветаў і заканадаўчыя гарантыі ў хлебаробаў! Пакуль жа мы звязаны па руках і нагах.

Самы буйны работадаўца тут — саўгас імя Леніна, затым — спіртзавод, хлебапрыёмачны ўчастак, чыгуначная станцыя, Дом быту, сельпо... Праблему занятасці насельніцтва яны, на жаль, не вырашаюць.

Аднак не толькі таму штораніцы паязды і аўтобусы з нумарамі з суседняй рэспублікі вязуць адсюль амаль чатырыста пар рабочых рук. Там лепшыя ўмовы працы, ёсць сталы заказаў, комплекс іншых паслуг, якімі не могуць пахваліцца ў Лынтупах.

Праўда, ёсць і тут змены да лепшага. Пачаў працаваць у рамках аб'яднання «Беліт» філіял Вільнюскага завода радыёкампанентаў. Сцвярджаюць, што будзе яшчэ адзін філіял — Віцебскай швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». Але да вырашэння праблемы яшчэ далёка.

Бедны мясцовы бюджэт — 112 з паловай тысяч рублёў. З іх пяць тысяч ідзе толькі на асвятленне вуліц.

Пад час работы над фотанарысам маю ўвагу прыцягнула адна не зусім звычайная дэталь у мясцовай каплічцы — 49 прозвішчаў, высечаных на чорным мармуры. Гэты мартыралог — заложнікі, пакараныя фашыстамі 19—20 мая 1942 года. Мемарыяльны знак змясціў усіх незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. І я перакананы, што ў гэтай ініцыятыве святара — учынак грамадзяніна.

На абодва бакі граніцы без граніц жывуць добрыя, працавітыя людзі. Беларусы і рускія, літоўцы і палякі, казахі і яўрэі, татары і цыганы... Дзеляць радасць, дапамагаюць адзін аднаму ў бядзе. Шмат што звязвае той і другі бок.

З 1954 года разам жывуць літоўка Люцыя Адамаўна Станкевічутэ і паляк Антон Адамавіч Сасонка. Вырасцілі чацвярых дзяцей, ганарацца дзевяццю ўнукамі. Адным словам, жывуць шчасліва. Люцыя Адамаўна добрасумленна працавала на ферме, цяпер на заслужаным адпачынку. Антон Адамавіч яшчэ працуе электрыкам у саўгасе — паважаны спецыяліст.

Была тут «стальная сувязная нітка» паміж Беларуссю і Літвой —



Лынтупскі палац. Яго яшчэ можна выратаваць.

Былы машыніст былой чыгункі Г. А. Шапель.

Сямейная пара Л. А. і А. А. Сасонкі.

вузкакалейная чыгунка Нарач — Панявежыс. Праз Блакітныя азёры, Лынтупы, Швянчоніс... Працавала рытмічна, злучала беларускую глыбінку з Прыбалтыкай. Аднак ці то ўзяло верх чыёсьці чыноўнае самадурства, ці то нехта ўсумніўся ў яе «пралетарскім паходжанні» (спадчына кайзера Вільгельма з першай сусветнай) — адным словам, была, ды знікла ў пачатку шасцідзесятых. Шпалы прадалі за бясцэнак — на дровы.

Катаецца цяпер на веласіпедзе са сваім верным сабакам былы машыніст былой чыгункі Генрых Антонавіч Шапель. А калісьці з ветрыкам вазіў грузы па чыгунцы.

І наогул, шмат было тут у мяне цікавых сустрэч.

Іосіф Аляксандравіч Быхавец — настаўнік беларускай мовы і літаратуры амаль з пяцідзесяцігадовым стажам, краязнавец. Напісаў летапіс, які захоўваецца ў школьным музеі. У ім ён аспрэчвае афіцыйную версію ўзросту Лынтупаў у 530 гадоў. Ён не без падставы лічыць, што лічба гэтая заніжана амаль... у тры разы!

У сценах мясцовай метэаралагічнай станцыі я пазнаёміўся з Ядвігай Станіславаўнай Віршыла.

— Штодзень перадаём звесткі ў Мінск і Віцебск. Між іншым, дапамагаем усім, хто мае патрэбу ў нашых назіраннях і інфармацыі,— гаворыць гаспадыня метэастанцыі.— Работа наша хоць і непрыкметная, але патрэбная. Без яе не абысціся ні лётчыкам, ні аграрнікам, ні нават хатняй гаспадыні...

Аляксандр ШАБЛЮК.
Фота аўтара.
Афармленне Алены ВАШЧАНКІ.



І тут безліч спраў...



Ля зарослай сажалкі.




Ксёндз лынтупскага, камайскага і пастаўскага касцёлаў Я. Я. Шуткевіч.



Стары пасялковы настаўнік І. А. Быхавец.

# Штрыхі да кінапейзажу ў каляровым адлюстраванні

ЗАКАНЧВАЕЦЦА КАЛЯНДАРНЫ год. Для беларускага кіно, трэба сказаць, гэта быў год складаны, пражыты ў падзеях сапраўды крызіснага характару. Чаго варты адзін толькі нечарговы, або, як яго яшчэ называюць, надзвычайны з'езд кінематаграфістаў рэспублікі...

У мінулыя гады мы не ведалі такога напалу страсцей вакол праблем нашага кіно, не былі сведкамі такога выбуху папрокаў, такой буры амбіцый. Чаго ж не падзялілі між сабой кінематаграфісты? Пытанне важнае: пункт гледжання на новыя прынцыпы арганізацыі кінасправы. Адно засмучае: усе гэтыя сямейныя спрэчкі «з жыцця кінематаграфістаў» зрабілі «кухню» нашага кінематографа адчыненай для ўсеагульнага агляду. У яе цяпер можна зайсці па-свойску. А гэта не робіць гонару нашым мастакам, здрабняе іх перад тварам мастацтва. Якая б перабудова кінасправы ні адбывалася, яно, мастацтва, прызнае толькі адзін нязменны аргумент — адданае і таленавітае служэнне ідэям свайго часу.

Гучныя словы? Магчыма. Але без іх немагчыма абысціся менавіта цяпер, калі ў людзей абвастрыліся грамадзянскія пачуцці і грамадства перастала быць шэрай інертнай масай, калі назапасілася стома ў чаканні перамен, а паўсядзённае жыццё не стала лягчэйшым. Ці мае права ў такіх абставінах кіно, якое ўсё яшчэ лічыць сябе самым масавым з мастацтваў, паглыбіцца ў свае ўласныя праблемы?

Вядома ж, як чуйна рэагуе глядач на шчырасць і смеласць, як улоўлівае на экране кожны рух, кожнае слова, сугучныя яго перажыванням, якія канкрэтызуюць іх у бачных, пазнавальных вобразах. Не буду далёка хадзіць за прыкладамі. Яны — перад вачамі.

Дастаткова было з'явіцца ў рэпертуары гэтага года мастацкім фільмам «Мяне завуць Арлекіна» В. Рыбарава, «Наш браняпоезд» М. Пташука, дакументальным «Боль» С. Лук'янчыкава, «Не плачце па мне» А. Алая, як пра гэтыя стужкі загаварылі. І не толькі на так званых арганізаваных праглядах, дзе глядач мае магчымасць убачыць «жывога» аўтара ці акцёра, задаць ім пытанне. Зацікаўленыя адносіны да пазіцыі мастака, які закранае тэмы, што хвалююць кожнага з нас, дае ім уласнае тлумачэнне і не адыходзіць ад натуральнага, а таму непрадказальнага ходу падзей, выявіліся ў самым шырокім спектры глядацкіх думак і ацэнак, на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў.

Я далёкая ад намеру ідэалізаваць гэту, сапраўды рэдкую ў нашым кіно, сітуацыю, калі на «слыху» ў масавай аўдыторыі працягваюць заставацца гэтыя некалькі назваў. А яна, як вядома, зусім неаднародная, таму «вялікая сіла мастацтва» можа зрабіць на яе самае непрадказальнае ўздзеянне.

Неяк рэжысёр Міхаіл Пташук даў мне пачытаць звычайны вучнёўскі сшытак, які атрымаў заказным пісьмом са Стаўрапольскага краю. Піша чалавек, які «сядзеў» пры Сталіне: «Зараз схадзіў у кінатэатр, паглядзеў «Наш бранепоезд», і праз героя, якога іграе М. Ульянаў, пазнаў «свой» калымскі лагер, адчуў яго атмасферу...». І далей на дванаццаці старонках «у клетачку» прыгадвае пра ўсё, што памятае аб тым жыцці, з прозвішчамі, мянушкамі і г. д.

А нядаўна ў пад'ездзе аднаго дома чую размову. Гутараць двое пенсіянераў: «Паказваюць, разумееш, кіно. Сорам глядзець. Сталін ім дрэнны быў! Пры ім гэта хуліганнё па струнцы хадзіла. А цяпер гвалцяць дзеўку, а мы — любуйся на гэта!».

— Так, так,— ківае другі.— Пайшоў з унучкай на гэтага «Арлекіна», дык вочы ад сораму недзе было падзець. Клоуны!

Яшчэ адна рэакцыя. На лекцыі пра кіно ў Віцебскім тэхналагічным інстытуце студэнты пытаюцца:

— А хрышчэнне ў «Болі» сапраўднае?

— Вядома,— адказваю,— сапраўднае. А чаму вы пытаецеся?

— Мы думалі,— гавораць,— што гэта спецыяльна для фільма пастаўлена.

На пытанне, што наогул думаюць пра гэты фільм, маўчаць, пацiскаюць плячамі. Нарэшце адна дзяўчына выказвае, відаць, агульнае меркаванне:

— Шкада, вядома, гэтых хлопцаў. Але ж у іх ільготы...

Такія вось жыццёвыя разважанні на фоне кіно. Можна, напэўна, абурацца неразвітым масавым густам або наадварот — развітым практыцызмам, які часам мяжуе з цынізмам. Але здаровы сэнс падказвае: нельга ва ўсім вінаваціць аднаго гледача. Яго погляды на «жыццё» і на «кіно» былі б іншымі, калі б добрых, глыбокіх фільмаў было шмат, а дрэнных не было зусім. Дэклараваная ўвага да чалавечага фактару — гэта яшчэ не ўвага да самога чалавека. Уніфікаваныя ва ўсім, ці будзем мы лепш разумець адзін аднаго з дапамогай кінематографа?

Характэрна, што рэакцыя глядацкай залы на новыя фільмы, у тым ліку і беларускія, палярызуецца пад націскам гэтай хвалі нашай прасторы — часу. Па-ранейшаму моцны зарад на станоўчыя эмоцыі. Кіно павінна «вучыць жыццю». Крытычна пераасэнсоўваючы свае авансы і даўгі перад грамадствам, кінематограф, мяркую, павінен аднавіць першапачатковы сэнс і гэтага патрабавання. Шмат разважаючы аб страце духоўнасці, было б памылковым думаць, што гэты працэс не закрануў кінамастацтва. У нас у рэспубліцы, на жаль, не праводзіцца сацыялагічных даследаванняў у галіне кіно. А даныя маскоўскіх сацыёлагаў сведчаць: нягледзячы на новыя павевы, на экране марудна пераадольваецца так званая «міфатворная» канцэпцыя. Як і да перабудовы, працуюць старыя стэрэатыпы, толькі змяніліся акцэнты.

РАЗАМ З ТЫМ, У ЖЫЦЦІ, як і на экране, з'явіўся новы тып, на якога мы сёння пазіраем з цікаўнасцю першаадкрывальніка, не пазнаючы ў ім уласныя заганы. Добра, калі гэта позірк мастака. Тады застаецца магчымасць спрэчкі, параўнання, доказу. Тады фільм, як названыя вышэй, набывае запас жыццёвай трываласці, каб працягваць існаванне калі не ў нашых сэрцах, дык у нашых роздумах. А што рабіць, калі ў мастацкіх адносінах фільм не выяўляе здольнасці ўзняцца над героем, над яго маральнымі мінусамі, анамаліямі духу?

Вось на экране дзяўчынка-падлетак, якая жыве ў дзіцячым доме. Рэжысёр-дэбютант А. Карпаў паказвае Веню Рыжык з фільма «Гамонкулус» у розных станах, пачынаючы з таго моманту, калі яе, падкідыша, прывезлі ў дзіцячы дом. Атмасфера гэтай установы, побыт невялікага, але стракатага дзіцячага калектыву схоплены дакладна, пераконвае сваімі дэталямі. Але ўсё, што адбываецца з гераіняй — перапады ў настроі, алагізм або паслядоўнасць учынкаў, нервовыя ўзрушэнні,— адназначна тлумачыцца самім фактам гэтага непаўнацэннага жыцця. Дзіця расце ў ненатуральным для дзіцячай псіхікі асяроддзі, змагаючыся з ім даступнымі яму сродкамі за сваю годнасць. Заклікаючы да міласэрнасці, карціна, аднак, не выходзіць за межы тэмы, якая шматбакова адлюстравана ў публіцыстыцы. У тым ліку і беларускай: у фільмах Д. Міхлеева «Інтэрнат ты наш» і У. Бокуна «Каханне яшчэ магчыма». Не сцвярджаю, што «Гамонкулус» у гэтай сумнай галерэі лішні. Але, узмацняючы веру ў сілу дабра і асуджаючы зло, ці глядзіць рэжысёр у гэтай інтэрпрэтацыі далей і глыбей вострасацыяльнай тэмы?

Тонкая матэрыя — духоўнасць — не даецца ў мастацтве без пакут спачування. Экран, як рэнтген, выяўляе разлік, абстрактнасць, рацыянальнасць.

У другой нашай свежай стужцы «Каталуп Сільвер» другі рэжысёр-дэбютант, таленавіты аператар Ю. Елхаў, малюе карціну разладу асобы. Фільм не пазбаўлены тонкага псіхалагізму, асабліва ў эпізодах дзяцінства, дзе герой пражывае сваю прадгісторыю. Успаміны пра «страшнага» чалавека, якога паклікалі ў дом, каб знішчыць бадзяжных кошак (адсюль гэта дзіўнае слова ў назве стужкі), афарбаваны цёплым пачуццём. «Страшны» звонку Сільвер на самай справе аказваецца надзвычай добрай істотай. Усіх злоўленых кошак ён выпускае на волю, і гэты яго ўчынак назаўсёды застаецца ў памяці героя сімвалам чалавечнасці, у недахопе якой яму суджана пражыць да смяротнага канца. Ён адзінокі ў сумным, бязрадасным пакоі, у бальнічнай палаце. І няма для яго ўнутранай апоры, акрамя гэтага каталупа Сільвера.

Пра што гэта карціна? Яе сюжэт цяжка пераказаць словамі, як не перадаць імі душэўную арытмію чалавека. Яму бачацца цьмяныя вобразы мінулага і сапраўднага, узнікаюць асацыяцыі, у якіх перамешаны рэальнасць і выдумка. І, мяркую, якраз у гэтай неадэкватнасці ідэі і спосабаў яе выяўлення карціне не ўдаецца зачапіцца за галоўнае. Што ў сутнасці робіць чалавека інструментам у руках сляпога лёсу? Абставіны ці ён сам?

Тут вельмі да месца думка пра тое, што дабро і зло размеркаваны ў гэтым жыцці раўнамерна. Яно само ў патрэбны момант зробіць селекцыю, у залежнасці ад наяўнага побыту. Што ж тады застаецца мастацтву? Яшчэ ж В. Бялінскі заўважыў, што яно само ёсць «трэцяя рэальнасць», якая жыве па законах вышэйшага духу.

Ніколі раней у беларускім кіно не заўважалася такога моцнага імкнення кінематаграфістаў рэалізаваць сябе ва ўзятых проста з сённяшняга жыцця фактах і з'явах. Гэта — істотная змена напрамку ў псіхалогіі кінатворчасці. Ці ператворыцца яна ў аналітычны, філасофскі кінематограф? Сучаснаму гледачу да болю не хапае памяркоўнага, мудрага дыялога з экранам. Адыдуць у мінулае сённяшнія адкрыцці ў галіне забароненых тэм і сенсацыйна адмоўных персанажаў. Стануць гісторыяй новых часоў спрэчкі вакол Сталіна і яго акружэння. З чым застанецца наша кіно перад тварам вечнасці? Добра было Шэкспіру. Ён мог пісаць пра каханне, рэўнасць, скупасць, а атрымлівалася, што пісаў пра чалавека ва ўсе часы.

СЁННЯ, ЗВЯРТАЮЧЫСЯ да сучаснасці, кіно адчувае недахоп ведаў пра чалавека. У гады застою духоўная традыцыя нашай культуры калі не абарвалася, дык трывала прыкрылася магутнымі сілуэтамі перадавікоў, пераможцаў і г. д. Нездарма ж тыя віцебскія студэнты спыталіся пра акт хрышчэння ў «Болі». Не верылася, што фільм не дзеля цікаўнасці звярнуўся да гэтага таінства. Не гатовы прыняць, вядома, не бога, а тую духоўную чысціню, якая фарміравалася стагоддзямі ў адносінах да вобраза чалавека, адзінага і непаўторнага. Без апоры на гэтыя аналагі новаму погляду на рэальнасць не абысціся.

У гэтым сэнсе мне здаюцца цікавымі пошукі ў галіне экранізацыі літаратурнай класікі Вячаслава Нікіфарава. Прыгадаўшы гуманістычны патэнцыял яго «Бацькоў і дзяцей», можна сказаць, што ў апошняй па году выпуску стужцы, знятай па аповесці А. Пушкіна «Дуброўскі», рэжысёр імкнецца пабудаваць паралелі з сённяшнім светаадчуваннем. У цэнтры экранізацыі зусім не кананізаваныя школьным падручнікам тэмы сялянскага бунту і ролі дваранства напярэдадні снежаньскага паўстання. Рэжысёра-пастаноўшчыка хвалююць праблемы гістарычнай паўтаральнасці, калі барацьба за ўладу над людзьмі ў розныя перыяды ажыццяўляецца з дапамогай адных і тых жа метадаў — цераз прыніжэнне ў чалавеку чалавечнага, знішчэнне ў ім пачуцця годнасці, асобы. Звёўшы ў класічным сюжэце Дуброўскага і Траякурава, фільм у гэтай варыяцыі дае анатамічны зрэз двух розных ідэйных канцэпцый. За Траякуравым — самадурства, прыхаванае езуіцкімі прамовамі князя Вярэйскага, гэтага ідэолага сілы. За Дуброўскім — рамантычныя памкненні, падмацаваныя вальтэр'янскай літаратурай аб свабодзе чалавечага духу. Вось гэтага і не можа дараваць Дуброўскаму Траякураў. Чалавек пазбаўлены бацькоўскага маёнтка, даведзены да галечы, апошні ў родзе, яшчэ лічыць сябе свабодным! На гэтым полі разыгрываецца паядынак, у якім ідэалы Дуброўскага ўрэшце цярпяць крушэнне. Ідэалы, але не перакананні. Гэта праблема аказваецца актуальнай настолькі, наколькі ў самім фільме рэжысёр набывае ўпэўненасць у выбранай ім логіцы. Галоўная тэма фільма акрэсліваецца, на мой погляд, не ў масавых сцэнах і нават не ў лірычных эпізодах Дуброўскага з Машай або сялянамі. Ключавымі становяцца моманты з Траякуравым, асабліва ў кадрах за сталом, дзе на вачах ва ўсяго павятовага грамадства Дуброўскі атрымлівае маральную перамогу над праціўнікам.

Крушэнне надзей у маладым узросце, а Дуброўскі зусім малады, ва ўсе часы звязана з падзеннем грамадзянскага попыту на мараль і дабрачын-

насць. Не вытрымлівае выпрабавання каханне Машы. Вымушаны назаўсёды пакінуць мясціны свайго юнацтва галоўны герой. Задаволены сваёй бязмежнай уладай Траякураў. А нам застаецца павучальны ўрок, дадзены яшчэ Пушкіным, але ўбачаны сёння ў кантэксце новага разумення чалавека і чалавечнасці, а ўжо потым тых сфер яго існавання, якія выяўляюцца ў палітыцы, ідэалогіі, маралі.

Вядома, вестраму воку не хапае ў гэтай карціне дынамікі, таго размаху, з якім намаляваны многія эпізоды сакавітай пушкінскай мовай. Але сёння больш важна, што традыцыя высакародных адносін да чалавечых каштоўнасцей выбудоўваецца тут у гісторыка-духоўнай перспектыве, пакідаючы шанц для сучасніка самому рабіць высновы.

Як бачым, наша кіно выходзіць з застойнага тупіка. Шлях гэты пакуль што звілісты, з арыенцірам на абнаўленне свядомасці перш за ўсё кінематаграфістаў так званага сярэдняга пакалення. У большасці з іх няма гучных імёнаў, не паспелі яшчэ пагрэцца ў промнях усесаюзнай славы. Ці гаворыць гэта аб рэальным падыходзе гэтага пакалення да сталага вызначэння свайго часу і месца ў мастацтве? Або знойдзем тут смеласць, якая гарады бярэ? Хацелася б верыць у першае.

Акрамя фільмаў В. Рыбарава, М. Пташука, С. Лук'янчыкава, В. Нікіфарава, А. Карпава, Ю. Елхава, А. Алая, прайшлі або ідуць на экранах фільмы Я. Маркоўскага «Філіял», «Не разумею» Н. Шылок, знята з паліцы народная камедыя ў стылі лубка У. Бычкова «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». У гэтай канкрэтнай праграме, а не ў моўных дуэлях, яскрава бачыцца працэс, які адбываецца ў нашым кіно.

Перабудова, зразумела, унесла свае карэктывы ў мастацкія вобразы, абвастрыла прафесійны позірк, узбагаціла творчую палітру смелымі штрыхамі. Хацелася б не пераацаніць звязаных з ёй надзей і пажадаць фільмам не заставацца на ўзроўні фіксацыі жыццёвага факта, заяўкі на тэму, а не падзей ў мастацтве.

Час паставіць кропку ў прагнозе бліжэйшага будучага беларускага кіно. Пакуль зразумела адно: канцэпцыя кінапрацэсу складваецца не ў тэорыі. Яна можа толькі пашкодзіць натуральнаму руху падзей. А рух ужо заўважаецца — у відавочным умяшанні рэальнасці ў шэры да гэтай пары «пейзаж» кінакадра. Не згубіць бы гэтыя свежыя фарбы ў прыкрых дробязях кінематаграфічнага побыту! З іх, мяркую, пачынаецца ўспрыманне жыцця і чалавека ў ім, ва ўсім багацці пачуццяў і колеравай гамы.



● Эпізод з фільма В. Рыбарава «Мяне завуць Арлекіна».

● Фільм Я. Маркоўскага «Філіял» сёлета заваяваў спецыяльны прыз за дэбют у камедыйным жанры.

● У ролі Дуброўскага ў фільме В. Нікіфарава зняўся артыст Міхаіл Яфрэмаў.

● Адну з галоўных роляў у фільме М. Пташука «Наш бранепоезд» выконвае народны артыст СССР Міхаіл Ульянаў.

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА.
Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# БЛІЖЭЙ ДА



Пусё ж наш час — час неардынарных, смелых рашэнняў. Доказ таму — сітуацыя з конкурсам на помнік Францішку Скарыне ў Мінску. На пачатку гэтага года па ініцыятыве гаркома партыі сабраліся скульптары, паездзілі па горадзе, выбралі месца — каля Акадэміі навук БССР. Але, нягледзячы на сціплыя тэрміны (у верасні ж наступнага года — юбілей), праекты не паступалі. Патрэбен быў творчы імпульс, далучэнне да Скарынавай эпохі, знаёмства з мясцінамі, дзе наш першадрукар вучыўся, дзе выдаў першую беларускую кніжку. Гэта значыць — з Кракавам і Прагай... Раней як яно было б: з год планавалі б, узгаднялі, утрасалі. А тут — селі ў аўтобус і паехалі. Без папярэдняга ўключэння ў гадавы план, па індывідуальнаму маршруту. Праўда, перад ад'ездам у сакратара гаркома Пятра Кузьміча Краўчанкі, які ўзначаліў групу, было багата клопатаў. Часам здавалася, што нетрадыцыйная паездка вось-вось сарвецца. Але дапамаглі (пры «абмене» рублёў на кроны) мінскія прадпрыемствы. Дапамаглі чэшскія і польскія сябры — асабліва гандлёвы прадстаўнік ЧССР у БССР Й. Гласны. Нават строгія работнікі гарадскога аддзела віз і рэгістрацыі, якім давялося тэрмінова афармляць дакументы,— і тыя праявілі спагадлівасць. Усіх згуртавала магічнае слова: Скарына.

І вось, наперакор скептыкам, паездка адбылася. Пачалася яна 30 ліпеня на плошчы імя Леніна і завяршылася там жа 9 жніўня. У складзе групы быў, як выказалася кракаўская газета, «цвет беларускай мастацкай інтэлігенцыі»: першы сакратар праўлення Саюза мастакоў БССР С. Гарбунова, лаўрэат Ленінскай прэміі В. Занковіч, вядомы графік і грамадскі дзеяч, рэктар Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута В. Шаранговіч, вядомы скульптар А. Шатэрнік, іншыя таленавітыя прадстаўнікі сярэдняга і малодшага пакалення. Былі і гісторыкі, літаратары, кінематаграфісты, што здымалі сюжэт пра Скарыну,— усяго сорак адзін чалавек. Праехалі мы разам, здружыўшыся, каля трох з паловай тысяч кіламетраў.

А вось беглыя нататкі, зробленыя мною ў дарозе.



## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ, АБО СПРЭЧКІ ПРА ЮБІЛЯРА

Ледзь толькі наш аўтобус выехаў з Мінска на Брэсцкае шасэ, як пачалася дыскусія: ехаў беларускі першадрукар па гэтым прыкладна шляху ці не. І прыйшлі да вываду, што калі прама з Полацка, калі не праз Вільню, то — мог. Прынамсі, на канікулы з Кракава.

Узяўшы ў рукі мікрафон, на змену з Барысам Сачанкам расказваем прысутным пра кракаўскі і пражскі перыяды ў жыцці Скарыны. Гаворка засяроджваецца на апошніх гадах жыцця вялікага палачаніна, калі ён працаваў садоўнікам-батанікам у чэшскага караля Фердынанда. Барыс Сачанка знаёміць нас з апошнімі публікацыямі на Захадзе, з якіх вынікае, што быў той сад не каля цяперашняга галоўпаштамта, як гэта лічылася раней, а каля летняга палаца каралевы Ганны, унучкі Соф'і Гальшанскай і Уладзіслава Ягайлы. І тут нас прыемна здзівіў кіраўнік групы, які аргументавана пачаў даводзіць (новая для скарыназнаўства думка), што каралева Ганна, жанчына неардынарная і патрыётка, магла, асабліва калі ўлічыць яе генетычныя сувязі з беларускімі землямі, аказаць рашаючы ўплыў на вяртанне Скарыны ў Прагу каля 1535 года.

Не менш спрэчак выклікала пытанне, калі і дзе памёр Скарына. Адны даказвалі, што гэта адбылося паміж 21 ліпеня 1539 года, калі ён атрымаў разлік у караля, і 2 чэрвеня 1541 года, калі чэшскі храніст В. Гаек запісаў, што пры пажары на пражскім крамлі, у доме ксяндза Яна з Пухава, загінуў «Францішак, сын колішняга доктара Руса». Другія пярэчылі, што слова «колішні» (па-чэшску «некдысь») можна тлумачыць па-рознаму: і як доказ, што Скарына ўжо нябожчык, і як сведчанне, што яго на той момант не было ў Празе (прынамсі, так лічыць чэшская даследчыца Францішка Сокалава). Упаўне магло стацца, што пасля звальнення з каралеўскага сада наш вялікі зямляк, пакінуўшы меншага сына ў Празе, у доме свайго прыяцеля Яна з Пухава, дзе была кухарка Магдалена, адправіўся з другім сынам, Сімяонам, шукаць работу. Куды? Ды хаця б у Крумлаў, сталіцу паўднёвай Чэхіі, дзе таксама былі сады і дзе яшчэ ў 1577 годзе Сімяон Скарына працаваў... садоўнікам. Бо як ён там апынуўся? Бо чаму ж калі беларускі першадрукар памёр да 1541 года, ён, Сімяон, толькі ў 1552 годзе звярнуўся да караля Фердынанда з просьбай вярнуць яму бацькаву маёмасць?! Пытанні, пытанні... Ці знойдзем мы на іх адказы ў час гэтай вандроўкі?

І тут мне прыгадалася, як з тыдзень таму назад нечакана з'явілася надзея знайсці ў Чэхіі магілу Скарыны (а разам з тым і ўдакладніць гады яго жыцця). Адзін шаноўны мовазнавец, даведаўшыся пра наша падарожжа, паведаміў, што ў адным з чэшскіх касцёлаў Алесь Адамовіч бачыў у бабінцы яго помнік. Праўда, мяне крыху здзівіла, чаму б гэта вядомы літаратуразнавец не сказаў пра такую «знаходку веку» нікому са старажытнікаў. Але ж — чаго не бывае... Тэрмінова пачаў шукаць сляды Алеся Адамовіча. Жонка адказала, што ён адпачывае ў Жалезнаводску, але зрэдку звоніць дамоў. Тут жа папрасію задаць яму сакраментальнае пытанне: дзе? Тут жа стала мроіцца: можа ў Крумлаве? У тым самым Крумлаве, дзе Юрый Марухін здымае цяпер фільм па Караткевічавай драме «Маці ўрагану»? Званю Юрыю Аляксандравічу, і ён дае мне каардынаты крумлаўскага гісторыка Павала Саўкі.

Ноччу мне нават прысніўся той помнік-бюст: стаіць справа ад увахода, з надпісам, даволі выразным.

А назаўтра наступіла расчараванне: Адамовіч бачыў Скарыну не ў Чэхіі, а ў Італіі, у Падуанскім універсітэце, і не помнік, а партрэт...

— Глядзі, каб твой сон не аказаўся прарочы,— выслухаўшы ўсю гісторыю, ні то іранізуе, ні то заахвочвае да далейшых пошукаў Васіль Шаранговіч, з якім мы сядзім поплеч.

У гаворцы непрыкметна ляцеў час. Раннім абедам даехалі да граніцы, хутка прайшлі фармальнасці. І вось ужо за акном Польшча.

Пад вечар, уладкаваўшыся ў гасцініцы, ідзём аглядаць Варшаву, па-нядзельнаму ажыўленую, але адначасна нейкую насцярожаную. Бельведэр, Лазенкі, помнікі нашым землякам Міцкевічу, Манюшку, Дзяржынскаму, конная статуя Юзафа Панятоўскага, якая да першай вайны стаяла ў Гомелі, катэдральны касцёл, у якім уразіў заклік: «Цвярозасць — гэта свабода», барочныя камянічкі Старога мяста...

Па дарозе, перакладаючы словы гіда з польскай на беларускую мову, часам устаўляю і свае «тры грошы». Вось тут, на Свентакшыскай, да вайны знаходзілася Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве, якое ладзіла літаратурныя вечары М. Танка. Вось тут была рэдакцыя, у якой працаваў Вінцэсь Каратынскі (калі яго, сына Бруна, таксама паэта, папракалі: «Які ж ты беларус, калі нарадзіўся ў Варшаве», той адбіваўся: «Часамі здараецца, што чалавек нараджаецца ў стайні, але ж ад гэтага ён не становіцца канём»). Прыгадваю, што тут, непадалёку, у 1925 г. адбылася канспіратыўная сустрэча Янкі Купалы з Браніславам Тарашкевічам.

Вечарам з Барысам Сачанкам доўга звонім нашым прыяцелям і знаёмым Аляксандры Бэргман, Аляксандру Баршчэўскаму, Юрыю Туронку. Але ніхто не адказвае: лета, «сэзон огурковы».

## ДЗЕНЬ ДРУГІ, АБО АДСТУПЛЕННЕ Ў ЭКАНОМІКУ



Наш далейшы шлях на Прагу вёў праз Чэнстахову з яе славутым і багатым кляштарам паўлінаў і паломнікамі з усёй краіны, Аполе і Клодзка. За акном — вузенькія загончыкі прыватных гаспадарак. Палі даволі добра дагледжаны. Выходзіць, што яны тут даўно ў асабістай «арэндзе». Дык чаму ж тады ў Польшчы хранічна не хапае прадуктаў харчавання? З заўтрашняга дня, кажа наш гід, у краіне зноў павышаюцца цэны на мяса і ўсё іншае. На колькі? Працэнтаў, відаць, на восемдзесят. Але дакладна ніхто не ведае, бо цэны будуць рыначныя, залежаць ад попыту. А там — зноў даражэй стануць прамысловыя тавары, зноў рабочыя запатрабуюць павышэння зарплаты. Новы віток інфляцыі...

На нейкі час усе — і скульптары, і літаратары — ператвараюцца ў эканамістаў, сацыёлагаў, палітыкаў. Дзе ж прычыны? Дзе ж выхад? Гід звяртае нашу ўвагу, што на палях — нягледзячы на панядзелак — зусім бязлюдна. У вёсцы амаль няма моладзі. Сельская гаспадарка стала мала аплатнай, а то і стратнай. Пратэстуючы супраць гэтага, сяляне пачалі зліваць у канавы малако, прытрымліваць бычкоў і кабанчыкаў. А з другога боку — забастоўкі, якія абяссілілі краіну. Усе хочуць добра жыць, але многія забываюць, што дзеля гэтага трэба яшчэ і добра працаваць... Спакваля мы прыходзім да перакапання, што ў сучасных умовах выхад — у дастаткова буйных сельскіх гаспадарках (грамадскіх

# СКАРЫНЫ

ці прыватных). Бо дробная пракорміць толькі сябе.

У тым, што гэта так, мы пераканаліся, пераехаўшы польска-чэшскую граніцу. Зніклі загончыкі. З'явіліся вялізныя палі, вельмі старанна дагледжаныя. Паабапал гладзенькіх дарог — фруктовыя сады. Акуратныя мураваныя вёсачкі, якія не адрозніш ад горада. Ніхто тут не мітынгуе, не бастуе. Таму і вынікі ёсць: у магазінах — без чаргі самыя розныя гатункі каўбасы, шынкі, паляндвіцы. Купляй — і спажывай! Толькі за межы краіны не маеш права ўсё гэта вывозіць.

Пад'язджаючы да Прагі, Барыс Сачанка ўзяў у рукі мікрафон і прыгадаў, што гэты горад здаўна стаў Меккай для беларусаў, адным з буйных цэнтраў нашай эміграцыі. 6 жніўня 1517 года ў Празе выйшла ў свет першая беларуская друкаваная кніга — «Псалтыр». Затым, на працягу трох гадоў, Скарына «тиснул» тут яшчэ 22 кнігі беларускага перакладу Бібліі. У дваццатыя гады ўжо нашага стагоддзя сюды пацягнулася прагная да ведаў моладзь з Заходняй Беларусі. Тут вучыўся Уладзімір Жылка. Тут выдаваліся часопісы «Перавясла» (вось толькі першага яго нумара не ўдалося нідзе адшукаць), «Іскры Скарыны». Урэшце, у Празе жыў і памёр наш выдатны спявак Міхал Забэйда-Суміцкі, на магілу якога нам абавязкова трэба схадзіць.

Са свайго боку дадаю, што побыт беларускай эміграцыі ў Празе каларытна апісаў у сваім рамане «Роджаныя пад Сатурнам» Віктар Вольтар, які стала жыў і памёр у Латвіі. Рукапіс гэтага рамана захоўваецца цяпер у вільнюскай акадэмічнай бібліятэцы, і яго абавязкова трэба выдаць.

А яшчэ прыгадваю, што ў Чэхаславакіі тройчы пабываў Янка Купала. Першы раз — з Ц. Гартным і М. Чаротам у 1925 годзе. Другі раз — у 1927 годзе, калі разам з жонкай лячыўся ў Карлавых Варах. І трэці раз — у 1935 годзе, разам з дэлегацыяй савецкіх пісьменнікаў. Жыў ён тады, па ўспамінах Г. Караваевай, у атэлі «Амбасадар».

Вечарам, прыехаўшы ў Прагу, нейкі час блукалі, шукаючы свой атэль. І тут нам на дапамогу зноў прыйшоў Й. Гласны, які пасля тэлефоннага званка паспяшаўся нам насустрач. Пасялілі нас у «Гольфе», дзе ўсё сведчыла аб чэшскай акуратнасці.

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ, АБО ЗЛАТА ПРАГА

Нягледзячы на спорны дождж, ідзём глядзець «сэрца» Прагі — замак на Градчанах, дзе жылі чэшскія каралі, дзе рэзідуе прэзідэнт. Вялікае уражанне робіць «скарбніца», дзе захоўваюцца рэліквіі дзівоснай прыгажосці, і кафедральны касцёл святога Віта са шматкаляровымі вітражамі і надмагіллямі дзяржаўных мужоў. Камусьці ў бюсце аднаго з іх памроіўся Скарына. Але беларускі першадрукар, безумоўна, пахаваны недзе ў больш «дэмакратычным» месцы. Аднак усё гэта — і Градчанскі крэмль, і гатычныя капліцы катэдры, і вузенькую Злату вулачку — ён, безумоўна, бачыў. Асмелюся паўтарыць такое ўслед за эсэ Уладзіміра Караткевіча «Вера ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі, сын Прагі». Колішнюю выразку з «ЛіМа» я ўзяў з сабой і цяпер зачытваю скульптарам урыўкі «для натхнення».

— А чаму б у Празе не ўвекавечыць і памяць Караткевіча, калі ён тут не раз бываў і напісаў такое?! — прапаную слухачы.

— Усяму свой чарод. Найперш — Скарына. Заўтра пойдзем дамаўляцца, каб ушанаваць тут ягоную памяць,— адказвае Пётр Кузьміч.

Вечарам стараюся дазваніцца да Крумлава, да Павала Саўкі. Але ягоны тэлефон маўчыць. А ехаць у Крумлаў усляпую няма сэнсу. Ды і паліва ў шаферў не хопіць.

Затое ўдалося дазваніцца да даўняга сябра беларускай культуры Міласлава Зімы, а таксама Надзеі Кастэцкай, якая апекавалася на схіле гадоў Забэйдам-Суміцкім і ведае, дзе яго магіла.

## ДЗЕНЬ ЧАЦВЁРТЫ, АБО Ў СЦЕНАХ, ШТО ПАМЯТАЮЦЬ СКАРЫНУ

З раніцы аглядаем рэнесансны палац каралевы Ганны, які цяпер у рыштаваннях рэстаўратараў, і сад паабапал яго. У ім мноства старых дрэў. Некаторыя з іх маглі быць пасаджаны Скарынай. Скульптары знаходзяць некалькі пляцовак, дзе вельмі добра глядзеўся б ягоны бюст або памятны знак. Ці нават помнік: Скарына як садоўнік ці як медык, што робіць лекі з вырашчаных зёлак. А чаму б і не?!

Пасля разбіваемся на дзве групы. Меншая ідзе ў гарадскі камітэт партыі, большая — у Карлаў універсітэт, Каралінум, які месціцца ў тым жа гмаху больш як шэсцьсот гадоў. У вялікай аўлі тут вёў дыспуты Ян Гус. І застаецца ў ёй усё такім, якім было ў эпоху Скарыны.

Кіраўніцтва універсітэта прымае нас у малой аўлі, упрыгожанай партрэтамі рэктараў-папярэднікаў. Прарэктар, прафесар Кліка сардэчна вітае нас. У адказ расказваю, што нас сюды прывяло. Вядома, ніякіх доказаў, што Скарына тут вучыўся, у нас няма, хаця паміж 1506 і 1512 гадамі ён павінен быў недзе вывучаць медыцыну, каб так бліскуча здаць экзамены на яе доктара ў Падуі. А паколькі медыцынскі факультэт у тыя часы месціўся якраз тут, у Каралінуме, то... Праўда, усё гэта вельмі гіпатэтычна. Затое ўжо зусім рэальны факт, што Скарына тут бываў у 1517—1519 гадах. Як медык не мог не прыходзіць да медыкаў.

— Беларускі першадрукар выдаваў свае кнігі недзе тут — «в Старом месте пражском»,— працягвае гаворку прафесар універсітэта, нястомны прапагандыст нашай літаратуры Вацлаў Жыдліцкі, які перапыніў адпачынак, каб прыняць удзел у сустрэчы.— Шкада, што мы не ведаем, дзе гэта было канкрэтна. Але напэўна — недалёка адсюль. Таму мемарыяльная дошка на Каралінуме будзе вельмі дарэчы.

Сустрэча завяршаецца абменам падарункамі і сувенірамі. Мы ўручаем Скарынаў энцыклапедычны даведнік і скульптурную выяву першадрукара. Нам — памятныя знакі універсітэта.

Потым нас павялі па музейным комплексе. У адной з залаў уразіў партрэт Фердынанда Габсбурга — таго самага, што прымаў і звальняў з работы Скарыну. Змрочны, аскетычны твар дэспата. У адрозненне ад каралевы Ганны, славянкі, чэхаў, кажуць, не любіў, чэшскай мовы не паважаў. Што яму быў нейкі там «русін» з Полацка...

**А д а м  МАЛЬДЗІС**

Ля партрэта Фердынанда да нас далучыліся члены групы, якія былі на прыёме ў гаркоме партыі. Яны прынеслі добрыя навіны: пытанне пра мемарыяльную дошку Скарыны ў прынцыпе вырашана, ёсць таксама згода, каб увекавечыць памяць Купалы на атэлі «Амбасадар». Што ж датычыцца мемарыяльнага знака ля палаца Ганны, то патрэбны яшчэ дадатковыя ўзгадненні.

Вацлаў Жыдліцкі праводзіць нас да аўтобуса. На Старамесцкай плошчы ўсе мы спыняемся, каб паглядзець выхад фігурак, якім суправаджаецца бой курантаў на ратушнай вежы. І нашы кінаработнікі бяруць у Жыдліцкага інтэрв'ю: што для яго значыць Скарына, і што — беларусы для славянскай супольнасці.

Пасля абеду разам з Надзеяй Кастэцкай і Мілаславам Зімай едзем на Альшанскія могілкі, каб ускласці кветкі на магілу Міхала Забэйды-Суміцкага. На яго сціплым помніку — лаканічны надпіс: «Жыў песняй і песняй даваў людзям радасць». Непадалёку знаходзім магілу беларускага фалькларыста прафесара Карлава універсітэта Я. Ляцкага, рускага пісьменніка А Аверчанкі, кіраўнікоў БНР П. Крачэўскага і В. Захаркі.

Па дарозе назад прафесар Зіма на добрай беларускай мове расказвае пра славутасці Прагі, беларуска-чэшскія кантакты. Пані Кастэцкая перадае апошняе жаданне Забэйды-Суміцкага: быць пахаваным у роднай зямлі. І выканаць гэтую волю няцяжка, бо на Альшанскіх могілках — толькі урна з попелам.

## ДЗЕНЬ ПЯТЫ, АБО Ў СЛАВЯНСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Першую палову дня правялі мы ў Клементынуме — асветніцкім цэнтры, дзе знаходзіцца славутая Славянская бібліятэка. Намеснік дырэктара Эва Велінская і доктар Павал Паглей павялі нас у сховішча, да беларускіх фондаў (па традыцыі яны захоўваюцца на літару К.— як крывіцкія), якія аказаліся ў ідэальным парадку (гадавікі «ЛіМа» апраўлены нават з залатым цісненнем).

Сярод іншых рарытэтаў знайшоўся і адсутны ў савецкіх бібліятэках першы нумар за 1923 год гектаграфаванага «Перавясла» — «часопісі беларускага паступовага студэнцтва». А ў ім, сярод твораў Л. Родзевіча, І. Дварчаніна і іншых паэтаў, аказаўся невядомы раней артыкул У. Жылкі «Да 400-х угодкаў друку на Беларусі», дзе прапануецца пачаць збор сродкаў на помнік Скарыне ў Вільні.

Пры развітанні пытаемся ў доктара Паглея, як усё гэта ўдалося зберагчы ў вайну. І ён адказвае, што ў 1945 годзе ў бібліятэцы аказалася нават на 30 тысяч тамоў болей. Справа ў тым, што немцы хацелі тут стварыць цэнтр па ўсходніх даследаваннях і звезлі сюды кнігі з іншых краін, у тым ліку і з Беларусі, з Мінска. У адпаведнасці са штэмпелямі ўсё прывезенае было вернута законным уладальнікам.



**Н а  з д ы м к у:** старая Прага.
Фота **Віктара МІКАЛАЕВА.**

А першым пасляваенным чытачом Славянскай бібліятэкі быў савецкі воін, які папрасіў вершы Пушкіна.

Пасля абеду за Сачанкам і мной заехаў на машыне ў «Гольф» Вацлаў Жыдліцкі з жонкай Марцэляй, і мы ўтульна пасядзелі ў паўзмроку кавярні пад назвай «У павука» (даваць назвы чэхі мастакі). За сталом успамінаем добрым словам Уладзіміра Караткевіча, які двойчы прыязджаў у Прагу і асабліва паважаў «швейкаўскую» кавярню «У каліха». Потым Сачанка запрапанаваў стварыць у Празе арганізацыю Таварыства беларускай мовы, і Жыдліцкі ахвотна падтрымаў ідэю: ёсць у яго колькі студэнтаў, ды яшчэ доктар Зіма, Францішка Сокалава, даследчыца Скарыны (шкада, што яна якраз хварэе). Можа яшчэ хто з дзяцей эмігрантаў акажацца.

Жыдліцкі даў нам сённяшні нумар газеты «Рудэ право», дзе ёсць колькі слоў і пра наш прыезд, і пра Скарыну. І гэта добра. Бо не сказаць, каб чэхі дужа ведалі, што менавіта ў іх сталіцы было распачата беларускае кнігадрукаванне...

Вечарам едзем паглядзець у асвятленні пражскі крэмль. Скульптарам гэта трэба: пабачыць колеры, цені, адчуць настрой. На славутым Карлавым мосце па вечарах тут — народныя гулянні. Моладзь спявае, танцуе народныя танцы, узаемна частуецца. Але п'яных няма. Хуліганаў таксама. Уплывае агульная культурная атмасфера, шматвяковыя традыцыі.

## ДЗЕНЬ ШОСТЫ, АБО ДАРОЖНЫЯ КУРСЫ

Апошні раз праязджаем па вуліцах Прагі. Дзівосны гэта горад, дзе па тратуарах бегаюць зайцы і вавёркі, дзе ніхто не ходзіць па газонах і не кідае абы-дзе смецця, а ў тэлефонных будках спакойна ляжаць тэлефонныя кніжкі.

Па аўтастрадзе на Брно пачынаем праз мікрафон падводзіць вынікі «пражскаму этапу». Наіўна было б думаць, што мы наскокам знойдзем нейкія невядомыя дакументы або магілу Скарыны. Да нас на Чэхаславацкі прэзідэнцкі фонд выходзіў, просячы дапамогі ў росшуках скарынінскіх дакументаў, Гомельскі дзяржаўны універсітэт, якому нядаўна прысвоена імя першадрукара (у адказ атрымана шэсць ксеракопій з пераважна вядомымі тэкстамі). Да нас у Празе капаўся Сцяпан Александровіч. Да нас тут гадамі шчыраваў над «Скарыніянай» прафесар Флароўскі. Праўда, яны не ведалі яшчэ дакументаў аб прабыванні Сімяона Скарыны ў Крумлаве. А гэта — ужо новая нітка, якую давядзецца прадоўжыць праз перапіску.

Гаворым таксама, што многія матэрыялы пра Скарыну (да прыкладу, згубленая п'еса М. Грамыкі) могуць быць у архіве беларускай эміграцыі, які захоўваўся ў Славянскай бібліятэцы, а дзесьці ў 1947 годзе разам з фондамі рускай эміграцыі («фондам Мілюкова») быў перададзены ў Маскву і там засакрэчаны. Учора мы пыталі ў доктара Паглея, ці магло быць у тых паперах, але ён пацінуў плячамі: шукайце ў сябе...

Спакваля нашы «дарожныя курсы»ператвараюцца ў «выязное» пасяджэнне камісіі «Вяртанне» Беларускага фонду культуры. Кіраўнік групы пералічвае, што было вывезена ў вайну з мінскага і іншых музеяў: нумізматычная калекцыя ў 40 тысяч манет, слуцкія паясы, карціны Сальватора Розы. Скульптары называюць іншыя страты. Пасля вайны частка з гэтага была вернута. Але некаторыя эшалоны з выяўленымі скарбамі былі скіраваны не ў Мінск, а ў гарады Расіі.

Пад вечар, калі мы збольшага агледзелі Брно і ў Цешыне пераехалі чэшска-польскую граніцу, у нашых «курсах» стала пераважаць кракаўская тэматыка. А гэта — і вучоба ў Ягелонскім універсітэце Францішка Скарыны, і выданне ў друкарні Анчыца «Дудкі беларускай» і «Траляляначкі» Францішка Багушэвіча, і вучоба Цёткі, і апошні прытулак Алеся Гаруна.

У Кракаве нас пасялілі ў студэнцкім інтэрнаце, які на летнія вакацыі ператвараецца ў нібы атэль пад гучнай назвай «Меркурый». Пасля нашага званка сюды ж прыехаў прафесар Здзіслаў Нядзеля, родам з Глыбоччыны.



Пачаліся ўспаміны пра Уладзіміра Караткевіча, які жыў недзе з месяц на яго кватэры ў 1971 годзе. І — разважанні пра тое, што ў Ягелонскім універсітэце патрэбны курс беларусікі.

## ДЗЕНЬ СЁМЫ, АБО ЯКІМ БАЧЫЎ СКАРЫНА КРАКАЎ!

Здзіслаў Нядзеля паказаў нам тыя помнікі архітэктуры, якія памятаюць Скарыну. Пачалі мы ад Сукенніц, гандлёвых радоў на Рыначнай плошчы. Першы паверх іх, у рэнесансным стылі, быў пабудаваны ў XIV—XV стагоддзях. У часы Скарыны тут гандлявалі — сукном, футрамі, скурамі — купцы.

— Сярод іх мог бываць і бацька Францішка Лукаш! — рэзонна дапусціў такую думку Барыс Сачанка.

Потым былі сцены Калегіум маюс — самай старадаўняй часткі Ягелонскага універсітэта, фундаванага на грошы, што паступалі Ягелонам і з беларускіх зямель. Усё тут у дворыку застаецца ў спрадвечным выглядзе. А яшчэ агледзелі Фларыянскую вежу і Барбакан. І Марыяцкі касцёл з разным алтаром Віта Ствоша, які напэўна ж бачылі вочы Скарыны.

На хвілінку зайшлі ў сутарэнне, дзе разгорнута выстаўка пра гісторыю «Салідарнасці». Ёсць там дасціпнае, ёсць дзесьці кранальнае, але ёсць і абразлівае, антысавецкае. Мноства фатаграфій Леха Валенсы. Пра яго ж спяваюць бадзёрыя песенькі самадзейныя ансамблі на Рыначнай плошчы. Але бадзёрасці на тварах кракавян малавата: павышэнне цэн, новая хваля забастовак, цяжкасці з фарміраваннем урада. Зайшлі ў мясны магазін і пабачылі толькі курыную каўбасу па дзесяць тысяч злотых (пад дваццаць рублёў) за кілаграм... Відаць, празмернасць у плюралізме таксама шкодзіць, як і яго недахоп.

Надвячоркам агледзелі яшчэ Вавельскую катэдру, у падзямеллях якой разам пахаваны каралі, героі і паэты. З нашых землякоў — Касцюшка і Міцкевіч. А яшчэ — Сонька Гальшанская, маці некалькіх каралеускіх дынастый. Уверсе яе капліцы — белы Ярылаў крыж на чырвоным фоне.

Узнімаючыся на вежу, дзе вісіць зыгмунтаўскі звон, і чапляючыся рукамі за тоўстыя драўляныя перакрыцці, колеру старога мёду, раптам падумаў, што іх цяпло і шурпатасць маглі адчуваць і далоні Скарыны. Незабыўнае пачуццё далучанасці да спрадвечнага!

## ДЗЕНЬ ВОСЬМЫ, АБО БЕЛАРУСКІЯ ПАМЯТКІ Ў МУЗЕЯХ

Па дарозе ў музей Чартарыскіх на колькі мінут заехалі на рэчавы рынак. І, здаецца, зразумелі адну з прычын польскіх праблем. На вялізнай плошчы — тысячы людзей, якія прадаюць або перапрадаюць з дзесятых рук усё, што душа пажадае,— ад савецкіх цацак да японскіх відэакасет. Духоўны «плюралізм» даведзены да мяжы: побач ляжаць візарункі папы рымскага і нумары «Плейбоя» з сумніцельнымі малюнкамі. І ўсё гэта — за вялікія грошы. І — кожны дзень.

А колькі ўсе яны — маладыя хлопцы з бюстгальтарамі ў руках і дзябёлыя жанчыны з мужчынскімі міні-штонікамі — маглі б стварыць матэрыяльных даброт!

...Над варотамі каля ўваходу ў палац Чартарыскіх — той жа Ярылаў крыж на пагоні. І ў гэтым нічога дзіўнага. Род Чартарыскіх гаспадарыў у Падняпроўі — Шклове, Оршы, Дуброўне — яшчэ ў XVIII стагоддзі. Адсюль былі вывезены многія каштоўнасці, якія сёння экспануюцца ў музеі, захоўваюцца ў бібліятэцы і архіве.

Доўга стаім перад «Дамай з ласічкай» Леанарда да Вінчы, перад шпалерамі і маёлікай часоў Скарыны. Крыху — перад партрэтам знакамітага лацінскага паэта і філосафа Мацея Сарбеўскага, які на пачатку XVII ст. настаўнічаў у Полацку.

У карціннай галерэі, што на другім паверсе Сукенніц, хацелася яшчэ раз пабачыць палатно Яна Матэйкі «Бітва пад Грунвальдам», каб пераканацца, што там сапраўды няма «беларускіх колераў». Аднак зала з карцінай аказалася зачыненай. Затое ў іншых залах парадаваліся мы, гледзячы на «Пахаванне Гедыміна» пэндзля Казіміра Альхімовіча, які родам з Гродзеншчыны, і партрэт Міхала Клеафаса Агінскага, кампазітара і ўладальніка Залесся пад Смаргонямі, намаляваны Ю. Грасі.

Потым былі яшчэ каралеўскія пакоі на Вавельскім замку, дзе стагоддзямі фармавалася і наша гісторыя. Экскурсавод звяртае ўвагу на выразаныя з дрэва «галовы» на столі. Для іх пазіравалі радавыя гараджане, студэнты універсітэта.

— Сярод іх мог быць, проша паньства, і ваш Скарына. А чаму б і не?

І мы, уважліва агледзеўшы ўсе трыццаць галоў (раней іх было болей), прыходзім да вываду, што калі і пазіраваў, то толькі для вунь той — другой злева ў першым радзе.

Закончылі мы нядзельны дзень на Ракавіцкіх могілках, дзе пахаваны Алесь Гарун. Выкладчыка Ягелонскага універсітэта А. Латышонка, па ініцыятыве якога быў летась устаноўлены помнік, у Кракаве якраз не аказалася, таму хаця сторож і папярэджваў: «Усляпую тут можна шукаць тыднямі», усё ж рашылі абысці хаця б найбольш старую частку велізарнага цвінтарышча (дзесьці тут пахаваны і Адам Кіркор, які чытаў у Кракаве лекцыі па беларускай літаратуры). Але, кіруючыся нейкай інтуіцыяй, збочылі ў адносна новыя рады і знайшлі помнік, на якім побач з прозвішчам, імем і датамі жыцця выбіты прарочыя радкі з Гаруновага верша:

**І Беларусь-Маці долю агледзіць,**
**Устане, як Лазар з руін забыцця.**

На магіле стаяць свежыя кветкі і ляжаць, загорнутыя ў цэлафан, кніжкі Сяргея Панізніка.

Ігар Краўчанка гаворыць, што помніку яўна не стае барэльефа з выявай паэта, і бярэцца зрабіць яго на грамадскіх пачатках. А Барысу Сачанку прыгадалася недзе вычытанае, што пры Гаруне перад смерцю была торбачка з рукапісамі. То можа яе не выкінулі, можа яна дзе тут засталася ў прыватных руках.

## ДЗЕНЬ ДЗЕВЯТЫ, АБО АФІЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ

У Ягелонскім універсітэце ўсю нашу групу прыняў прарэктар прафесар Ежы Выразумскі. Ён цалкам згодзен з намі, што дошка ў гонар Скарыны павінна быць. Толькі дзе? У Калегіум маюс гістарычныя сцены павінны захоўвацца ў ранейшым выглядзе. Відаць, у Калегіум новум, у якім ужо багата мемарыяльных знакаў. А ў Калегіум маюс можа стаяць толькі нешта «рухомае» — скажам, бюст... Мы гаворым, што варта было б нашым універсітэтам абменьвацца студэнтамі. А яшчэ — у Кракаве ўстанавіць стыпендыю імя Скарыны (для тых, хто займецца беларусікай), а ў Мінску — імя Міцкевіча (для лепшых паланістаў).

Выйшаўшы з залы, скульптары зацікаўлена аглядаюць прасценкі ў Калегіум новум і прыходзяць да высновы, што найлепей Скарына глядзеўся б побач з Міцкевічам. Потым усе ідзём ва універсітэцкі музей. У скарбцы яго захоўваюцца скіпетры і залатыя ланцуг, якія выкарыстоўваюцца на выпускных урачыстасцях. Час, калі яны выраблены, дазваляе меркаваць, што Скарына бачыў іх, атрымоўваючы ў 1506 годзе званне бакалаўра.

Афіцыйныя размовы былі працягнуты ў гарадскім камітэце ПАРП, дзе з намі гутарыў яго сакратар Ежы Гаўснер. Ён ухваліў нашы прапановы ўстанавіць і дошку, і бюст. Пагадзіўся, што патрэбны які памятны знак і на будынку па вуліцы Кананічнай, дзе ў 1891 годзе ўбачыла свет Багушэвічава «Дудка беларуская».

Карыстаючыся прысутнасцю журналіста з «Газэты Краковскей» Леслава Петэрса, расказваю на сустрэчы гісторыю з торбачкай Гаруна, а таксама з рукапісамі Багушэвіча, якія маглі застацца

ў хатнім архіве, невядомым сёння, этнографа Ісідара Каперніцкага. Можа, адгукнецца хто з чытачоў?!

## ДЗЕНЬ ДЗЕСЯТЫ, АБО ТАМ, ДЗЕ ЗАКЛЮЧАЛАСЯ УНІЯ

Па дарозе з Кракава ў Люблін чытаем у аўтобусе ўчарашнія і сённяшнія газеты. «Эхо Кракова» змясціла артыкул пад сенсацыйным і не зусім дакладным загалоўкам: «Беларусы шукаюць свае карэнні. Сляды гуманіста XV стагоддзя прывялі іх у Кракаў». Леслаў Петэрс піша ў «Газэце Краковскей», што «турботы беларусаў, каб ушанаваць памяць выдатнага земляка не толькі на ўласнай зямлі, заслугоўваюць павагі і могуць быць узорам для наследавання».

У Любліне найперш аглядаем суровы замак, дзе ў 1569 годзе была заключана унія паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім. Як і ў кожнай гістарычнай з'яве, пагаджаемся, было ў ёй і дадатнае, і адмоўнае. Ад гэтай уніі (або ад крыху яшчэ ранейшага часу, бо унія замацавала тое, што ўжо часткова складвалася) пачаліся многія нашы нацыянальныя бядоты — найперш паланізацыя сацыяльных вярхоў, падпарадкаванне інтарэсаў. Але было і дадатнае. Разам лягчэй стала змагацца і з туркамі, і з татарамі. Беларускія землі больш далучаліся да здабыткаў заходнееўрапейскай культуры.

Паколькі ў музеі, які працуе ў замку, быў якраз выхадны дзень, то гістарычныя сцэны агледзелі мы толькі звонку. Па дарозе, у Старым горадзе, пабачылі яшчэ памятную дошку на доме, дзе нарадзіўся Людамір Рагоўскі — аўтар музыкі да верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?».

У вітрынах люблінскіх магазінаў упершыню за паездку ўбачыліся кніжкі на беларускай мове.

## ДЗЕНЬ АПОШНІ, АБО ПАДСУМАВАННЕ

За сняданкам разважаем: мог бываць Скарына ў Любліне ці не мог. І прыходзім да высновы, што мог, бо самая кароткая і ажыўленая дарога з Полацка і Мінска на Кракаў і Прагу вяла тады праз Брэст і Люблін. Тым жа шляхам ехала на кракаўскія і люблінскія пасяджэнні сейма беларуская шляхта — хто шукаючы кар'еры, хто — ведаў, а хто — прыгод. Зрэшты, гэты маршрут апісаны ў адным з беларускіх ананімных вершаў XVIII ст., дзе па дарозе ў Рым шкаляр трапляе ў госці да паноў «люблянаў».

Абедалі мы ўжо ў Брэсце. І запісалі ў кнізе скаргаў і прапаноў, што сервіс тут не горшы, чым у Празе. Адным словам — на еўрапейскім узроўні.

А прад Мінскам зноў пайшоў па руках аўтобусны мікрафон. Дзякавалі шафёрам і арганізатару паездкі. Падсумоўваючы вынікі, скульптары гаварылі, што ў Празе і Кракаве яны лепш зразумелі, што такое Скарына — як гуманіст, як патрыёт, як тытан працы. Едучы нібы наўздагон, яны, вядома ж, першадрукара не дагналі, але затое зразумелі штосьці істотнае ў духу той эпохі, адчулі яе атмасферу. Значыць, можна з большай упэўненасцю брацца за конкурсныя праекты, за мемарыяльныя знакі для Прагі і Кракава.

— Трэба падумаць,— разважаем,— як заахвоціць пераможцаў конкурсу не толькі матэрыяльна, але і маральна. Можа — паездкай у Італію, у Падую, дзе Скарына атрымаў годнасць доктара медыцыны. Або ў іншыя мясціны, звязаныя з ім.

І, галоўнае, завяршаючы паездку, не хацелася ў ёй, калі б яна пачыналася нанава, нешта істотнае перайначыць. Чагосьці не знайшлі? Вядома. Але сталі да гэтых знаходак на нейкі крок бліжэй. Бліжэй да самога Скарыны.

Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

**Айварс НЕЙБАРТС**



На мой двор-панадворак
раптам упаў
зіхатлівы
кавалачак сонца.

Падняў я кавалачак сонца,
здзьмухнуў
з кавалачка сонца пыл
і паклаў кавалачак сонца
ў рот, як хамяк
залатое зярнятка.

Праўду кажа,
хто кажа:
ў сваёй гаспадарцы
ўсё прыдасца,
усё знойдзе належны ўжытак.



Стамілася вельмі
маё акно,
нібыта сабака,
чый гаспадар згубіўся,—
так шмат
нейчых постацяў,
твараў,
вачэй хавае яно
ў сваім целе празрыстым.



У вёсцы
маленькіх дурняў
я маю
сытную, быццам бохан
жытнёвага хлеба,
хату
і камень-валун,
пад які
кладу свае беды —
жыву
я ў вёсцы
маленькіх дурняў,
пасвістваючы, як шпак.

Ды едуць
аднак
да мяне
людзі з вёскі
вялікіх дурняў
і кажуць,
што хата мая
і мой камень — толькі
мыльныя бурбалкі
і што людзі
з вёскі вялікіх дурняў
не бачаць
ніякага сэнсу ў маім
бязглуздым шпачыным свісце.

Якія разумныя,
ах, якія
разумныя жыхары
у вёсцы вялікіх дурняў!



Маё адзінае пудзіла,
што пужала
ўсё лета птушак,
раптам сабралася
і паляцела
услед за імі
ў птушыны вырай —
толькі мільгнулі ў аблоках
голыя пяткі.

Што зробіш —
і вось цяпер
з дня ў дзень
я сяджу на жэрдцы
і сам вартую сваю маёмасць.



Падаю
праз нябёсы
(пухкія, нібы пена)
уніз,
на зямлю,
як жыта са жмені...

Падаю праз зямлю
(цвёрдую, нібы гліна),
пакуль магу падаць,
а потым,
калі прыпыняюся,
ўпарта
нагамі ўпіраюся
у перашкоду
і ў свет,
быццам пругкая рунь,
узыходжу.



Дзівак
ухапіўся за
грыву ветру,
нібыта за грыву
крылатага жарабца,
бо — не ведаў.

Імчаўся
дзівак па
траекторыі небакраю,
як па гасцінцы старым,
бо — не ведаў.

І, нібы ў пульхную глебу,
сыпаў
у воблакі
мак,
бо — не ведаў.

Не ведаў,
не ведаў,
ну, далібог, не ведаў,
што ён дзівак.

А макі
у воблаках,
нібы ў дзівосным садзе,
квітнеюць яшчэ
і цяпер.



Твару я
дарогу
з імкнення
і памяці —

на яе
цярушаць
праменне свае
ўсюдыісныя зоркі,

на ёй,
бы на лаўцы,
сядзяць мудрацы
і разглядаюць у роздуме
ступакі
сваіх босых ног
з драпінамі
і мазалямі:

дарога
з адной неабсяжнасці
у другую.

Пераклаў з латышскай
Алесь РАЗАНАЎ.

# ГЛЫБОКІЯ КАРАНІ

Пачатак на 14-й стар.

пытанні адразу паўсталі нездарма. Калгаснікі проста не паверылі, што ім дадуць самастойнасць, што яны самі будуць прымаць рашэнні і самі за іх адказваць. Прычым не толькі ў маральным плане, але і канкрэтным рублём са сваёй кішэні. Дарэчы, апошняя абставіна асабліва насцярожвала. Не, вядома, людзі хацелі перамен, але не такіх рашучых і толькі не за кошт «сваёй кішэні». Магчыма, таму і прагаласавалі «за» хутчэй па шматгадовай звычцы, чым па перакананню.

А Паўлу Карпавічу было тады над чым задумацца: выходзіць, словам людзі больш не вераць, таму трэба пачынаць працаваць па-новаму і чакаць практычных вынікаў. Перабудова — балючы працэс. Вядома, можна хутка ўкараніць сілком новыя эканамічныя прынцыпы, адладзіць тэхналогію. Але пакуль чалавек не зразумее і не ацэніць галоўны жыццёвы прынцып «кожнаму — па працы», нічога ў яго адносінах да справы не зменіцца.

А мяняць трэба. Ведаюць гэта і кіраўнікі, і самі сяляне. Дык ці сумленне ў іх ёсць? Хіба не бачаць яны, што знікла былая гордасць за добра ўзаранае і засеянае поле, за чыста выкашаны луг, за дагледжаны двор і выгадаваную жывёлу. Што ўсё болей выветрываецца любоў да зямлі, траціцца павага да сябе... Што душы людскія раз'ядае абыякавасць, пасіўнасць, нежаданне з-за агульнага, калектыўнага (якое нікому быццам бы не палепшыць) псаваць асабістыя адносіны з аднавяскоўцамі, з роднымі...

Ведаюць і бачаць, вядома. Але ў душах іх пасялілася і жыве спрадвечная (з часоў паншчыны, а можа, і раней) надзея на строгага і справядлівага начальніка, які аднекуль прыедзе і навядзе ўрэшце парадак.

— А хіба мы самі не здольны яго навесці? — дапытваўся Павел Карпавіч у сваіх свінаводаў.— У нас жа ёсць галоўнае права: як бы ўвесь калгас ні папрацаваў, з прыбыткам ці са стратамі, але калі мы па сваёй ферме даб'ёмся эканоміі, то яе ж і атрымаем наяўнымі грашамі. І дзяліць даплату будзем самі, на савеце працоўнага калектыву. Вядома, гледзячы, хто як сваю справу робіць. Выходзіць, сумленна працаваць нам усім выгадна!

І людзі паверылі Каралю, пайшлі за ім. Ужо праз два гады свінаферма стала прыбытковай. У 1987 годзе прыбытак склаў ужо 130 тысяч рублёў, а летась перасягнуў 200 тысяч. І штогод працаўнікі фермы атрымліваюць добрую даплату.

Што праўда, то праўда: строгая эканоміка выхоўвае лепш за ўсё. Яна сама патрабуе высокай свядомасці, дысцыпліны, адказнасці і сумленнасці. І выхоўвае перш за ўсё радавых працаўнікоў, а патрабуе больш ад кіраўнікоў, спецыялістаў. Бо колькі можна мірыцца, што выхавальнікам з'яўляецца незапрацаваны рубель. А хіба рэдкасць яшчэ, калі зарплату, і прытым не маленькую, атрымліваюць за нікуды не вартую работу.

**ЗАМАЛЁЎКА З НАТУРЫ. Дзве калгасныя машыны з райцэнтра прывезлі камбікармы. Стаяць на дарозе, маторы працуюць. Не даехалі да склада некалькі метраў, бо замяло снегам. На дварэ яшчэ раніца, але ніхто нікуды не спяшаецца. Маладыя шафёры сядзяць і ў карты рэжуць.**

**— Хлопцы, чаму не разгружаецеся?**

**— Праезду няма...**

**— Дык узялі б рыдлёўкі і расчысцілі: колькі тут той работы!**

**— А навошта нам у век прагрэсу рыдлёўкамі махаць! — здзіўляюцца хлопцы.— Мы ўжо бульдозер выклікалі, праз гадзінку-другую прыедзе — і ўся справа.**

**А ўзялі б ды падлічылі. За дзве гадзіны дарэмна будзе спалена каля дваццаці літраў бензіну (12 рублёў). Прыгнаць бульдозер за дзесяткі вёрст — яшчэ 15—20 рублёў абыдзецца. А яны за дзве гадзіны што зрабілі, каб атрымаць неабходную прадукцыю!**

Раней падобныя сцэны ў калгасе паўтараліся ледзь не штодзень. Многія звыкліся з тым, што атрымлівалі грошы не за заробленае, а за выхад на работу.

— А пры арэндзе яны ў трубу вылецяць,— весела смяецца Кароль.— Бо непрадбачаныя выдаткі на бензін і бульдозер павысяць сабекошт прадукцыі, а праз яго адаб'юцца і на заробку. Дык плаціць з асабістай кішэні за сваю ляноту і абыякавасць ніхто не захоча...

Пра многае мы перагаварылі з Каралём. Прывабіў ён мяне яшчэ і тым, што сам добры гаспадар: у яго і хата спраўная, і ўсякая жыўнасць у двары: свая карова, свінні, куры, нават пчаліныя сем'і. Па натуры ён чалавек дзелавы і строгі, любіць парадак і дысцыпліну, але ўважлівы, спагадлівы да людзей.

Можа, таму пра добрых працаўнікоў Павел Карпавіч гаварыў са шчырай павагай, з непрытоенай радасцю:

— А ўмеюць жа ў нас працаваць! Зойдзеш да гаспадара на падворак, а там парадак, чысціня кругом. Карова і свінні дагледжаныя, і ніякага смуроду не чуваць. Во гэта па мне! Такія працаўнікі — самародкі зямлі нашай, захавальнікі спрадвечнай сялянскай працы. Здаецца, старэнькія ўжо зусім, а марку яшчэ трымаюць: усё ў іх хатцы сваё ёсць...

Слухаю гэтыя цікавыя назіранні, трапныя заўвагі і адчуваю, што яны глыбока сядзяць у яго сялянскай душы. А яна, па ўсім відаць, не раўнадушная, не абыякавая да ўсяго, як жывецца-можацца вяскоўцу.

На такіх сялянскіх руплівцах і трымаецца наша зямля-карміцелька.

Заходжу ў двор яшчэ да аднаго свіслачаніна — Рыгора Парфёнавіча Сычова, дзе давялося мне па рэкамендацыі старшыні сельсавета начаваць. Гаспадары, праўда, трапіліся надзвычай шчырыя, добразычлівыя людзі, дык мы ўвесь вечар сядзелі і гаманілі пра жыццё-быццё. Многае ўведаў пра іх, пра іхніх бацькоў і дзяцей, пра радню і іншых вяскоўцаў. Хоць усяго, вядома, ніколі не перагаворыш, пра ўсё не раскажаш.

**РАДКІ З БІЯГРАФІІ. Рыгор Парфёнавіч Сычоў нарадзіўся ў Свіслачы ў 1926 годзе. Бацькаўская сям'я была вялікая: шасцёра дзяцей мелі. Трое і зараз жывуць у роднай вёсцы. Самы старэйшы, Уладзімір, у свой час працаваў старшынёй калгаса, цяпер пенсіянер, інвалід вайны. Адзін з малодшых, Іван,— калгасны інжынер-электрык. А Рыгор амаль усё жыццё аддаў калгаснай ферме. А цяпер — малаказборшчыкам у вёсцы.**

Да самай пенсіі Сычовы працавалі ў калгасе старанна, можна сказаць, не шкадуючы сваіх сіл. Рыгор Парфёнавіч каля 30 гадоў пастухом і даглядчыкам жывёлы, а Вольга Якаўлеўна звыш 20 гадоў даяркай на ферме. Але і на заслужаным адпачынку не сядзяць склаўшы рукі.

— Не, усё ж няма дабра на пенсіі жыць,— кажа Вольга Якаўлеўна.— Здаецца, сяджу ўжо ў хаце спакойна, а ўбачу, што сяброўкі-даяркі пайшлі, дык у думках, бывала, следам за імі іду. Дык было назад на ферму вярнулася. А тут — на табе: руку пашкодзіла. Усяго з які толькі месячык і пабегала на тую фермачку... Давялося зноў кінуць...

Гаворкай Вольгі Якаўлеўны заслухаешся. Вось слухаеш, як расказвае яна аб тым, што не заўсёды справядліва ставяцца ў калгасе да старых людзей: як неахвотна прадаюць калгаснікам парасят для гадоўлі, як крыўдзяць з сенакосам, як нядбайна адносяцца да агульнага дабра, які непарадак усталяваўся ў асобных сем'ях, і пра многае іншае,— і ва ўсім адчуваеш яе хлебаробскую, мацярынскую і наогул чалавечую заклапочанасць пра лёс роднай гаспадаркі, пра адказнасць і сардэчнасць людзей, спагаду і ласку адзін да аднаго.

Праўда, не толькі словам, але і працай Вольгі Якаўлеўны залюбуешся. Тут нават ніякіх і доказаў не трэба, гэта адразу відаць: па тым хоць бы, як прыбрана і дагледжана яе хата, якая ўсюды чысціня і акуратнасць. Праўда, і «доказаў» усялякіх у іх сям'і хапае — падарункаў розных, грамат з пячаткамі і подпісамі. Вядома, і пра іх з цяплынёй успаміналі і расказвалі без лішняга славалюбства гаспадары.

Слухаю Вольгу Якаўлеўну і Рыгора Парфёнавіча і думаю: а ў чым жа тут галоўны сакрэт, што так бывае: адзін працуе і сабе на радасць, і людзям на любасць, а другі, можа, і надрэнна працуе, папракнуць яго язык не паварочваецца, але ж нешта не так ці не тое робіць. Ну, аплата, матэрыяльная зацікаўленасць. Вядома ж, гэта важнейшы жыццёвы стымул. Але ж і пры аднолькавых умовах, пры аднолькавай аплаце і зацікаўленасці ў розных людзей работа розная. Магчыма, што талент ёсць такі, зусім асаблівы — працаваць, укладваючы ў справу ўсю душу? Правільна сказана: працаваць не за страх, а за сумленне. Працаваць добра не таму, што давядзецца адказваць за брак перад кімсьці, а таму, што інакш нельга — сумленне не дазваляе. І як добра, што ёсць на нашай зямлі такія шчырыя, самаадданыя працаўнікі.

Рыгор Парфёнавіч маўчыць трошкі, а потым зноў размотвае клубок нашай гаворкі:

— Часам падумаеш, а дзе ж колішняя гордасць, якую мелі нашы бацькі за выдатна ўзаранае поле, за чыста выкашаны луг, за прыгожа складзены стажок сена, за дагледжаную жывёлу? Чаму людзі губляюць любоў да зямлі, да сялянскай нашай справы, павагу да сябе?

На некаторы час гаспадар сціхае, нібы ўзважвае сказанае, падбірае адказ на свае ж пытанні, а потым кажа:

— А таму, лічу, што гаспадарскую струнку страцілі. Бадай, зусім абыякавым і раўнадушным да ўсяго сталі.

Сапраўды, у галаве сучаснага калгасніка моцна ўкаранілася думка, быццам яму хтосьці павінен заплаціць за тое, што ён выйшаў на работу, а як працаваў і што зрабіў, гэта, мабыць, ужо іншая справа. Бо налічваюць жа заработную плату за нормы, за выкананыя аперацыі па цвёрдых расцэнках, а не за тое, колькі атрымана хлеба, малака ці мяса. Ці не таму і страціла зямля свайго колішняга гаспадара-хлебароба, які, працуючы на ёй, думаў і пра сённяшні і пра заўтрашні дзень.

— Э-эх! — узмахвае рукой Сычоў і ўздыхае: — Неяк не так робіцца, не па-гаспадарску вядзецца. А людзі, скажу, працавітыя ў нас. Землі, праўда, не багатыя, аднак ураджаі неблагія збіралі б, малака-мяса больш давалі б... Галоўнае, працаваць усім трэба аддана, сумленна...

Шчырую праўду сказаў Рыгор Парфёнавіч пра сваіх аднавяскоўцаў. За тыя дні, што давялося жыць у Свіслачы, пераканаўся ў працавітасці і дабрыні тутэйшых людзей. Заслужылі яны гэтую ўсеагульную павагу землякоў сваёй добрасумленнай працай, адносінамі да зямлі, да людзей. Сваім шчырым і ўдзячным сэрцам.

□ □ □

...Прайшоў цёплы вясенні дожджык. У такі вечар на ціхіх вуліцах Свіслачы адчуваеш сябе надзвычай утульна. Ахоплівае такое ўражанне, што ты нібыта трапіў на некалькі стагоддзяў назад і вось-вось сустрэнеш палахлівую паненку-маладзіцу, якая спяшаецца позна дадому, хаваючыся ад зайздроснага людскога вока.

Шчыра скажу, што ніякая гэта не ідылія, а тутэйшая ява. Можа, таму з першага наведання гэтай прыгожай вёскі адразу пранікаешся любоўю да яе цікавага былога, надзеяй на шматзначнае сёння і верай у шчаснае будучае.

Ведаю, гэткім жа адчуваннем спрадвечнага зямнога прыцягнення поўняцца людскія сэрцы. Глыбокія карані зніталі іх тут навечна.

# СЛУЖБА



# ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

## ЗА РУКІ ВОЗЬМЕМСЯ, СЯБРЫ!

Даўно сачу за «Узаемадапамогай». Звычайна ад вас нечага чакаюць і на нешта спадзяюцца. У свой час я сама наважвалася звярнуцца да вас за дапамогай. А ўрэшце вырашыла прапанаваць іншае, а больш дакладна — падаць сваю руку кожнаму, каму цяпер цяжка і дрэнна, каму сумна і адзінока. Жадаю сказаць ім добрае, чулае слова, шчыра паспачуваць, падбадзёрыць. Пастараюся зразумець кожнага. На жаль, сёння дабрыня, узаемаразуменне, сардэчнасць у адносінах паміж людзьмі праяўляюцца ўсё радзей і радзей. Дык давайце ж не будзем чакаць, пакуль нехта выявіць гэтыя якасці ў адносінах да нас, а самі выявім іх у адносінах да іншых.

Калі некага зацікавіць мой ліст, пішыце. Я абавязкова ўсім адкажу. Жыву я ў вёсцы на Віцебшчыне, завуць мяне Таццяна, 23 гады. (221).

## ВІТАННЕ З-ЗА АКІЯНА

Завуць мяне Карт, жыву ў ЗША, у штаце Індыяна. Ужо больш як год чытаю часопіс «Беларусь». Кожны яго нумар дае мне вялікае задавальненне. Я аспірант, займаюся славянскім мовазнаўствам. Ужо даўно цікаўлюся вашай прыгожай мовай, а вось зусім нядаўна пачаў вывучаць яе сур'ёзна. На жаль, я дагэтуль вымушаны вучыцца самастойна, бо тут, у маім горадзе, няма нікога, хто гаворыць па-беларуску. Такім чынам, маё веданне беларускай мовы застаецца пакуль што пасіўным. Спадзяюся, што калі-небудзь змагу наведаць Беларусь, але ў цяперашні час гэта мара з'яўляецца для мяне нездзяйсняльнай. Узнікла такая думка: калі тут няма з кім размаўляць пабеларуску, можа, я знайшоў бы сяброў па перапісцы ў Беларусі. Вось чаму і звяртаюся ва «Узаемадапамогу». Ці хто-небудзь з чытачоў «Беларусі» хацеў бы са мною перапісвацца? Я быў бы рады перапісвацца з навучэнскай моладдзю, з усімі, хто даражыць беларускай мовай, культурнай спадчынай беларускага народа.

Чакаю з нецярпеннем вашых лістоў! (222).

## ЧАКАЮ, ЯК ВЯСНЫ

Мне 22 гады, рост 167 см, адслужыў у арміі. Цяпер працую і завочна вучуся. Характар у мяне спакойны, вясёлы. Цікаўлюся пытаннямі палітыкі, люблю сучасную музыку, гістарычную і рамантычную літаратуру, захапляюся спортам, не п'ю і не куру. Чакаю, як вясны, сустрэчы з добрай, спагадлівай дзяўчынай, каб пакахаць і быць патрэбным ёй, дарагой і адзінай. (223).

**ЯЎГЕН.**

## ПРЫГАЖОСЦЮ НЕ ВЫЛУЧАЮСЯ, АЛЕ...

Пра мой жыццёвы шлях хоць раман пішы: такі складаны і цярністы ён у мяне выдаўся. Рана асірацела — у два гады страціла маці. Дзяцінства, натуральна, было цяжкім. Потым — няўдалае замужжа. Дзевятнаццаць гадоў прамучылася: адны лаянкі, п'янкі, бойкі. Цярпець такіх здзекаў і катаванняў над сабой і дзецьмі ўрэшце не змагла — разышліся. А дзяцей у мяне пяцёра, трое жывуць са мной.

Працую я ў вясковай бібліятэцы, завуць мяне Галіна, мне 42 гады. Прыгажосцю не вылучаюся, але людзям падабаюся. Займаюся ў вольны час вязаннем, вышываннем. Умею гатаваць смачныя стравы, касіць, калоць дровы — жыццё навучыла ўсялякай працы. Маю 2 каровы, 2 быкі, 2 кабаны, 2 сабакі, з птушак — куры, качкі, гусі.

Словам, у пісьме пра ўсё не скажаш. Рада была б пазнаёміцца праз «Узаемадапамогу» з мужчынам майго ўзросту. Дзеці згодны знайсці сабе яшчэ бацьку. Хто б ён ні быў, няхай сабе калека, буду даглядаць, абы не піў, ніколі не страчваў чалавечага аблічча. Няхай і ў яго будуць дзеці. Выхоўваць будзем усіх разам. Аднаго яшчэ хацелася б — з'ехаць адсюль. (224).

## ЯК СВЕТ У КАНЦЫ ТУНЕЛЯ

Шаноўная «Узаемадапамога»!

Я шмат перадумаў, перш чым узяцца за гэты ліст. Адольвалі супярэчлівыя думкі і галоўная з іх: ці маю я права на гэтае пісьмо? Справа ў тым, што я знаходжуся ў месцах зняволення ўжо 10 гадоў. І яшчэ буду сядзець два гады. Але настаў час цвёрда падумаць пра тое, як жыць далей: па-ранейшаму ці па-новаму? Глыбока і назаўсёды перакананы, што я проста не маю права патраціць марна тыя гады, якія мне яшчэ суджана пражыць. Будзе, канечне, цяжка. Калі я выйду адсюль за вароты, мне споўніцца 47. Але я веру ў сябе. Сярод нас, пазбаўленых волі, шмат закончаных, як кажуць, нягоднікаў. Але ёсць і тыя, каму варта верыць. Хацеў бы, каб паверылі мне вы, чытачы «Узаемадапамогі».

Ведаю: тое, на што я здольны ў жыцці, дае мне добры шанц наладзіць за два-тры гады свой лёс, мець усё, на што асноўная маса людзей траціць не адзін мо дзесятак гадоў.

Але як патрэбна мне для гэтага маральная (падкрэсліваю: толькі маральная) падтрымка добразычлівай, разумнай, адукаванай жанчыны. Гэта для мяне будзе як свет у канцы тунеля. Адплачу за падтрымку ўсім сваім жыццём. Я магу не памятаць, хто і чым абавязаны мне, але ніколі не забуду, каму абавязаны я. (225).

**МІКАЛАЙ.**

## НЕ МАЙ СТО РУБЛЁЎ...

Мне 40, жыву ў сельскай мясцовасці, работа ў мяне добрая, люблю яе, мясцовасць у нас цудоўная. Цяжка перанесла падман каханага, засталася адна з двума дзецьмі — пяцігадовымі сынам і дачкой. Добра, што заўсёды побач са мной былі надзейныя людзі, якія і дапамаглі вытрываць, захаваць надзею на шчасце. Не выпадкова ж гавораць: не май сто рублёў, а май сто сяброў.

Хачу, каб адгукнуўся звычайны чалавек, які ўмее быць адданым і любіць дзяцей. (226).

**МАРЫНА МІКАЛАЕЎНА.**

## АДЗІНОТА Ў 26

Мне 26 гадоў. Жыву ў сяле. Працую настаўнікам. Мару пазнаёміцца з дзяўчынай, каб стварыць трывалую сям'ю. Так атрымалася, што ў маім жыцці няма спадарожніцы. Відаць, у гэтым ёсць і мая віна. А можа, таму што ў мяне рост 164 см і блізарукасць. Але я маю надзею, што на мой ліст адгукнуцца. (227).

**ВАЛЕРЫЙ.**

## «ЗБЫЛІСЯ ПРАРОЦТВЫ...»

Заўсёды была сярод сяброў, дзень быў распісаны амаль па хвілінах. Але прайшлі гады вучобы ў інстытуце, адпрацавала пэўны час па размеркаванню, цяпер — у родным горадзе. І — адна!.. Ні сяброў, ні ворагаў. Што гэта? Расплата за тое, што не змагла некалі ацаніць чыёсьці сэрца і душу? Памятаеце, у спевака Ю. Лазы: «Сбылись твои пророчества, подкралось одиночество...». Гэта і пра мяне таксама. А ўвогуле я не ныцік. Такі настрой прыходзіць у мінуты, калі аціхае мітусня дня, калі застаешся сам-насам з сабой.

Я люблю музыку, кнігі. Люблю турпаходы, спорт. Па выхадных — заняцца кулінарыяй. З задавальненнем адкажу таму, хто напіша мне. (228).

**ЛЮДМІЛА.**

## НЕ ХАПАЕ ДОЧКАМ КЛОПАТУ, ПЯШЧОТЫ

У 1983 годзе давялося звярнуцца да дапамогі суда, каб ўратаваць двух бязвінных істот — маіх дачок — ад згубнага ўплыву маці. З таго часу мы і жывём утраіх. Дзяўчынкі падраслі, ндрэнна вучацца: старэйшая ў пятым класе, малодшая — у чацвёртым. Выхоўваю іх, як магу і як умею. Спадзяюся, што змагу выгадаваць і даць краіне добрых, адукаваных людзей. Жывём мы ў камунальнай кватэры з некаторымі выгодамі. Канечне, дочкам не хапае жаночай пяшчоты і мацярынскага клопату, але што зробіш...

Хацелася б сустрэць жанчыну 33—40 гадоў, якая змагла б узяць на сябе адказнасць стаць маці дзецям і гаспадыняй у доме.

Крыху пра сябе. Адукацыя сярэдняя спецыяльная. Узрост 42 гады. Рост 176 см. Ходарлявы. Пасля службы ў арміі маю навыкі прыгатавання ежы.

Не шыфруйце, калі ласка, мяне кодам, а ўкажыце дакладны адрас:

230019,
г. Гродна,
пр. Касманаўтаў, дом 15-а, кв. 9
**ЮХНЕВІЧУ Міхаілу.**

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**

**Фота А. НЯМЫЦКАГА.**



# СПОРТ-СЯБАР

● Першая гарадская спартакіяда інвалідаў з парушэннем функцый апорна-рухальнага апарата.

● Гонкі на інвалідных калясках на 100 м для жанчын: на старце Ж. Краўцова (злева) і Н. Люлькавіч.





● Стральбу з лука вядуць Андрэй Пятровіч Кірыенкаў (злева) і Ігар Леанідавіч Лемутаў.

**У** Беларусі налічваецца больш як трыста тысяч калек... Значная роля адводзіцца фізічнай культуры і спорту (так, так — і спорту!) у аднаўленні здароўя інвалідаў, прыцягненні іх да грамадскага жыцця і працоўнай дзейнасці.

Напрыклад, беларускія таварыствы — сляпых і глухіх — аб'ядноўваюць больш як шаснаццаць тысяч чалавек. Шэсць тысяч з іх рэгулярна займаюцца фізкультурай і спортам. У працэнтных адносінах гэта (па рэспубліцы) больш, чым сярод здаровых.

Зразумела, што добрыя адносіны да фізічнай рэабілітацыі інвалідаў па слыху і зроку прыносяць і спартыўныя вынікі. На Алімпійскіх гульнях інвалідаў у Сеуле мінчанін Алег Шэпель заваяваў тры залатыя медалі. Нядаўна на чэмпіянаце Еўропы ён удастоены двух залатых і срэбранага медалёў. Устанавіў, акрамя таго, два сусветныя рэкорды. На XVI Сусветных гульнях глухіх у Новай Зеландыі беларускія спартсмены ў складзе зборнай Савецкага Саюза заваявалі залаты, тры срэбраныя і столькі ж бронзавых медалёў.

Увага нашых фізкультурных арганізацый да патрэб інвалідаў не засталася без падтрымкі працоўных калектываў, прафсаюзаў, спонсараў, кааператываў. Сёлета ў Віцебску праводзілася першынство рэспублікі сярод інвалідаў па плаванню. Спонсарам гэтых спаборніцтваў выступіў кааператыў па рамонту і афармленню будынкаў «Крэдытор». Кожнаму ўдзельніку кааператары ўручылі па пяцьдзесят рублёў, а шасці лепшым — па сто пяцьдзесят.

Аднак у Беларусі (прыкладна як і ў краіне ў цэлым) толькі некалькі працэнтаў інвалідаў вяртаюцца да працоўнай дзейнасці. Гэта вельмі мала. Там, дзе рэабілітацыя наладжана добра і адной з яе састаўных частак з'яўляецца фізкультура, працэнт гэты значна вышэйшы.

Патрэбен, напэўна, дзяржаўны дакумент аб афіцыйным бясплатным прадастаўленні інвалідам залаў, басейнаў, стадыёнаў,ціраў. Ва ўсіх спартыўных аб'ектах, якія ўзводзяцца, прадугледзець зручнасці для іх, унесці змены ў гатовыя праекты.

...Амаль два гады дзейнічае рэспубліканская федэрацыя фізкультуры для інвалідаў. Сам факт, што яна рашуча ўзнімае праблемы фізічнай рэабілітацыі інвалідаў, дазваляе спадзявацца на хуткія і добрыя змены.

**Іван ПРАКАПОВІЧ,**
**член рэспубліканскай федэрацыі фізкультуры для інвалідаў.**

**Фота Аляксандра ШАЦІЛЫ і Мікалая БАНДАРЭНКІ.**




**Аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР А. РАКІТНІЦКІ.**

# БЛІЗКА ВІДАЦЬ, АЛЕ ДАЛЁКА ДЫБАЦЬ

Такая прымаўка стасуецца да канцоўкі, якую склаў токар магілёўскага завода «Тэхнапрыбор» кандыдат у майстры Дзмітрый Камчыцкі.



**Выйгрыш.**

І сапраўды белым спатрэбіцца ўсяго два ходы, каб трапіць у дамкі: 1.b6—c7 b8:d6 2.c5:g5 h6:f4 3.d4:h8. Здавалася б — усё, белыя дабіліся колькаснай перавагі. Аднак у чорных знаходзіцца моцны адказ 3...f4—g3!, пасля якога белым неабходна рабіць строга адзіныя і вельмі дакладныя ходы. 4.b4—c5! e3—f2 (калі чорныя згуляюць прамалінейна 4...g3—f2, то белыя выйграюць шляхам: 5.h8—g7 f2—e1 6.g7—f8) 5.g1:e3 h2—g1 6.c3—d4! (Толькі так. Усе іншыя працягі даюць нічыю.) 6...g3—f2 7.c5—b6! (адзіны ход) 7...f2—e1 8.d4—c5 g1:d4 9.h8:a1. Урэшце белыя дабіліся выйгрышнага становішча. І ўсё ж чорныя маюць права супрацiўляцца, хоць і без поспеху, яшчэ амаль 20 хадоў.

## ЗГУЛЯЎ... «ЛЕВАЙ РУКОЙ»

Удзельнік і пераможца многіх усесаюзных і беларускіх конкурсаў па рашэнню мінскі будаўнік кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга Аляксандр Пятровіч Райкоў расказваў: «Неяк у доме адпачынку «Рось» гулялі два аматары ў шашкі. Адзін з іх (у якога, як паказана на дыяграме, быў чорны колер і шэсць шашак) выйграваў тады амаль усе партыі. У белых на дошцы заставалася ўсяго тры шашкі...

Тут я параіў белым не адчайвацца, а паспрабаваць схадзіць 1.a1—b2.



**Ход белых.**

— Гэта што за падказчык знайшоўся? У мяне ўдвая больш шашак. Згуляю, як хачу, і выйграю. Нават і левай рукой.

— Ну, ну,— падбухторыў я яго,— згуляй левай.

— І згуляю.

Тут ён сапраўды падсунуў бліжэйшую да левай рукі шашку 1...g5—h4?, на што белыя адказалі 2.b2—a3! h4:f2 3.a3:g5! h6:f4 4.e1:e5, і чорныя здаліся.

## ВОСЬ ДЫК ЗАДАЧА!

Аматарам міжнародных шашак прапануем незвычайную задачу житомірскага майстра Барыса Магілеўскага.

Белыя: дамкі 1, 16, 34, простыя 6, 20, 44, 48 (7). Чорныя: простая 26 (1). У ёй патрабуецца заперці простую чорных, а ў другім выпадку белыя павінны прымусіць чорных заперці сваю (белую) простую. Якім чынам, сябры?

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Беларускі савецкі акцёр, народны артыст СССР. 4. Урачысты бальны танец. 5. Знак, сімвал, які ўвасабляе пэўную ідэю. 8. Беларускі савецкі паэт. 10. Спартсмен. 11. Жанр лірычнай паэзіі і музыкі. 12. Грызун сямейства заечых. 14. Сузор'е Паўднёвага паўшар'я Зямлі. 16. Стылістычны прыём у вершаскладанні. 17. Акцёр, народны артыст БССР. 18. Прамысловая рыба. 20. Зорка першай зорнай велічыні. 27. Хімічны элемент, метал. 28. Рулонны ізаляцыйны матэрыял. 29. Беларуская народная камандная гульня ў мяч. 32. Райцэнтр у Віцебскай вобласці. 33. Цыркавы гімнаст. 34. Кампазітар, народны артыст БССР.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Лётчык-касманаўт СССР. 2. Казацкае сяло на Доне, Кубані. 3. Каштоўны камень фіялетавага колеру. 6. Апавяданне І. С. Тургенева. 7. Архітэктурнае збудаванне. 9. Беларуская гімнастка, чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў. 10. Музычны твор. 12. Народны духавы музычны інструмент. 13. Легенда, паэтычнае сказанне. 14. Дзяржава ў Цэнтральнай Афрыцы. 15. Рэзервуар для захоўвання вадкасцей. 19. Сталіца сацыялістычнай дзяржавы. 21. Рака ва Усходняй Сібіры. 22. Забарона на ўжыванне пэўных слоў — у лінгвістыцы. 23. Від непрадукцыйнай дзейнасці чалавека. 24. Спявачка, народная артыстка БССР. 25. Спартыўны снарад. 26. Частка калоны ў форме чатырохвугольнай пліты. 30. Нацыянальная страва ў народаў Сярэдняй Азіі. 31. Некваліфікаваны рабочы ў некаторых краінах Усходняй і Паўднёва-Усходняй Азіі.

**Склаў Канстанцін ЖУК.**

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 11

**Па гарызанталі:** 5. Гранула. 6. Валожын. 8. Касаткіна. 11. Верас. 13. Скетч. 15. Адамчык. 17. Перу. 18. Неон. 19. «Віхор». 20. Нерат. 22. Набор. 24. Руіна. 26. Харч. 27. Баян. 28. «Дажынкі». 29. Вітка. 31. Астоя. 32. Самарканд. 35. Кандыль. 36. Разетка.

**Па вертыкалі:** 1. Онікс. 2. Плёс. 3. «Маці». 4. Потас. 5. Габелен. 7. Нейтрон. 9. Анагр. 10. Качан. 12. Адуванчык. 14. Кантрабас. 15. Ашхабад. 16. «Карнікі». 21. Данілюк. 23. Ражка. 24. «Ранак». 25. «Бярозка». 30. Асада. 31. Адсек. 33. Міль. 34. Абак.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 12 (612)
СНЕЖАНЬ
1989 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: сёлетні год прынёс Уладзіміру Гасцюхіну яшчэ большую вядомасць — фільм «Наш браняпоезд», у якім ён выконвае галоўную ролю, з поспехам абышоў усе экраны краіны. За ролю Мікалая Кузняцова беларускі артыст атрымаў Спецыяльны прыз на І Усесаюзным фестывалі кінаакцёраў у Калініне.

Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.10.89.
Падпісана да друку 23.11.89.
АТ 06913.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,8.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 19 230 экз.
Зак. 416.

Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы
памерам не больш
як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



# ЗАПРАГРАМІРАВАНЫ МІКІТА

ГУМАРЭСКА

Голас Мікіты быў настроены на мажорныя ноткі і гучаў раздражнёна:

— Вой-вой, як рэжуць мой слых словы: папяровая душа, папяровы век, без паперкі ты казяўка. Даражэнькія, выкіньце іх з свайго лексікону, і вам стане лягчэй. Бюракраты няшчасныя. Прыдумалі для сябе папяровыя пасады. А карысць ад іх якая? Як ад казла малака. Прысмакталіся да паперак, шалясцяць імі і так спяваюць пра сваю бурлівую дзейнасць, што заслухаешся. Даказваюць, што на іх ледзьве не трымаецца ўся зямля.

Маці мая родненькая, а колькі перавалачных баз стварылі па перасылцы тых папер. Маленькая канторка, а ўся завалена цыркулярамі. Гарбеюць над тымі паперкамі тысячы клеркаў, а вечарам крэкчуць, што залішне пуп надарвалі. А спагадлівыя медыкі ім раяць: адзіны сродак ад сядзячых хвароб — бег. Бегаюць, наганяюць сабе трайны апетыт. Ды, спрытнюгі, абмінаюць палі і фермы. Чаму б ім там не папрацаваць, спалучыўшы карыснае з прыемным. Дык такой фізкультуры баяцца, як чорт ладану. Вераб'ёў на мякінцы не правядзеш. Яны паспрачацца заўсёды гатовы: «Мы і так пры выкананні важных абавязкаў».

Мае апаненты могуць запярэчыць: маўляў, перагінаеш ты, Мікіта, палку, кідаешся ў крайнасці. Згодны! Крайнасць — згубная рэч. Я толькі супраць нікчэмнай паператворчасці і абедзвюма рукамі галасую за яе вялікасць паперу, на якой выкладаюцца патрэбныя, разумныя думкі, ствараюцца шэдэўры літаратуры. А не такія кнігі, якія горкамі ляжаць на складах і ў магазінах, а потым уцэньваюцца.

Вой-вой, не тым людцы займаюцца. А калі б яны сваю энергію і розум скіроўвалі ў патрэбны бок, то ўсяго б у нас хапала...

— А ты, Мікіта, чаму не працуеш, а менціш языком? — закрычалі тыя, каго ён толькі што прабіраў.

Робат Мікіта з мінуту памаўчаў, потым у ім штосьці шчоўкнула, і ён выціснуў з сябе:

— Я запраграміраваны толькі на крытыку іншых.

Генадзь ЗАХАРЭНКА.

Малюнкі Аляксея ШАЎЦОВА.



—А ў застойны перыяд я напісаў на яго ананімку...







—Я яго набыў у аднаго кааператара амаль задарма!

## МАЗАІКА

### АПРАЎДАННЕ

«Злоўжываў службовым становішчам у вытворчых мэтах».

(З характарыстыкі.)

### НІШТО САБЕ ЦЯГА!

«У яго неадольная цяга да дабра, асабліва да дзяржаўнага».

(З характарыстыкі.)

### ПРАПАНОВА

«Прапануем адкрыць выстаўку нявыкананых загадаў, распараджэнняў і ўказаў і зрабіць яе пастаяннай».

(З выступлення.)

## ФРАЗЫ

● Бухгалтар лічыў сябе незаменным спецыялістам. Больш ён нічога не лічыў.

● У многіх рэках сёння рыбка не простая, а залатая.

● Брыгада працавала без адстаючых. Адстаючыя не працавалі.

● Праблемай часта з'яўляецца не тое, як вывесці на чыстую ваду, а тое, як яе знайсці.

Уладзімір ШКАБРОЎ.

## СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

Зазвінеў авадзень:
Справядлівасць, праўда дзе?
Вы звальняеце за тое,
Што жыву чужой крывёю?
Але ж кожны з вас вось так
Харчавацца быў мастак...

Ды ніхто яго не слухаў:
Ні камар, сляпень, ні муха.
Бо загад жа ёсць загад...
За сябе быў кожны рад —
Радаваўся ад таго,
Што не звольнілі яго.

Анатоль ГАРАЧОЎ.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## КАРАЦЕЛЬКІ

● Месца ў цяні таксама бывае цёпленькім.

● Узяў на чай, хапіла на каньяк.

● Добра смяецца той, хто смяецца разам з усімі.

● Мода прыходзіць і адыходзіць. Разам з грашамі.

Дзмітро ПЕРЛІН.

### ВАКОЛ ЁЛКІ

● Снягурка нагадвала вавёрку: лётала з ёлкі на ёлку.

● Ёлачны базар, а шуму — як на птушыным!

● Пакідаючы ад ёлак пянькі, мы можам лічыць сябе пераўтваральнікамі прыроды.

● Для дзяцей перад Новым годам самае важнае — дапамагчы ўпрыгожыць ёлку, для жанчын — упрыгожыцца самім.

● Калі адкрыюцца новыя гарызонты, з'явяцца і новыя міражы.

● І сярод фармалістаў ёсць нефармальныя лідэры.

Валерый ВАРАНЦОЎ.

# ЛАЎРЭАТЫ «БЕЛАРУСІ»-89

**ЛАЎРЭАТАМІ ШТОГОДНІХ ПРЭМІЙ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ», А ТАКСАМА ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ПАДШЭФНАГА КАЛГАСА ІМЯ ЖАЛЕЗНЯКОВІЧА ЗА ЛЕПШЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ 1989 ГОДА СТАЛІ:**



**Проза: Ян СКРЫГАН (Перажытае. Дыпціх. № 9)**

«Допыт будзе цягнуцца запар некалькі дзён. І ты, зняможаны, без сну, без адпачынку, страціўшы адчуванне навакольнасці, часу, сэнсу падзей, аглушаны неверагоднасцю, што табе трэба стаць злачынцам,— звалішся непрытомны на падлогу. Цябе абліюць халоднаю вадою, зноў пасадзяць на табурэт (або на яго ножку) і пакажуць сілу, каб ты, нарэшце, зразумеў, што ратунку няма».

«Але ён баяўся ўзняць галаву. Баяўся параніцца вокам аб даўнюю сваю памяць. І не верыў той памяці, таму што сумняваўся ў самым існаванні сённяшняга дня. Сумняваўся, што таксама, як тысячу гадоў назад і тысячу гадоў наперад, свяціла і будзе свяціць сонца».



**Публіцыстыка: Віктар КАЗЬКО (Сенакос у канцы красавіка. № 6).**



**Паэзія: Мар'ян ДУКСА (вершы ў № 5).**

«Многа іх да дзяржаўнай кароны
прыліпала, апроч кар'ерыстаў —
з німбам святасці фараонаў,
фанфаронаў, валюнтарыстаў.
Самаўпэўненых дырыжораў,
выпадковых на сцэне маэстраў,
што прыблізна,
горш, чым стажоры,
кіравалі айчынным аркестрам».

«Вось у якім становішчы апынуліся людзі ў шэрагу раёнаў. Хлеб і вада даюць ім не здароўе і сілу, як было здаўна, а хваробы і немач. І сам селянін там з карміцеля насельніцтва ператварыўся ў чэхаўскага зламысніка, які сам не ведае, што творыць».



**Публіцыстыка (прэмія калгаса імя Жалезняковіча): Анатоль СІЛЯНКОЎ (Перасол на спіне... № 5).**





**Юрый ІВАНОЎ, фотажурналіст,— за фотанарыс «Зона бяды», № 11.**

«Выяўленню Лукаша Калюгі як пісьменніка спрыяла тагачасная атмасфера годнаснага існавання разняволенага рэвалюцыяй народа, тое, што будучы празаік з малаком мацеры ўбіраў у сябе лексічнае і сінанімічнае багацце роднай мовы, якая тады паўсюль бруілася чыстымі крыніцамі, незамутнёнымі чужароднымі ўплывамі. Усё гэта надзвычай спрыяла шпаркаму станаўленню мастакоў слова. Менавіта ў гэтым бачыцца нам асноўная прычына таго, што праз пару гадоў пасля таго, як была аб'яўлена і пачала актыўна ўвасабляцца ў жыццё палітыка беларусізацыі (а гэта і была ленінская нацыянальная палітыка ў яе рэальным дастасаванні да канкрэтных умоў рэспублікі), нібы грыбы пасля спорнага дажджу пачалі прарастаць сотні маладых пісьменнікаў».



**Крытыка: Яўген ЛЕЦКА (Анталогія беларускага апавядання 20-х гадоў. №№ 2, 5, 7, 8, 12).**

# МІС ФОТА СССР

## У ШТО АПРАНУЦЬ ПРЫГАЖУНЮ?

**ГЭТУЮ ПРАБЛЕМУ ВЫРАШАЕ МІНСКАЯ АБУТКОВАЯ ФАБРЫКА «ПРАМЕНЬ».**




Фота Альгімантаса АРМОНАСА.

**СТУДЗЕНЬ**

| П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ☽1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | ○9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | ☾17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | ●24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | ☽31 | | | | | | | | | | | |

Фазы Месяца: ☽ — 1—8 — сход, ○ — 9—16 — поўня, ☾ — 17—23 — ветах, ● — 24—30 — маладзік, ☽ — 31—6 лютага — сход.